Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПАЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б

№ 6—7
ЧЭРВЕНЬ—ЛІПЕНЬ

МЕНСК — 1928

В. Кнорын

# Аб самакрытыцы, ініцыятыве мас і савецкіх бюракратах

Буйнейшыя посьпехі рабочае клясы і шырокіх сялянскіх мас нашае краіны ў справе сацыялістычнага будаўніцтва (прамысловасьць, сельская гаспадарка, культура) не падлягаюць ніякаму сумненьню. Будаўніцтва раду буйных прамысловых прадпрыемстваў, пачатае ў мінулыя гады, з посьпехам падыходзіць к канцу. Праз пару гадоў мы будзем працаваць ужо пановаму і выкідваць на рынак значна большую масу тавару, пры тым па значна паніжаным сабекошце. Уложаны ў сельскую гаспадарку дзяржаўны капітал ужо дае буйны вытворчы эфэкт. Праз год-два гэты эфэкт яшчэ больш узрасьце. У культурнае будаўніцтва мы таксама ўкладваем буйныя сумы, якія пакажуць сябе ў далейшым на павялічэньні тэмпу ўздыму культурнага ўзроўню нашай краіны. Усё гэта забясьпечвае пасьпяховаг прасоўваньне нашай краіны па шляхох сацыялістычнага разьвіцьця. Усё гэта паказвае на становішча рабочых і сялянскіх мас, якое ўсё паляпшаецца. Усё гэта паказвае, што мы будуем пасьпяхова і вылазім з нашага векавога жабрацтва і адсталасьці.

Але мы павінны асабліва падкрэсьліць, што наша будаўніцтва адбываецца ў надзвычайна цяжкіх умовах. Імкнучыся да таго, каб атрымаць як мага хутчэй буйны вытворчы эфэкт, мы часта пачыналі будаўніцтва нашых новых прадпрыемстваў без выстарчальнай тэхнічнай падрыхтоўкі. Вельмі часта, пачынаючы будаўніцтва, мы ня мелі і ня маем досыць прапрацаваных тэхнічных плянаў і чарцяжоў. Вельмі часта нашы пляны ў ходзе работы пераапрацоўваюцца. Усё гэта прыводзіць да таго, што плянавасьць будаўнічых работ парушаецца, чым ствараецца рад буйнейшых дэфэктаў у самым будаўніцтве і адбываецца ўдаражэньне будаўніцтва. Усё гэта балюча б'е ня толькі па нашай савецкай кішэні, але і па настроях рабочых мас, якія кроўна зацікаўлены ў тым каб наша сацыялістычнае будаўніцтва ішло лепш, таней, каб яно шпарчэй давала вытворчы эфэкт. Але гэта паляпшэньне і патаненьне нашага будаўніцтва можа адбыцца толькі пры актыўнейшым удзеле саміх мас у будаўніцтве, пры пастаянным наглядзе з боку рабочых мас над будаўніцтвам, пры ўмове, калі яны будуць выкрываць усе недахопы нашага будаўніцтва. Мы маем вельмі мізэрныя і пры тым мала падрыхтаваныя кадры будаўнікоў і гаспадарнікаў. Яны ніколі ня справяцца з тымі задачамі, што стаяць перад намі, калі яны ня будуць апірацца на актыўную і самастойную рабочую масу, калі яны ня будуць працаваць разам з рабочай масай і пад яе пастаянным кантролем.

Тэхнічныя сілы нашай краіны таксама больш чым нязначныя, мала кваліфікаваны, слаба падрыхтаваны для тэй буйнейшай будаўнічай работы, якая зараз на іх плечы выпадае. Апрача таго, не заўсёды

мы маем справу з бездакорнымі і досыць адданымі нашай справе інжынэрна-тэхнічнымі кадрамі. Таму выстарчальнай дапамогі і ад іх мы не атрымліваем. Усё гэта прыводзіць да значных памылак ва ўсёй нашай будаўнічай і гаспадарчай рабоце. Але памылкі нас не павінны палохаць. Памылкі *могуць быць і павінны быць* выпраўлены самым шырокім удзелам рабочых мас у самай будаўнічай рабоце, кантролем мас над будаўніцтвам, наглядам мас над усім ходам нашай работы. Дзеля гэтага *посьпех нашага сацыялістычнага будаўніцтва залежыць ад разгортваньня ініцыятывы самых шырокіх мас рабочых, ад іх актыўнага ўдзелу ў справе нашага будаўніцтва. Задачай партыі зьяўляецца ўсімі мерамі дапамагаць узьняцьцю гэтай ініцыятывы рабочых мас і арганізаваць іх удзел ва ўсёй будаўнічай і гаспадарчай рабоце.*

Самакрытыка рабочых, якая зараз разгортваецца, павінна падняць гэту ініцыятыву мас і пасунуць яе ў рэчышча практычнай і дзелавой дапамогі сацыялістычнаму будаўніцтву. Тыя, хто не разумеюць буйнейшай ролі самакрытыкі і арганізацыі ініцыятывы рабочых мас у справе разгортваньня нашай будаўнічай работы, тыя не разумеюць асноўнага, не разумеюць шляхоў вырашэньня задачы сацыялістычнага будаўніцтва. Самакрытыка ёсьць тое зьвяно ланцуга, за якое нам зараз трэба ўхапіцца для таго, каб падняць на вышэйшы ўзровень усю работу. Бюракраты, якія не разумеюць гэтага, зьяўляюцца асноўным тормазам у справе партыі па сацыялістычным будаўніцтве і па ўзьняцьці ўзроўню нашае работы. Таму партыя б‘е і будзе моцна біць ня толькі па непасрэдных віноўніках злоўжываньняў, бесгаспадарніках, разгільдзяях, але і па ўсіх тых, хто перашкаджае разгортваньню ініцыятывы мас, хто перашкаджае разгортваньню самакрытыкі, хто ня хоча зразумець гэтай асноўнай устаноўкі нашай партыі.

Чым характэрны зьявішчы, выкрытыя камісіяй ЦК і ЦКК КП(б)Б у Віцебскай арганізацыі, аб якіх гаворыць рэзалюцыя бюро ЦК і прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б, якая сёньня зьмяшчаецца.

Папершае, мы тут маем справу з некаторымі гаспадарнікамі, якія, будучы назначанымі на адпаведную гаспадарчую работу, не кіравалі гаспадаркай. Мы маем справу з некаторымі гаспадарнікамі, якія ня ўмелі кіраваць тэхнічным пэрсаналам і служачымі, а пляліся ў іх у хвасьце. Мы маем справу з некаторымі гаспадарнікамі, якія ня ведалі сваіх прадпрыемстваў і не навучаліся даручанай ім партыяй справе. Ня ўмеючы кіраваць і ня ведаючы сваіх прадпрыемстваў, гэтыя гаспадарнікі зрабіліся заслонай для злоўжываньняў, якія рабіліся за іх сьпіною, і больш таго, часамі яны самі пакрывалі гэтыя злоўжываньні як на гаспадарчай рабоце, так і ў адносінах рабочых. Партыя павінна была зьняць іх з кіруючай гаспадарчай работы, як неапраўдаўшых партыйнага давер‘я на важнейшых пастох сацыялістычнага будаўніцтва, а тых, хто сьвядома зрабіўся заслонай для злоўжываючых,— аддаць пад суд. Пры выкрыцьці гэтых фактаў у Віцебску, мы спаткаліся з некаторымі працаўнікамі прафсаюзаў, якія зрабіліся тыповымі прафбюракратамі, чужымі рабочым масам, якія не разумеюць патрэб рабочых,—з прафбюракратамі, якія перашкаджаюць разгортваньню сацыялістычнай ініцыятывы рабочых мас. Мы маем справу з прафэсыяналістымі, якія зьверху ўніз глядзяць на рабочых, як на непасьпелыя для ўдзелу ў будаўніцтве, глядзяць так, як глядзелі прадпрыемцы. Мы маем справу з прафэсыяналістымі, якія ў імя прафсаюзнай дэмакратыі дазволілі антысавецкім элемэнтам засесьці ў мясцкоме савецкае ўстановы, рабіць розныя безадказныя справы і дыскрэдытаваць гэту ўстанову. Гэтым паказалі поўнае неразуменьне нашай клясавай лініі

ў прафсаюзах і сказілі клясавую лінію партыі. Мы маем справу з працаўнікамі савецкага апарату, савецкімі судзьдзямі, якія бралі хабары і злоўжывалі давер'ем, якое было аказана ім савецкай дзяржавай. Гэтым яны сталі ворагамі савецкае дзяржавы. На шчасьце і на радасьць нашу, усё гэта—адзінкі, выключныя, а ня масавыя зьявішчы і факты. Але мы павінны вырваць іх з коранем, каб другім непавадна было.

Паданыя ў рэзалюцыі факты па Віцебскай акрузе павінны папярэдзіць усе арганізацыі КП(б)Б, стварыць большую пільнасьць і паставіць перад кожным камуністым пытаньне аб паляпшэньні нашага кіраўніцтва гаспадарчым, савецкім і прафсаюзным апаратам. Трэба праверыць склад кіраўнікоў нашых гаспадарчых органаў з тым, каб дабіцца такога складу, які мог-бы на справе адказваць перад савецкай дзяржавай, партыяй і рабочай клясай за даручаную яму галіну гаспадаркі. Трэба абавязкова дабіцца, каб гаспадарнік быў *ня толькі камісарам,* пры тым кепскага тыпу, а фактычна адказным кіраўніком гаспадарчай работы, каб ён вучыўся і навучыўся гаспадарыць і вучыўся кіраваць. У гэтым партыя павінна зрабіць кожнаму гаспадарніку, адміністратару, арганізатару таварыскую дапамогу, але ўсе тыя, хто ня хоча або ня можа гэтага зрабіць, павінны быць выкінуты з нашых гаспадарчых органаў і ўстаноў. Трэба зьмяніць тых прафбюракратаў, якія адарваліся ад мас, якія не разумеюць запатрабаваньняў мас, якія не разумеюць і недаацэньваюць высокай палітычнай сьпеласьці і актыўнасьці гэтых мас. Трэба яшчэ больш рашуча вызваляць савецкі апарат ад варожых элемэнтаў, якія да нас прымазаліся, ад тых, якія разлажыліся, ад п'яніц, ад усіх тых, хто пад прыкрыцьцем савецкай улады хоча рабіць сваю агідную антысавецкую справу.

Наша рэзалюцыя мае, аднак, значэньне ня толькі для аднэй арганізацыі. Тых, хто не спраўляецца з даручанай ім справай і прыкрывае злоўжываньні службовых асоб, у нас хапае ва ўсіх акругах. Прафбюракраты і камуністыя, што разлажыліся, сустракаюцца ўсюды. Наша рэзалюцыя па Віцебску павінна падштухнуць усе нашы партыйныя арганізацыі да таго, каб праверыць і прарабіць сваімі сіламі і сродкамі тое, для чаго ў Віцебску патрэбна было ўмяшаньне камісіі ЦК і ЦКК.

Але выкрытыя за апошні час у Віцебску, Плешчаніцах, Буда-Кашалёўскай і г. д. факты сыгналізуюць яшчэ адно: гэта маральнае разлажэньне некаторых савецкіх працаўнікоў і камуністых. Ва ўсіх гэтых мясцох паасобныя тыпы маглі п'янстваваць і распусьнічаць, гвалтаваць жанчын, і гэта ня было выкрыта на працягу досыць доўгага часу акружаючымі, якім гэта трудна было ня бачыць. Больш таго, выкрываецца, што ў некаторых выпадках, калі паасобныя партыйцы ўзьнімалі голас для барацьбы супроць існуючых вакол агідных учынкаў, яны не сустракалі, падтрыманьня (напрыклад, Віцебскі папраўчы дом, фанэрная фабрыка) з боку другіх, якія не хацелі сварыцца з адміністратарамі, што разлажыліся, а ў некаторых выпадках такіх партыйцаў і беспартыйных рабочых прасьледвалі і звальнялі. Гэта паказвае, што ў радзе ячэек партыйная работа стаіць яшчэ не на адпаведнай вышыні.

Рад кіруючых таварышоў Віцебскай арганізацыі, проста кажучы, прамаргалі, не даглядзелі ўсіх гэтых зьявішч, таму яны прыцягнуты да адказнасьці. Напрыклад, сакратар ячэйкі міліцыі на працягу 6 месяцаў не адсылаў у раённы камітэт пратаколу пасяджэньня ячэйкі, на якім разглядаліся ўсе непарадкі, што тварыліся ў папраўчым доме. Але больш таго, раённы камітэт, які аб'ядноўвае ня больш двух дзесяткаў ячэек, не ўстанавіў гэтага факту, не запрасіў, ня выкрыў учынкаў міліцэйскага партбюракрата, які не захацеў выносіць сьмецьця з хаты. Такія партбюракраты, якія ня хочуць выносіць сьмецьця з хаты і гэтым

прыкрываюць злоўжываньні ў сваёй установе, павінны быць зьняты з партыйнага кіраўніцтва і прыцягнуты да адпаведнай адказнасьці. Гэта падкрэсьлівае рэзалюцыя ЦК і ЦКК. Гэтыя факты з жыцьця Віцебску паказваюць, што ня ўсюды наша партыйнае кіраўніцтва стаіць на адпаведнай вышыні. Гэта пацьвярджаецца яшчэ і тым, што група прахадзімцаў на працягу доўгага часу магла тварыць сваю брудную справу ў Плешчаніцкім і Буда-Кашалёўскім раёнах і ня былі сваечасова выкрыты.

Гэта трэба абавязкова ўстанавіць і надалей.

Віцебская арганізацыя зьяўляецца здаровай і моцнай арганізацыяй, з значнай колькасьцю камуністых-рабочых ад варштату. Яна ўзялася разам з усімі беспартыйнымі рабочымі, за рашучае выкарчоўваньне безгаспадарнікаў, бюрократаў, п'яніц і разгільдзяяў. Ніхто не павінен кінуць папроку Віцебскай арганізацыі і віцебскім рабочым, таксама, як ніхто не павінен кідаць папрокаў і гаварыць аб разлажэньні ў Плешчаніцкай і Буда-Кашалёўскай раённых *арганізацыях.* Н. Бімц, які ў № 128 газэты „Рабочий“ гаворыць аб тым, што Буда-Кашалёўская партарганізацыя „дайшла да поўнага разлажэньня“, што для гэтай арганізацыі характэрна „п'янства, зажым і кругавая парука“, зьяўляецца найагіднейшым дробна-буржуазным паклёпнікам на партыйную арганізацыю. Дасужыя журналістыя, якія гатовы ўзводзіць паклёпы на нашу партыю і на паасобныя яе арганізацыі, павінны быць асуджаны самым рэзкім чынам.

Рабочая кляса і наша партыя маюць такія запасы энэргіі, правільным выкарыстаньнем якіх можна ня толькі зьнішчыць усе існуючыя недахопы ў нашым апараце, але можна зрабіць цуды ў галіне сацыялістычнага будаўніцтва. Таму нам трэба яшчэ шырэй разгарнуць нашу пралетарскую самакрытыку. Трэба зьнішчыць усякі зажым, усякае запалохваньне паасобных партыйцаў і беспартыйных рабочых, што выкрываюць недахопы. Трэба нашу самакрытыку накіраваць на рэйкі сапраўднай дапамогі зжываньню існуючых недахопаў у нашай рабоце. Трэба вымагаць, каб нашы партыйныя і прафсаюзныя сходы былі-б лепш арганізаваны, чым да гэтага часу. Ні адна заўвага, зробленая беспартыйным рабочым, або членам партыі не павінна прайсьці незаўважанай. Кожная заўвага павінна быць зафіксавана ў пратаколе сходу. Трэба дамагацца, каб пратакол кожнага схоху з запісанымі туды заявамі і выступленьнямі членаў партыі і беспартыйных рабочых прачытываўся-б і правяраўся наступным сходам, трэба дамагацца, каб па кожнай заяве, зробленай рабочым, камсамольцам, камуністым на наступным сходзе было-б зроблена паведамленьне аб мерах, якія ўжыты для зьнішчэньня зазначанага недахопу. Трэба навучыцца ня толькі крытыкаваць, але і зжываць паказаныя рабочымі недахопы. Тады мы ня толькі справімся з недахопамі. Тады наша сацыялістычнае будаўніцтва пойдзе наперад яшчэ больш шпаркім тэмпам.

Пасьля кожнага выкрытага і зьнішчанага недахопу мы становімся мацнейшымі.

---

У. Ігнатоўскі

# Да пастаноўкі пытаньня аб паўстаньні 1863 году

Паўстаньне 1863 году ў гістарычнай літаратуры звычайна носіць назву польскага паўстаньня. Такая назва павінна быць прызнана правільнаю пастолькі, паскольکі паўстаньне 1863 году ў цэлым ставіла сваёю мэтаю ў першую чаргу пабудову новай Польшчы; паскольکі ідэёвым і агульна-арганізацыйным рэволюцыйным цэнтрам паўстаньня была Варшава, зьвязаная з заходня-еўрапейскімі і расійскімі рэволюцыйнымі цэнтрамі і паскольکі паўстаньне абхапіла ўсю тэрыторыю былой Рэчы Паспалітай Польскай. Польшча першая ўва ўсходняй Еўропе агаласіла неабходнасьць аграрнай рэволюцыі. Маркс і Энгельс у „Новай Рэйнскай Газэце“ так формулявалі гэтую думку: „Прасторныя землямробскія краіны паміж Бальтыцкім і Чорным марамі могуць вызваліцца ад патрыярхальна-фэўдальнага барбарынства толькі пры дапамозе аграрнай рэволюцыі, каторая перавярне прыгонных і абавязаных паншчынаю сялян у вольных земляробаў,—рэволюцыі зусім аналёгічнай францускай рэволюцыі 1789 году на вёсцы. Польская нацыя мае тую заслугу, што яна першая агаласіла гэта сярод усіх суседніх з ёю земляробскіх краін“[1]).

Але адначасна з тым трэба памятаць, што былая Рэч Паспалітая складалася з уласнай Польшчы (Кароны), Беларусі і Літвы (быўшага вялікага княства Літоўскага) і Украіны (Русі). Такім спосабам, паўстаньне 1863 году вышла далёка за межы уласнай Польшчы. Яно абхапіла Беларусь, Літву і Украіну. Зразумела, што паставіўшы сваёю мэтаю пабудову ў першую чаргу новай Польшчы, яно разам з тым падняло пытаньне аб палітычным і соцыяльным вызваленьні насельніцтва Беларусі, Літвы і Украіны. У праграму радыкальнай, чырвонай часткі паўстанцаў увашло пытаньне аб утварэньні ў гэтых краінах аўтаномных дзяржаўных арганізмаў, каторыя, зрабіўшы разам з Польшчаю паўстаньне, і надалей існавалі-б у той ці іншай сувязі з ёю. Цэнтральны Комітэт у Варшаве ў канцу 1862 году заяўляе, што паўстаньне, апроч непадлегласьці Польшы, павінна даць вольнасьць усім насельнікам Польшчы, а таксама роўнасьць і ўшанаваньне правоў усіх народаў, злучаных з Польшчай. Такія правы Комітэт прызнае за Беларусьсю, Літвой і Украінай. Комітэт не ўяўляе сабе іншай Польшчы, як толькі ў даўных межах, але з вольнымі народамі, каторыя дабрахвотна ўвойдуць у яе склад. Не надужыцьцямі ўтрымліваюцца провінцыі і народы ў еднасьці і згодзе, а ўшанаваньнем волі і індывідуальнасьці народнай[2]).

У сваёй практыцы Варшаўскі паўстанскі цэнтр, асабліва калі ён складаўся з радыкальных, чырвоных элемэнтаў, ня толькі не выключаў,

---

[1]) Д. Рязанов. Очерки по истории марксизма. Маркс и Энгельс о польском вопросе. ИЗО. „Московский Рабочий“. Москва. 1923 г. стар. 615—616.

[2]) Падпольная часопісь „Ruch“, за 1862 год, № 10.

але, наадварот, прызнаваў, апіраўся і зьвязваўся з паўстанскімі цэнтрамі іншых нацыянальных тэрыторый, як напрыклад, з Віленскім паўстанскім цэнтрам, астаўляючы за гэтымі цэнтрамі самастойнасьць у той меры, у якой гэта было магчыма ў напружаныя часы паўстаньня, якое вымагала ад удзельнікаў у ім концэнтрацыі сіл і сродкаў. Былі выпадкі спрэчак паміж Варшаўскім і Віленскім цэнтрамі. Гэтыя спрэчкі і разыходжаньні найчасьцей залежалі ад белага ці чырвонага складу таго ці іншага цэнтру. Такім спосабам, польскае паўстаньне 1862 году было для Беларусі і на Беларусі беларускім паўстаньнем. Для кожнай закранутай паўстаньнем тэрыторыі паўстаньне 1863 году было нацыянальна-дэмократычным рухам, каторы меў сваёю мэтаю вызваліць яе з пад пяты Расійскага царскага самаўладзтва і ўтварыць у будучыне лепшыя соцыяльныя ўмовы жыцьця.

У паўстаньні прымалі той ці іншы ўдзел разманітыя соцыяльныя групы, незадаволеныя ў той ці іншай меры політыкаю расійскага царскага ўраду. Тут былі і буйныя земляўласьнікі Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны, у каторых пасьля паўстаньня 1831 году расійскі ўрад конфіскаваў маёнткі для перадачы рускім земляўласьнікам і да каторых наогул адносіўся недаверчыва. Былі тут і прадстаўнікі прамысловасьці і гандлю, нязгодныя з прыгонна-юнкерскай політыкай царызму. Галоўную масу паўстанцаў складалі—дробная зьбяднелая шляхта і вышаўшая з яе абязьзямеленых ці малазямельных шэрагаў разначыннае інтэлігенцыя, каторым рускі царызм ня мог і не хацеў забясьпечыць кавалка хлеба; рамясьнікі і рабочыя па гарадох і частка сялянства па вёсках, для каторых сучасны ім політычны і соцыяльны строй быў нявыносны. Само сабою зразумела, што для ўсіх гэтых соцыяльных груп не магло быць цэльнай адзінай праграмы, бо інтарэсы іх былі ня толькі не аднальковыя, але вельмі часта процілеглыя. Тым больш, што да соцыяльнага падзелу паўстанцаў далучаўся і нацыянальны падзел. Паўстанцы з самага пачатку руху разьбіліся на політычныя групы, каторыя склалі чырвоную і белую партыі. Белая партыя па сутнасьці трымалася ўгоды з царызмам. Частка яе на гэтай угодзе трымалася ўвесь час, стоячы на грунце легальнай опозыцыі. Тыповым прадстаўніком гэтай групы быў, напрыклад, Велепольскі. Частка белых, пасьля даволі доўгіх хістаньняў, увашла ў паўстаньне, лічучы яго толькі сродкам для чужаземнай інтэрвенцыі ці дыплёматычнага ўтыканьня. Сюды належалі такія групы, як напрыклад, група Андрэя Замойскага, прамыслоўцаў і гандляроў мільлеранаў, група Віктара Старжынскага, Лапы і іншых на Беларусі. Усе белыя наогул былі супраціўнікамі аграрнай рэволюцыі. Прымаючы ўдзел у паўстаньні, яны ўсімі мерамі стараліся перашкаджаць чырвоным у іх соцыяльных імкненьнях. Пачаўшы з угоды, белыя ўгодаю і скончылі. Зьлякаўшыся аграрнай рэволюцыі, баючыся згубіць свае маемасьці і політычныя выгады, яны вышлі з паўстаньня і кінуліся ў абыймы царызму, выкупаючы свой былы часовы ўдзел у паўстаньні здрадаю чырвоных У нацыяльным пытаньні белыя былі прыхільнікамі паглычэньня Беларусі, Літвы і Украіны Польшчаю.

Чырвоныя ставілі сваёю мэтаю шляхам аграрнай і політычнай рэволюцыі ўтварыць дэмократычную рэспубліку. Паўстаньне яны лічылі тым паядынчым сродкам, каторы прывядзе да пастаўленай мэты. Больш правыя колы іх тым ня менш часта занадта пазіралі з надзеяю на Заходнія ўрады. У вырашэньні нац.-пытаньня чырвоныя былі старонькікамі фэдэралістычнай тэорыі Герцэна і Бакуніна. Чырвоныя ня былі таксама адналітай партыяй. Іх магчыма падзяліць на ўмеркаваных і ўскрайніх чырвоных. У той час, як ускрайнія чырвоныя моцна трыма-

лісяў сваёй рэволюцыйна-дэмократычнай праграмы, умеркаваныя часта скатываліся ў бок белых. Да ўскрайніх чырвоных трэба аднесьці такіх паўстанцаў як, Л. Мераслаўскі, Я. Дамброўскі, В. Урублеўскі, К. Каліноўскі, К. Мацкевіч і іншыя. Да ўмеркаваных чырвоных трэба аднесьці З. Серакоўскага, Л. Зьвярждоўскага, Падлеўскага, О. Авэйдэ і іншых. Умеркаваныя чырвоныя ў сваім правым крыле зьліваліся з больш левымі коламі белых.

Тым ня менш усё паўстаньне ў цэлым ішло па шляху барацьбы з царызмам і не перастала быць прогрэсіўным гістарычным зьявішчам. Галоўную масу яго складалі—дробная шляхта, разначынцы, вучнёўская моладзь, рамясьнікі, рабочыя і сяляне. Аб гэтым у 1874 годзе Ф. Энгельс гаворыць так: „Польшча яшчэ ў большай меры, чым Францыя, пастаўлена сваім гістарычным разьвіцьцём і сваім сучасным станавіскам перад выбарам—ці быць рэволюцыйнай ці загінуць. Дзякуючы гэтаму губіць усякае значэньне ўся недарэчная балбатня аб пераважна арыстакратычным характару польскага руху. У польскай эміграцыі даволі людзей, каторыя маюць арыстакратычныя замашкі, але як толькі сама Польшча прыходзіць у рух, ён робіцца наскрозь рэволюцыйным, як гэта мы бачым у 1846 і 1863 гадох“[1]. Шмат незаможнага элемэнту папала потым у эміграцыю, ратуючыся ад рэпрэсый расійскага царызму. Эканамічнае становішча гэтых эмігрантаў у заходняй Еўропе патым было вельмі цяжкае. У 1865 годзе арганізуецца ў Лёндане мітынг у чэсьць рэволюцыі 1863 году. У сувязі з гэтым Карл Маркс піша[2]) Энгельсу: „Запраўды, мітынг мае на мэце ў першую чаргу грашовую дапамогу. Няўжо-ж павінны паміраць з голаду эмігранты, на гэты раз у большасьці сваёй рабочыя і сяляне і загэтым зусім не атрымоўваючыя падтрыманьня ад князя Замойскага і К-о“.

На паўстаньне 1863 году, як на прогрэсыўнае гістарычнае зьявішча, глядзелі ўсе выдатныя рэволюцыянэры таго часу: Мадзіні, Гарыбальдзі, Буанароці, Герцэн, Бакунін, Чарнышэўскі і іншыя. Мы спынімся на поглядах рускіх рэволюцыянэраў.

Гэрцэн у сваім „Колоколе“, які ён пачаў выдаваць у 1857 годзе вельмі цікавіцца, спачувае і дэтальна спыняецца на пытаньнях паўстаньня і на ўстанаўленьні братэрскіх узаемаадносін паміж Польшчаю Украінаю, Беларусьсю і Літвою. Апроч таго, ён лічыць вельмі важным і рашуча неабходным падняць шырокую агітацыю на карысьць паўстаньня ў Расіі, каб яе рэволюцыйныя сілы злучыліся з сіламі польскага паўстаньня. Па яго думцы вызваленьне Польшчы з Беларусьсю, Літвою, і Украінаю ёсьць палавіна вызваленьня ўсёй Расіі. Калі рэволюцыйная Варшава будзе вольнаю, то гэты факт нанясе канчатковы сьмяротны ўдар рэакцыйнаму царскаму Пецярбургу, бо ў Расійскага царызму тады ня будзе ніякай магчымасьці, ніякай моцы ісьці проці рэволюцыйнай пропаганды. У інтарэсах самой Расіі, як дзяржавы, у інтарэсах яе паступовых і рэволюцыйных сіл трэба падтрымоўваць найшчыльнейшую сувязь з дэмократыяй паўстаньня 1863 году. Герцэн лічыў патрэбным бясшчадна змагацца з тымі, хто іначай адносіўся да паўстаньня. Так ён паступіў, напрыклад, у адносінах да вядомага рускага пісьменьніка таго часу І. Тургенева. І. Тургенеў, каторы лічыўся лібэралам пасьля таго, як распачалося падаўленьне паўстаўньня, напісаў прыватны ліст на імя цара Аляксандра II. У сваім лісьце ён сьпяшаецца асудзіць і закляйміць паўстанцаў, як здраднікаў у адносінах да расійскай айчыны і пару-

---

[1]) Рязанов Д. Очерки по истории марксизма. Москва. 1923. Стар. 636.
[2]) Ibid Стар. 628.

шіцеляў прысягі цару. У канцы ліста ён выказвае свае гарачыя вернападданіцкія пачуцьці ў адносінах да царскага трону. Да ліста Тургенеў дадае сваю „скромную“ афяру (два чырвонцы) на карысьць рускіх салдатаў, каторыя пастрадалі пры засьмірэньні паўстаньня. Герцэн у „Колоколе“ абураецца гэтым агідным паступкам „сівавалосай Магдалены“ (Тургенева), якую нават і ўва сьне мучыць сумленьне за яго былы лібэралізм. Н. Ленін так піша аб Герцэне гэтага часу і адносінах яго да паўстаньня: „Калі ўся хэўра рускіх лібэралаў адкацілася ад Герцэна за абарону ім Польшчы, калі ўсё так званае эдукаванае грамадзянства адвярнулася ад „Колокола“, Герцэн не смуціўся. Ён не пераставаў абараняць свабоду Польшчы і бічаваць засьмірыцеляў, катаў і вешальнікаў (разумеецца ў першую чаргу Мураўёў вешальнік у Вільні. Ў. І.) Аляксандра II. Герцэн выратаваў чэсьць рускай дэмократыі. „Мы выратавалі чэсьць рускага імя пісаў ён Тургеневу —і за гэта пастрадалі ад рабскай большасьці“[1]). Такую самую позыцыю заняў Герцэн у адносінах да песьняра Некрасава, калі апошні зьнізіўся да прывітальнага вершу ў чэсьць Мураўёва. Герцэн назваў патрыятызм Некрасава „патрыятычным сіфілісам“ і асудзіў яго паступак у сваім „Колоколе“. Герцэн пісаў: „Брава, Некрасаў, брава. Прызнаемся гэтага ад вас мы не чакалі, а да рэчы вам вядома, як інтымна мы ведаем вашую біографію і як многа мы маглі ад вас чакаць. Брава, Некрасаў, брава“ [2]).

Бакунін таксама падтрымліваў паўстаньне 1863 году. У гэтыя часы Бакунін вельмі цікавіцца нацыянальнымі рухамі сярод славянскіх народаў. У сваіх творах ён агалашае неабходнасьць вызваленьня ўсіх славян з пад пяты царскай Расіі і Аўстрыі, а таксама патрэбу зьніштажэньня гэтых дзяржаў і ўтварэньня на іх руінах усеславянскай фэдэрацыі. Паўстаньне 1863 году, па думцы Бакуніна, як раз і дзейнічала ў патрэбным напрамку.[3]). Яшчэ ў 40-я гады ў газэце „Konstitutionel“ (№ 78 за 19 сакавіка 1846 году) Бакунін лічыць патрэбным выступіць на абарону Польшчы і проці прасьледваньняў уніятаў на Беларусі. „Я—русскі і люблю маю краіну. Вось дзякуючы гэтаму, я, падобна вельмі многім рускім, шчыра жадаю перамогі польскаму паўстаньню“. Праз некалькі радкоў Бакунін піша: „Усім вядома, да якіх незаконных гвалтоўных і часта лютых мерапрыемстваў зьвярталася руская ўлада для таго, каб прымусіць жыхароў Літвы і Беларусі зьмяніць сваю веру“[4]). Бакунін далей супыняецца на адгіных фактах прымусу і асуджае іх.

Таксама адносіўся да польскага пытаньня і Чарнышэўскі. Ю. Сьцяклоў піша аб гэтым так: „Спачуцьцё Чарнышэўскага нацыянальна-вызваленчай барацьбе палякоў ня было сэкратам. Яно паміж іншым пэўна было вызначана ў яго артыкуле „Национальная бестактность“ (Творы, т. VIII), выклікаўшым цэлы шэраг даказчыцкіх рэплік у рэакцыйным друку, прыватна, у Аксакаўскім „Дне“. З вядомым польскім рэволюцыянэрам Серакоўскім (выведзены ў рамане „Пролог“ пад фаміліяй Сакалоўскі) Чарнышэўскі быў у прыяцельскіх адносінах. Вераемна, што ён быў знаёмы і з Падлеўскім, магчыма і з Я. Дамброўскім і з іншымі. Зразумела, што Чарнышэўскі быў проці дамаганьняў польскіх нацыяналістых на украінскі і беларускі народы, але, з таго-ж пункту погляду права кожнай нацыі на поўнае самавызначэньне, ён нават у

[1]) Н. Ленин. Собрание сочинений. Т XII. ч. I. стар 99.
[2]) „Колокол“, 1866 год. № 220.
[3]) „Пролетарская Революция“. 1926 год. № 7 (54) Бакунин перед саксонской следственной Комиссией. Предисловие В. Полонского. Стар. 162—163.
[4]) Красный Архив“. 1926 год. Т I(XIV). Ю. Стеклов. Бакунін в 40-е годы. Стар. 73.

падцанзурным артыкуле адкрыта прызнаваў права палякоў на аддзяленьне і самастойнае існаваньне[1]).

Кароль Маркс і Фрыдрых Энгельс на ўсім працягу сваёй дзеяльнасьці вельмі часта спыняліся на польскіх паўстаньнях. Паколькі польскія паўстаньні займалі сабою доўгі час (ад пачатку 30-х да сярэдзіны 60-х гадоў 19-га стагодзьдзя), пастолькі Маркс і Энгельс падыходзілі да разьвіваўшыхся перад імі падзей і фактаў у сувязі з акаляючымі іх абставінамі, пастолькі погляды іх не маглі быць нязьменнымі на ўсім працягу іх працы. У асноўным адносіны асновапаложнікаў рэволюцыйнага марксызму да польскага пытаньня т-шч Д. Разанаў[2]) малюе так: „Як ні востра проціпастаўляе сябе буржуазнай дэмократыі дэмократыя пролетарская, як яна выявілася ў творах Маркса і Энгельса, усё-ж яна заемствавала з буржуазнай палітычнай праграмы, разам з іншымі палітычнымі запатрабаваньнямі, і запатрабаваньне адбудаваньня незалежнай Польшчы. Розьніца толькі ў тым, што абыдва асновапаложнікі научнага соцыялізму прагнуліся падмацаваць гэтае запатрабаваньне новымі довадамі, а таксама з самага пачатку прагнуліся процідзейнічаць ілюзіям польскіх рэволюцыянэраў". Прыблізна ў аднальковых з т-шчам Д. Разанавым рысах малюе адносіны Маркса і Энгельса да польскіх паўстаньняў і т-шч А. В.[3]). Ён паміж іншым піша: „Маркс і Энгельс па меры развою падзеяў, зразумела, зьмянялі ня раз свае канкрэтныя погляды на польскую справу ў сувязі з той ці іншай фазай гістарычнага разьвіцьця. Але ва ўсякім выпадку ў іх заўжды пераважаў адзін і той самы погляд—інтарэс дэмократычнай рэволюцыі, абарона дэмократыі і соцыялізму перад сталаю небясьпекаю, перад сталаю пагрозаю з боку дэспотычнага расійскага волата. Царызм быў наймагутнейшаю, найгрозьнейшаю апораю еўрапейскай рэакцыі. Пакуль у самой імпэрыі не зьявіліся сілы, здольныя ў сваім разьвіцьці зьнішто- жыць гэтага грознага волата, пакуль ён здаваўся непарушным гранітам, польскія паўстаньні, незалежна ад свайго палітыка-соцыяльнага зьместу ў самай Польшчы, былі адным з найважнейшых сродкаў заслоны еўрапейскай дэмократыі перад пагрозаю гэтага волата і аслабленьня яго ў сярэдзіне самай Расіі... Але з гэтага ні ў якім разе не вынікае, каб еўрапейскія рэволюцыйныя дэмократы, каб Маркс і Энгельс і каб самі польскія дэмократы ня бачылі адваротнага боку мэдаля і не крытыкавалі самых паўстаньняў. Крытыкавалі, і яшчэ як".

Калі падагульніць усё вышэйпаданае, то мы прыходзім да такога вываду. Маркс і Энгельс лічылі польскія паўстаньні, у тым ліку і паўстаньне 1863 году, прогрэсыўным гістарычным зьявішчам. Яны падтрымлівалі іх самі і заклікалі другіх да падтрыманьня іх, асабліва прыймаючы пад увагу значэньне польскіх паўстаньняў для дэмократычнай рэволюцыі на Захадзе і для барацьбы з расійскім царызмам. Свае погляды, параўнаўча з буржуазна-дэмократычнымі аўтарамі, Маркс і Энгельс падмацоўвалі клясавым падыходам да справы, што давала ў іх рукі новыя довады для правільнай ацэнкі польскіх паўстаньняў. Урэшце, яны не заплюшчвалі вачэй і на адваротны бок мэдаля, крытыкавалі недахопы паўстаньня і процідзейнічалі ілюзіям польскіх рэволюцыянэраў. Нам астаецца пацьвердзіць такія адносіны Маркса і Энгельса да польскіх паўстаньняў адпаведнымі выняткамі.

---

[1]) „Красный Архив". 1927 год. Т. III (XXII). Записка А. Н. Пыпина по делу Н. Чернышевского. Вступит. статья и примечания Ю. Стеклова. Стар. 233-234.

[2]) Д. Рязанов. Очерки по истории марксизма. Москва. 1923. Стар. 607.

[3]) A. W. Znowu nacjonal-bolszewizm. „Trybuna Radziecka". 1928, 25/III № 13 (50). Стар. 4.

Аб прогрэсыўнасьці паўстаньняў Маркс і Энгельс гавораць вельмі часта, пачынаючы з восені 1847 году. Энгельс падкрэсьлівае, што нямецкія дэмократы зацікаўлены ў посьпеху польскіх паўстаньняў і ў вызваленьні Польшчы з-пад гнёту царызму; што вызваленьне Нямеччыны ня можа адбыцца, пакуль не адбудзецца вызваленьне Польшчы; што, як толькі ў Польшчы распачнецца рух, ён заўжды робіцца наскрозь рэволюцыйным. Энгельс лічыць неабходным, каб рабочая кляса Захаду ў сваіх рухах не аставалася безразьлічнаю да лёзунгаў польскіх паўстаньняў. Ён вызначае, што так і было заўжды дагэтуль. „Дзе толькі рабочая кляса брала самастойны ўдзел у палітычных рухах, там з самага пачатку яе замежная палітыка выражалася ў двух словах— адбудаваньне Польшчы. Так было ў часы руху чартыстых у Англіі, пакуль ён існаваў. Тое самае датычыць француcкіх рабочых яшчэ задоўга да 1848 году. Так было ў Нямеччыне, калі ў 1848-49 гадох рабочыя часопісы жадалі вайны з Расіяй для адбудаваньня Польшчы[1]).

З твораў К. Маркса мы прыводзім толькі адзін вынятак, як вельмі яскравы. У „Новой Рейнской Газете“ Маркс піша ніжэйпаданае аб польскім пытаньні. „Польшча, дзякуючы соцыяльным умовам, зрабілася рэволюцыйнай часткаю Расіі, Аўстрыі і Прусіі. Опозыцыя яе проці захопнікаў была адначасова опозыцыяй проці вышэйшай арыстократыі ў самой Польшчы. Нават шляхта, якая часткаю яшчэ стаяла на фэўдальным грунце, прылучылася з беспрыкладным захапленьнем да аграрнай рэволюцыі. Польшча была агніскам еўрапейскай дэмократыі ўжо тады, калі Нямеччына яшчэ блуталася вобмацкам у найблагшай констытуцыяналістычнай ідэолёгіі і ў напышчанай філёзофскай ідэолёгіі. У гэтым, а не ў развою даўно памершага рыцарства ляжыць неабходнасьць адбудаваньня Польшчы. Пакуль мы (немцы) дапамагаем прыгнятаць Польшчу, пакуль мы далучаем частку Польшчы да Нямеччыны,—мы самі астаёмся зьвязанымі з Расіяй і расійскай палітыкай, мы ня можам і ў сябе ў хаце радыкальна вызваліцца ад патрыярхальна-фэўдальнага абсолютызму. Утварэньне дэмократычнай Польшчы ёсьць першая ўмова ўтварэньня дэмократычнай Нямеччыны“[2]).

Прызнаючы польскія паўстаньні, у тым ліку і паўстаньне 1863 г. прогрэсыўным гістарычным зьявішчам, Маркс і Энгельс прыкладаюць да іх клясавую мерку, што ўносіць новае разуменьне ўнутранай сутнасьці паўстаньняў. Соцыяльна-клясавы аналіз паўстаньняў злучаецца з прызнаньнем іх агульна-прогрэсыўнага значэньня для дэмократыі. Пры такой пастаноўцы пытаньня для нас робяцца яснымі ўзаемаадносіны паміж белаю і чырвонаю партыямі паўстаньня, каторыя вельмі часта выліваліся ў вельмі вострую, зацятую барацьбу за ўладу, за кіраўніцтва паўстаньнем. Зразумела, што Маркс і Энгельс не зьяўляюцца прыхільнікамі праграмы белых і яе рэалізацыі. Яшчэ ў 1847 г. Маркс гаворыць, што старая Польшча загінула канчаткова і беспаваротна і што ў імя прогрэсу ня можна жадаць яе ўвастанаўленьня. Белая група паўстанцаў марыць аб тым, каб Польшча ўваскросла ў старым выглядзе: з гэтым рэволюцыйны марксызм не згаджаецца. У 1848 годзе, напярэдадні лютаўскай рэволюцыі 1848 году, у Брусэлі на сходзе Дэмократычнага Таварыства ў другую гадавіну Галіцыйскага паўстаньня Маркс падкрэсьлівае яшчэ раз, што справаю еўрапейскіх дэмократаў зьяўляецца вызваленьне і пабудаваньне не старой фэўдальнай Польшчы па праграме белых, а новай дэмократычнай Польшчы па праграме чырвоных. На гэтым-жа сходзе Энгельс яскрава вызначае

[1]) W. Gumplowicz. Socjalizm i sprawa polska. Стар. 4.
[2]) Н. Ленин. Собрание сочинений. Т. IV, стар, 224-225. W. Gumplowicz. Ibidem Стар. 11.

два бакі паўстаньня. Ён гаворыць, што барацьбу паўстанцаў проці прыгнетацеляў, якімі зьяўляюцца Расія, Аўстрыя і Прусія, павінна папярэджаць соцыяльная клясавая барацьба паміж самымі паўстанцамі. Далей Маркс і Энгельс закранулі польскае паўстаньне і ў „Комуністычным Маніфэсьце“. Яны тут ясна вызначылі, каго павінны падтрымліваць комуністы ў паўстаньні. „Сярод палякоў комуністы падтрымліваюць партыю, каторая ставіць аграрную рэволюцыю неабходнаю ўмоваю нацыянальнага вызваленьня, тую самую партыю, каторая выклікала кракаўскае паўстаньне 1864 г.“[1]). Як нам вядома, такою партыяю была ўскрайняя чырвоная група Людвіка Мераслаўскага, каторая потым дзейнічала і ў часы паўстаньня 1863 году і мела сваіх прадстаўнікоў як у Польшчы, так і на Беларусі, Літве і Украіне.

Клясавы падыход К. Маркса да паўстаньня 1863 году мы бачым яшчэ і з такога, напрыклад, факту. У сярэдзіне сакавіка 1863 году белым колам удалося паставіць на чале паўстаньня Польшчы белую дыктатуру Марыяна Лангевіча. Варшаўскі Цэнтральны Комітэт, каторы, дзякуючы цэламу шэрагу прычын, значна пабялеў ужо к гэтаму часу, згадзіўся на гэтую дыктатуру пасьля перагавораў з Лангевічам. Чырвоныя паўстанскія колы ў Польшчы былі вельмі незадаволены адбыўшымся фактам. Што датыча Беларусі, то тут белыя выкарысталі гэты факт для таго, каб зрабіць белы пераварот у Вільні. Калі аб устанаўленьні дыктатуры М. Лангевіча даведаўся К. Маркс, ён адразу зразумеў соцыяльную сутнасьць адбыўшагася захопу ўлады і перамены ў кіраўніцтве паўстаньнем. Ён прызнаў адбыўшыйся факт не дадатнім, а адмоўным, бо бачыў у ім перамогу белых над чырвонымі. Такі самы клясавы падыход да паўстаньня 1863 г. мы бачым і ў прадмове Энгельса да польскага выданьня „Комуністычнага Маніфэсту“, каторая была напісана ў 1892 годзе і аб каторай мы будзем гаварыць яшчэ крыху ніжэй.

Вельмі рана ў Энгельса і Маркса зьявіўся сумнеў у тым, ці зможа сучасная ім Польшча выканаць тую прогрэсыўную ролю, аб якой яны гаварылі і пісалі; ці зможа яна правесьці тую аграрную рэволюцыю, каторая зьяўляецца неабходнаю ўмоваю для яе прагрэсыўнай ролі. Першым загаварыў аб гэтым Энгельс. Яшчэ 23 травеня 1851 году ён піша аб сваім сумневе ў лісьце да Маркса. „Чым больш я задумываюся над гістарычным разьвіцьцём Польшчы, тым ясьней робіцца мне, што палякі зьяўляюцца nation foutue, нацыяй, якая толькі да таго часу можа быць выкарыстана, як сродак, пакуль Расія сама не ўцягнута ў аграрную рэволюцыю. З гэтага моманту у палякоў не застаецца ні малейшага raison d' être. Палякі на працягу ўсёй сваёй гісторыі не рабілі ніколі нічога іншага, апроч таго, што вытваралі храбрыя неразважлівыя глупствы. Не магчыма вызначыць ані аднага такога моманту, калі Польшча, хоць-бы толькі ў адносінах да Расіі, з посьпехам прадстаўляла прагрэс ці зрабіла што небудзь такое, што мела-бы хоць некаторае гістарычнае значэньне. Расія-ж, наадварот, зьяўляецца запраўды прогрэсыўнай у адносінах да Ўсходу. Рускае панаваньне пры ўсёй яго бездарнасьці, пры ўсім яго славянскім бруду, мае цывілізуючае значэньне для краін Чорнага і Касьпійскага мораў і Цэнтральнай Азіі, для Башкірыі і татараў; пры гэтым Расія ўпітала ў сябе шмат больш элемэнтаў эдукацыі і асабліва прамысловых элемэнтаў, чым Польшча, па ўсёй сваёй натуры рыцарска-мядзьвежая. Перавагаю зьяўляецца ўжо тое, што рускае дваранства фабрыкуе, таргуецца, рабуе, дае сябе псаваць, займаецца ўсялякімі хрысьцьянскімі і еўрэй-

[1]) Д. Рязанов. Очерки по истории марксизма. Стар. 614.

скімі гешэфтамі, пачынаючы з імпэратора і князя Дзямідава і канчаючы пархатым баярынам 14 клясы, каторы завецца толькі „благородием“... Я запэўнены, што аграрная рэволюцыя адбудзецца поўнасьцю ў Расіі раней, чым у Польшчы, дзякуючы нацыянальнаму характару Расіі і большаму разьвіцьцю ў ёй буржуазных элемэнтаў. Што знача Варшава і Кракаў проці Пецярбурга, Масквы і Адэсы і г. д.“ [1])

Як мы бачым з вышэйпаданага вынятку, Энгельс і Маркс дэтальна вывучалі мінулае і сучаснае Польшчы і Расіі, часта гаварылі аб шляхох разьвіцьця гэтых краін і вялі аб іх гутарку ў сваёй перапісцы. Вывучэньне разьвіцьця элемэнтаў прамысловасьці ў Расіі прыводзіць Энгельса да дагадкі, што аграрная рэволюцыя хутчэй адбудзецца ў Расіі, чым у Польшчы. А калі гэта так, то ролі Расіі і Польшчы павінны памяняцца. Сучасная гісторыя нам ужо паказала, што старая дагадка Энгельса спраўдзілася на ўсе сто процантаў.

Адказу з боку Маркса на ліст Энгельса мы ня маем, але магчыма думаць, што гістарычная дагадка Энгельса не асталася бяз уплыву на Маркса. Д. Разанаў прынаймней піша [2]), што „аддзел аб польскім пытаньні ў артыкулах, напісаных Марксам у 1851 і 1852 гадох для „Нью-Йоркской Трибуны“, адзначаецца меншым энтузіазмам і катэгорычнасьцю, чым артыкул у „Новой Рейнской Газете“.

Праходзіць больш двух дзесяткаў год пасьля паўстаньня 1863 г. Адбылося шмат гістарычных падзей, разьвіцьцё каторых было раней толькі дагадкаю. Скончылася і паўстаньне 1863 году, не разьвязаўшы аграрнага пытаньня. Шляхта ня выканала ўзложаных на яе гісторыяй задач. Разьвінулася прамысловасьць у Польшчы і ў Расіі. І Энгельс ў 1892 годзе у прадмове да польскага выданьня „Комуністычнага Маніфэсту“ вызначае, што польская шляхта выявіла сваю поўную нядужасьць і зышла з гістарычнай арэны, як актыўны фактор, што буржуазія польская ня цікавіцца адбудаваньнем Польшчы; што пры такіх умовах запраўднае вызваленьне Польшчы прынясе польскі пролетарыят разам з расійскім пролетарыятам.

Такім спосабам, тая дагадка, якая зьявілася ў Энгельса і Маркса яшчэ ў пачатку 50-гадоў, спраўдзілася. Земляўласьніцкая шляхта, каторая з „бяспрыкладным захапленьнем прылучылася да аграрнай рэволюцыі“ і стала на чале паўстаньня 1862 году, хутка выявіла сваё банкруцтва і з пазорам кінула паўстаньне. Гэтае банкруцтва шляхты стаяла ў беспасрэднай сувязі з тым клясавым procірэччам, якое крылася ў самай соцыяльнай прыродзе ўсіх польскіх паўстаньняў і паўстаньня 1863 году. Прыймаючы ўдзел у аграрнай рэволюцыі, земляўласьніцкая шляхта йшла проці ўласных клясавых інтарэсаў. Яна падрубала той экономічны базіс, на якім грунтавалася. Групава-клясавыя інтарэсы земляўласьніцкай шляхты раскалолі паўстанцаў, выклікалі паміж імі вострую барацьбу, прывялі белых да выхаду з паўстанскіх шэрагаў і далі магчымасьць царскаму ўраду даволі лёгка расправіцца з чырвонаю часткаю паўстанцаў-разначынцамі, дробнаю малазямельнаю і безьзямельнаю шляхтаю, рамясьнікамі, рабочымі і часткаю сялянства,—каторыя асталіся вернымі старому лёзунгу аграрнай рэволюцыі. Апроч таго, царскаму ўраду ўдалося адцягнуць ад паўстаньня значную частку сялянства і нават натравіць яе на паўстанцаў Зразумела, што гэта магло ўдацца ўраду толькі дзякуючы таму, што паміж шляхтаю і сялянствам існаваў адвечны соцыяльны антаганізм. Былыя белыя паўстанцы разам з царскім урадам кінуліся з азьвярэньнем на сваіх ранейшых хаўрусьнікаў. Сялянства ў масе не падтрымала паўстаньня. Паўстаньне правалілася.

[1]) Ibid. Стар. 618.
[2]) Ibid. Стар. 619.

Вельмі часта спыняўся на польскіх паўстаньнях і Ў. І. Ленін. Яго погляды на справу ў сваёй сутнасьці супадаюць з вышэйпаданымі поглядамі Маркса і Энгельса. Зразумела, што Ў. І. Ленін меў магчымасьць больш дэтальна аналізаваць справу, бо ён пісаў аб Польшчы ў пачатку XX стагодзьдзя, калі дагадкі Энгельса і Маркса зрабіліся рэальчымі фактамі, калі Польшча шляхэцка-фэўдальная зьнікла, а яе месца заняла Польшча раней капіталістычная, а потым імпэрыялістычная. Мы спынімся з твораў Ў. І. Леніна толькі на двух вынятках, каторыя робяць пытаньне аб паўстаньні 1863 году і наогул аб Польшчы зусім ясным.

У 1903 годзе ў № 44 „Искры"[1]) зьявіўся артыкул Леніна пад назваю „Национальный вопрос в нашей программе". Тут Ленін цытуе адпаведныя месцы з твораў Маркса і Энгельса, з каторых відна, што яны ў свае часы лічылі польскія паўстаньні прогрэсыўным гістарычным зьявішчам. Ленін з гэтым згаджаецца. Ён піша: „Тагды рэволюцыйнаю была як раз Польшча ў цэлым, ня толькі сялянства, але і маса шляхэцтва. Традыцыі барацьбы за нацыянальнае вызваленьне былі такімі моцнымі і глыбокімі, што пасьля зьнішчэньня руху на бацькаўшчыне лепшыя сыны Польшчы ішлі падтрымліваць усюды рэволюцыйныя клясы. Памяць паўстанцаў Дамброўскага і Ўрублеўскага неразрыўна зьвязана з найвялікшым рухам пролетарыяту 19-га стагодзьдзя, з астатнім—і, будзем спадзявацца, астатнім няўдачным—паўстаньнем парыскіх рабочых. Тагды поўная перамога дэмократыі былі запраўды немагчыма без адбудовы Польшчы. Тагды Польшча была запраўды апораю цывілізацыі проці царызму, перадавым атрадам дэмократыі[2]). Так было тагды. Але цяпер (у 1903 г.) умовы жыцьця зьмяніліся. Тагды была эпоха астатніх буржуазных рэволюцыйных рухаў, а цяпер—эпоха напружаньня ўсіх сілаў перад пролетарскай рэволюцыяй. Паўтараць бяз зьмены старыя палажэньні марксызма ў пачатку XX стагодзьдзя—значыць парушыць дыялектыку гісторыі, значыць, замест сутнасьці марксызму здаволіцца яго літарай. „Цяпер кіруючыя клясы Польшчы, шляхта ў Нямеччыне і Аўстрыі, прамысловыя і фінансавыя тузы ў Расіі выступаюць у якасьці прыхільнікаў кіруючых клясаў у прыгнятаючых Польшчу краінах, а поруч з польскім пролетарыятам, каторы геройскі ўспрыняў традыцыі старой рэволюцыйнай Польшчы, змагаецца за сваё вызваленьне пролетарыят нямецкі і рускі"[3]). У Расеі разьвінулася прамысловасьць, значна ўзрос рабочы рух, утварылася моцная партыя пролетарыяту. Цяпер рабочая кляса ня можа спусьціцца да нацыянал-дэмократычных ідэалаў паўстаньня 1863 году. Мінулі часы, калі буржуазная рэволюцыя магла ўтварыць вольную Польшчу. Польскія рабочыя, ува ўсіх трох дзяржавах, падзяліўшых Польшчу, вядуць клясавую барацьбу проці буржуазіі разам са сваімі таварышчамі па клясе, пабудуюць новую Польшчу. Польскі рабочы ня проці рускага рабочага, а разам з рускім рабочым. Не буржуазная Польшча проці царскай Расіі, а рабочая Польшча разам з рабочай Расіяй проці буржуазнай Польшчы і царскай Расіі.

У 1914 годзе зьявіўся вялікі артыкул Леніна пад назваю: „О праве наций на самоопределение"[4]). Тут у аддзеле 7-м („Решение Лондонского международного Конгресса 1886 г.") Ленін яшчэ раз вяртаецца да закранутага раней пытаньня. Ён яшчэ раз вызначае[5]),

---

[1]) Н. Ленин. Собрание сочинений. Т. IV. 1925. Стар. 221—229.
[2]) Ibid. Стар. 225.
[3]) Ibid. Стар. 225.
[4]) Н. Ленин. Собрание сочинений. Т. XIX. 1921 г. Стар. 97—151.
[5]) Ibid. Стар. 131—132.

што Маркс і Энгельс лічылі ў свае часы прогрэсыўнымі рухамі, польскія паўстаньні, што такі пункт погляду ў эпоху 40 і 60-х гадоў мінулага сталецьця „быў зусім правільным і паядынчым паступова-дэмократычным і пролетарскім пунктам погляду“. Вызначаўшы гэта, Ленін далей падкрэсьлівае наступнае[1]). „Але, калі гэты пункт погляду Маркса быў зусім верны для другой трэці ці трэцяй чверці 19 стагодзьдзя, то ён перастаў быць верным к пачатку XX стагодзьдзя. Самастойныя дэмократычныя рухі і нават самастойны пролетарскі рух прабудзіўся ў большасьці славянскіх краін, і нават у аднэй з найбольш адсталых славянскіх краін, у Расіі. Шляхэцкая Польшча зьнікла і ўступіла сваё месца капіталістычнай Польшчы. Пры такіх умовах Польшча не магла ня згубіць свайго выключна рэволюцыйнага значэньня. Калі ППС прагнуліся ў 1896 годзе замацаваць пункт погляду Маркса іншай эпохі, то гэта абазначала ўжо выкарыстаньне літары марксізму проці духу марксізму. Загэтым зусім правы былі польскія СД, калі яны выступілі проці нацыяналістычных захапленьняў польскай дробнай буржуазіі, паказалі другараднае значэньне нацыянальнага пытаньня для польскіх рабочых, утварылі ўпяршыню чыста пролетарскую партыю ў Польшчы, агаласілі найвялікшай важкасьці прынцып самага сьціслага саюзу польскага і рускага рабочага ў іх клясавай барацьбе“. Да гэтых зусім ясных і вычэрпваючых слоў т-шча Ў. І. Леніна нам ня трэба нічога дадаваць. Яны, дапаўняючы сабою сказанае ў папярэднім вынятку, канчаткова ставяць кропку над І. Ня польская буржуазія ў саюзе з польскім рабочым у сучасны момант пабудуюць новую Польшчу, а польскі рабочы ў саюзе з рускім рабочым. Нацыянальнае пытаньне не выкасоўваецца, як абмылкова думала Р. Люксембург, а набывае другараднае значэньне. На першым пляне стаіць клясавая барацьба пролетарыяту, як Польшчы і Расіі, так і ўсіх краін. Словы Леніна зьяўляюцца непасрэдным уводам у падзеі адбыўшайся праз некалькі год пасьля напісаньня артыкулу Кастрычнікавай рэволюцыі.

Сучаснасьць, як нельга лепш пацьвердзіла тое, што гаварылі Маркс, Энгельс і Ленін. Аграрная рэволюцыя поўнасьцю адбылася ў Расіі, а не ў Польшчы. Замест царскай Расіі ўтварыўся наш Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, каторы складаецца з паасобных пролетарскіх дзяржаў, прототыпам каторых была славутная Парыская Комуна. Польская буржуазія і шляхта, пасьля зруйнаваньня царызма, баючыся пролетарскіх дзяржаў Саюза, зноў сталі на незалежніцкі грунт і ўтварылі ўрэшце, са спазьненьнем на 60 год, дэмократычную Польшчу. Для нас зразумела, чаму польская буржуазія і шляхта, каторыя так дружна жылі з царызмам у астатнія часы яго існаваньня і зусім забыліся аб сваіх незалежніцкіх ідэалах, чаму яны ўспомнілі аб незалежнасьці Польшчы толькі пасьля таго, як у былой Расіі нарадзіўся новы строй. Польская буржуазія і шляхта не маглі згадзіцца з пролетарскаю дыктатураю. З царскаю дыктатураю яны згаджаліся, бо царская дыктатура падтрымлівала іх інтарэсы. Ёсьць усе даныя думаць, што калі-б існавала царская Расія, польская буржуазія і шляхта не ўспомнілі-бы аб сваіх незалежніцкіх ідэалах. Так ці іначай пабудавалася незалежная „дэмократычная“ Польшча, але яе існаваньне зьяўляецца не прогрэсам, а глыбокім рэгрэсам сучаснасьці.

Цяпер Польшча зьяўляецца не „апораю цывылізацыі проці царызма“, чым яна была ў 1863 годзе, а апораю абскуранцкай рэакцыі і фашызму проці соцыялізму і комунізму. Тады лепшыя дэмократы паўстаньня пашлі праліваць сваю кроў на барыкады Парыскай Камуны

[1]) Ibid. Стар. 132.

для ўтварэньня першай пролетарскай дзяржавы, цяпер і лепшыя і горшыя „дэмократы“ сучаснай Польшчы праліваюць кроў рабочых і зьяўляюцца зацятымі ворагамі пролетарскай дзяржавы. Тады адзін з дэмократаў паўстаньня, Л. Мераслаўскі, быў запэўнены, што „Польшча будзе вольнаю толькі тады, калі на кішцы астатняга ксяндза павесяць астатняга шляхціча“, а сучасныя „дэмократы“ ў Польшчы лічаць сваім абавязкам гадаваць цэлыя арміі ксяндзоў і сокамі сялянства карміць абшарнікаў. Паўстанцкі дэмократычны ўрад 1863 году прагнуўся, як мог разьвязаць нац-пытаньне так, каб усе народы ў Польшчы, у тым ліку і беларусы, былі вольныя, сучасны дэмократычны польскі ўрад прагнецца зжыць са сьвету ўсе свае нац-меншасьці. Шмат яшчэ прыкладаў „дэмократычнасьці“ сучаснай шляхэцка-буржуазнай Польшчы магчыма было-б прывесьці, але няма сэнсу гэта рабіць, бо яны ўсім вядомы. Так йдзе дыялектыка гісторыі.

Гаворачы аб польскім паўстаньні, усе паказаныя ў артыкуле аўтары, у тым ліку К. Маркс, Ф. Энгельс і У. І. Ленін разумелі ўсю тэрыторыю, абхопленую паўстаньнем 1863 году, гэта значыць, Беларусь, Літву і Украіну. Вось чаму, напрыклад, т-шч Ленін, называючы імёны лепшых сыноў Польшчы 1863 году, адзначыў, Як Ярослава Дамброўскага, каторы працаваў і змагаўся ў Варшаве і ўва ўласнай Польшчы, так і Валерыя Ўрублеўскага, каторы разам з Кастусём Каліноўскім змагаўся за лепшую будучыну на тэрыторыі Беларусі. Гэта заўжды трэба мець на ўвазе, чытаючы выняткі з іх твораў. Усё тое, што гаварылася раней аб польскім паўстаньні, трэба адносіць і да паўстаньня 1863 году на Беларусі.

---

У параўнаньні з леташнім годам, у гэтую пасяўную кампанію мы адпускаем на кантрактацыю значна больш. Калі летась на кантрактацыю ільну-валакна і бульбы было дадзена 420 тыс. руб., дык у гэтым годзе сума павялічана да 1.085 тыс. руб., больш чым у два разы. Мяркуецца закантрактаваць: ільну-валакна 20.000 гэктараў на 540 тыс. руб., ільну-насеньня—10.000 гэктараў на 75 тыс. руб., піваварнага ячменю—3 000 гэктараў на 35 тыс. руб., бульбы—7 тыс. гэктараў на 275 тыс. руб. і травянога насеньня на 160 тыс. руб.

Да пасеўшчыкаў ужываецца клясавы падыход (беднякам вышэйшыя авансы). У дагаварох больш строга, чым летась, забясьпечваецца паступленьне натурай закантрактаваных прадуктаў.

Па папярэдніх вестках кантрактацыя наогул праходзіць здавальняюча па канюшыне, кораньплодам; некаторае затрымліваньне было па ільну-насеньню для прамысловасьці. Галоўнае, трэба адзначыць, што насельніцтва зразумела сэнс і карысьць кантрактацыі, якая праходзіць у гэтым годзе значна ляпей і больш арганізавана.

На 1-е студзеня 1928 году за лік фонду каапэрыравана ў крэд. сел-гасп. т-вах 12 200 беднякоў. Фонд на 1-е кастрычніка 1927 году складаў 36.398 руб., з іх 18.146 руб. выдзяліла нізоўка, 6.762 руб.— Белсельбанк і 6.338 руб.—Акрсельбанкі. З прыбыткаў 1926-27 году выдзелена ў гэты фонд Белсельбанкам 70 тыс. руб., Акрсельбанкамі—27.700 руб. і нізоўкай 16 тыс. р., ад прыбыткаў ЦСГБанку чакаецца 40 тыс. руб. Такім чынам, увесь фонд у гэтым годзе—190 тыс. руб. Дадзены дырэктывы аб зьнішчэньні фармальных мэтадаў каапэраваных беднякоў да актыўнага ўдзелу ў справах т-ва, а таксама аб роўным і сваечасовым скарыстаньні сродкаў фонду. Выдадзена 26 тыс. руб. для каапэраваньня беднаты і спэцыяльных вытворчых аб'яднаньняў (малочныя, машынныя і інш. т-вы) Астатняя сума павінна пайсьці на каапэраваньне ў сел гасп. крэдытныя таварыствы. Гэтыя мерапрыемствы падвысяць, як ахоп, гэтак і якасьць каапэраваньня беднаты.

За лік фонду ў гэтым годзе будзе каапэравана яшчэ 25 000 беднякоў у крэдытную каапэрацыю і блізка 13.000—у спэцыяльныя віды сел-гасп. каапэратываў.

Фонд па крэдытаваньню беднаты на 1-е красавіка г. г. складаецца з розных сум—1.260 тыс. руб. Да канца году мы мяркуем фонд давесьці да 1.500 тыс. руб.

У кастрычніку 1927 году Белсельбанкам праведзена анкетнае выбарачнае дасьледваньне скарыстаньня пазык з фонду пазычкоўцамі і ўплыву на гаспадаркі па 800 адзінках. Дасьледваньнем выяўлены значны ўздым гаспадарак, рэалізаваўшых пазычкі ў выглядзе падвышэньня ў сярэднім забясьпечанасьці гаспадаркі працоўнай і карыснай жывёлай, будынкамі і інвэнтаром, пашырэньне пасяўной плошчы, павялічэньне на 73% здымаючых зямлю ў арэнду і памяншэньне на 34% здаючых і г. д. Адначасна гэтым дасьледваньнем, як і дасьледваньнем РСІ і НКФ быў выяўлен шэраг недахопаў у накіраваньні гэтага фонду, як-та: затрымліваньне фонду ў т-вах, накіраваньне галоўнай масы ў паасобныя бядняцкія, а часам і серадняцкія гаспадаркі, бяз вучоту гаспадарчасьці пазычкоўцаў, драбленьне пазык, падвышэньне процантаў і. г. д.

З гэтымі няправільнасьцямі вялася і зараз вядзецца рашучая барацьба; праўленьні некалькіх т-ваў прыцягнуты да суровай адказнасьці; усім установам сел-гасп. крэдыту прапанована ліквідаваць усе гэтыя ненармальнасьці.

На падставе зробленага дасьледваньня, распрацованы практычныя мерапрыемствы, якія праводзяцца ў жыцьцё па накіраваньню гэтага

фонду: 1) большая частка сродкаў накіроўваецца па лініі абагуленых бядняцкіх гаспадарак, 2) з паасобных гаспадарак выдаюцца пераважна земляўпарадкаваным, 3) крэдытаваць цэлы комплекс патрэб бядняцкай гаспадаркі, у зьвязку з чым зараз павялічаны разьмер крэдыту да 400 руб. на гаспадарку, тэрмін устаноўлены да 10 год і процант зьніжан з 5 да 2,5% гадавых.

Ажыцьцяўленьне гэтых мерапрыемстваў значна палепшыць вынікі крэдытаваньня беднаты.

Фінансавае становішча зьвеньняў сыстэмы павінна расьці і ўзмацняцца паміж дзяржаўных сродкаў па бюджэце, галоўным чынам, за рахунак мабілізацыі сялянскіх сродкаў і гаспадарчых органаў шляхам укладаў, узносаў паявых капіталаў, задаткаў і ўкладаньня грошай гаспадарчымі органамі для разрахункаў праз сыстэму сел-гасп. крэдыту паміж горадам і вёскай. Гэтая справа ў нас толькі пачата і мы павінны значна больш разгарнуць гэтую працу на вёсцы, прыдаўшы ёй грамадзкі характар, а не адміністрацыйны, бо былі выпадкі, калі ўтрымліваліся паі пры выдачы пазычак—сялянам, у тым ліку і беднаты. Узрост укладаў, асабліва сялянскіх, і іх роля ў балянсе застаецца ўсё яшчэ нязначнай. Уклады ў нізоўцы ўзрасьлі за год з 295 тыс. руб. да 590 тыс. руб.,—амаль у два разы. На 1-е студзеня г. г. сума іх роўна 667,4 тыс. руб., альбо 4,3% да балянсу. Спрыяючым разьвіцьцю было-б тое, каб мясцовыя ўстановы (РВК і г. д.) трымалі ў т-вах часова вольныя сродкі, чаго цяпер няма.

Фактычна сабраны паявы капітал у сярэднім на аднаго члена падняўся за леташні год з 3 р. 60 кап. да 4 р. 30 кап. (на 1/І-28 г.— 4 р. 40 кап., з якіх 20 кап. на гандлёвыя апэрацыі). У перавыбарчую кампанію г. г., у якую ўся сетка пераведзена на новы статут, устаўны пай на 90% т-ваў падвышан да 10 руб. і ўстаноўлены ўзносы членаў у спэц. капітал на гандлёвыя апэрацыі ад 1 да 3 руб. Гэта дасьць магчымасьць пашырыць удзел членаў у таварыстве сваімі сродкамі.

Зьбіраньне ўласных сродкаў ад прыбыткаў адбываецца гэтак: за мінулы год Белсельбанк меў прыбытку 344 тыс. руб., Акр'сельбанкі— 161 тыс. руб., па нізоўцы—121 т-ва далі прыбытак 159, 1 тыс. руб., альбо 1,3 тыс. руб. у сярэднім на таварыства, а 80 т-ваў далі страту 197, 6 тыс. руб., альбо 2,5 тыс. руб. у сярэднім на адно т-ва. Скарачэньне выдаткаў у нізоўцы і ў першую чаргу, утрыманьне апарату ўсё яшчэ застаецца задачай дню, бо кошт апарату ў сярэднім на адно т-ва за мінулы год ня зьнізіўся, а павялічыўся да 3,4 тыс. руб. супроць 3,2 тыс. р. у 1925-26 г. пры зьмяншэньні ліку работнікаў з 7 да 6 адзінак у сярэднім на т-ва.

У бягучым годзе сыстэма шырока падыйшла да дыфэрэнцыяцыі процантных ставак за крэдыт з пазычкоўцаў розных соцыяльных груп у бок патаненьня яго для аб'яднаньняў і беднаты і розных прызначэньняў крэдыту. Зьніжаны проценты па фонду беднаты з 5 да 2,5% па ўсіх крэдытах для калгаспадарак—па доўгатэрміновых з 6 да 5-ці, па кароткатэрміновых з 10-ці да 8, па крэдытах на сельска-гаспадарчыя машыны агульным пазычкоўцам па доўгатэрміновых з 6 да 4 і кароткатэрміновых з 10 да 7, паасобным беднякам і серадкякам па доўгатэрміновых з 6 да 5 і кароткатэрміновых з 10 да 8. Патаненьне зроблена за рахунак зьмяншэньня адлічэньняў у карысьць зьвеньняў сыстэмы.

Надбліжана да сялянства нізавое зьвяно сыстэмы (с.-г. крэд. т-вы), лік якіх павялічаны к 1 красавіку г. г. да 220. У сярэднім адным таварыствам абслугоўваецца 3 400 сялянскіх гаспадарак і к канцу году мы павінны павялічыць лік т-ваў да 300 і гэтым яшчэ больш наблізіць і

палепшыць абслугоўваньне насельніцтва. Процант каапэраваньня сялянскіх гаспадарак узрос за год амаль на 12%. На 1 красавіка ў сетцы мелася 253 тыс. паасобных членаў, або 32% усіх сялянскіх гаспадарак, і 2368 членаў каапэрацыйных і грамадзянскіх арганізацый з 241 тыс. членаў у іх. Па сацыяльнаму складу: 35% беднаты, 61,1% сераднякоў і 3,2% заможных (кулакоў), якія лічацца членамі крэдытнай сыстэмы с.-г. каапэрацыі. Такім чынам, калі наогул, падвесьці падрахунак тэй працы, якая зроблена да гэтага часу па нашай сыстэме, і на грунце пералічаных тут палітычных і практычных мерапрыемстваў даць кароткі аналіз садзейнічаньня і дапамогі сельскай гаспадарцы ў яе далейшым вытворчым разьвіцьці і эканамічным палепшаньні становішча вясковай беднаты, дык зусім відавочна, што сел-гасп. крэдыт адыгрывае дамінуючую ролю наогул у сельскай гаспадарцы і сапраўды зьяўляецца магутнай прыладай камуністычнай партыі і дзяржавы па перабудаваньню вёскі на новых сацыялістычных падставах. Неабходна дамагчыся, каб з боку нашай партыі і савецкіх органаў на вёсцы сваечасова і поўнасьцю прыймаліся захады да шырокага азнаямленьня сялянства аб тых вялікіх мільённых укладах сродкаў, якія ўкладвае дзяржава на сельскую гаспадарку і на дапамогу паасобным бедняцка-серадняцкім гаспадаркам. Неабходна зьвярнуць больш увагі з боку нашага друку на гэту справу і больш высьвятліць у газэтах, як праводзіцца практычна крэдытная палітыка па ўсіх галінах сельскай гаспадаркі і асабліва каапэрацыі, падкрэсьліваючы ня толькі адмоўныя бакі і недахопы, але таксама і нашы дасягненьні ў гэтай справе.

Для правядзеньня больш правільнай клясавай лініі з боку нашай сыстэмы, мы правялі і праводзім зараз шэраг мерапрыемстваў па паглыбеньню справы сталага сацыяльнага вучоту, асабліва ў нізоўцы. Праведзены персанальны перавучот пайшчыкаў, які мы зусім не пасьпелі скончыць, дзякуючы зімовай загатоўчай кампаніі, калі апарат быў перагружан і ня мог займацца гэтай работай. Праўда, у час спагнаньня пратэрмінованых пазычак 1.500 тыс. руб., пад моцным нажымам Белсельбанку на сваю сетку, некаторыя працаўнікі ў акругах няўважна падыходзілі да беднаты, спаганяючы з бедняка гэтыя пазычкі аднолькава як і з заможных без належнага клясавага падыходу і парушалі дырэктыву партыі і практычныя дырэктывы па лініі Белсельбанку.

Наша бяда ў тым, што мы, па-першае, ня маем да гэтага часу добра распрацованых вытворчых плянаў, як я ўжо адзначаў і, па-другое,—наш нізавы апарат агульна слабы і дрэнна абслугоўвае вёску.

У часе перавыбараў нізавое сел-гасп. сеткі мы значна ўзмацнілі сел-гасп. крэдытныя таварыствы шляхам добрага падбору старшынь праўленьняў, на 98% камуністых, лепшага падбору астатняга складу гэтых праўленьняў, адначасова праводзячы чыстку апарату ад кляса-ва-чужых элемэнтаў і растратчыкаў (Казьнянскае крэдытнае т-ва, Віцебскай акругі). Але гэтую работу трэба прадоўжыць і паглыбіць, замяняючы нягодных працаўнікоў праўленьняў і тэхнічнага апарату перадавымі рабочымі,—батракамі, беднякамі і серадняками, гэтым самым устанаўляючы яшчэ большую сувязь сыстэмы сел-гасп. каапэрацыі з працоўнымі масамі сялянства.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на социяльны склад мэліарацыйных т-ваў і спэцыяльных відаў с-г. каапэрацыі, каторым мы мала аддавалі ўвагі пры перавыбарах нізавой сеткі каапэрацыі і амаль нічога не зрабілі ў сэнсе чысткі галоўных відаў каапэрацыі ад кулакоў, спэкулянтаў (Мэліарацыйнае т-ва „Праца“, імя „Калініна“ і інш). Апроч гэтых мер: чысткі, падбору і вылучэньня лепшых працаўнікоў за лік, галоўным чынам, сялянскага актыву, неабходна зьвязаць каапэ-

рацыю з сельсаветамі, каб сельсавет дапамагаў каапэрацыі па каапэраваньню і сваечасоваму звароту сродкаў пазычкоўцамі па пазыках і кантрактацыі.

Трэба наладзіць і ўзмацніць культурна-асьветную работу с-г. крэдытных таварыстваў.

Неабходна таксама ўзмацніць інспэктарскі апарат Белсельбанку і акруговых таварыстваў добра падрыхтаванымі партыйнымі працаўнікамі і больш ахапіць дасьледваньнем кіраўніцтва нізоўкі і рашуча зьнішчыць у бліжэйшы тэрмін выпадкі скрыўленьня клясавай лініі і выпадкі няпоўнага і сваечасовага скарыстаньня сродкаў па прызначэньню, што бывае часта ў крэдытных с-г. таварыствах.

Неабходна больш вывучыць пры дапамозе Р. С. І. пытаньне аб стратнасьці амаль што 40% крэдытных т-ваў, стратнасьць якіх мы зараз папаўняем згодна пастановы Эканомнарады: 50 тыс. руб. даецца з бюджэту, 50 тыс. руб. Белсельбанк з сваіх прыбыткаў і 100 т. р. павінен даць ЦСГБанк па нашаму хадайніцтву. У будучым часе рашуча не дапушчаць гэтай стратнасьці, якая выклікалася ў мінулым, галоўным чынам: 1) неправільнай гандлёвай дзейнасьцю і 2) прадпрыемствамі да перадачы гэтай прамысловасьці Райвыканкомам (напрыклад, Талочанскае крэд. Т-ва, Аршанскае акругі).

Трэба адзначыць вялізарнасьць і мноства справаздачнасьці па апэрацыях с.-г. крэдытных т-ваў, якая прытупляе дзейнасьць т-ваў і не дае магчымасьці больш разгарнуць гаспадарчую і грамадзкую работу па каапэраваньню і крэдытаваньню насельніцтва. Р. С. І., Белсельсаюз і Белсельбанк зараз прыступаюць да гэтае справы з мэтай упрашчэньня сыстэмы наогул у працы крэдытных т-ваў і больш правільных узаемаадносін з акругамі і цэнтрам.

І нарэшце,—трэба згрупаваць у сыстэме с.-г. крэдыту крэдытаваньне, як вытворчых, так і збытавых процэсаў сельскае гаспадаркі, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на пашырэньне крэдытных апэрацый па кантрактацыі сырцу для прамысловасьці і гатунковага насеньня; больш узгадняць і ўвязваць працу сыстэмы с-г. крэдыту з сел-гасп. каапэрацыяй, будуючы свае крэдытныя пляны ў поўнай адпаведнасьці з працаю па вытворчаму каапэрыраваньню сялянства.

І асноўная задача сыстэмы сел.-гасп. крэдыту—рашуча вясьці і далей барацьбу з кулацтвам на вёсцы, як правіла, не даваць зусім крэдыту кулаку, ізаляваць кулака ад каапэрацыі і ўсямерна дабівацца ў практычнай працы правядзеньня больш цьвёрдай і дасканальна правільнай клясавай лініі зьверху да нізу на грунце дырэктыў камуністычнае партыі.

---

Л. Левін і З. Федарынчык

# Аб дапамозе беднаце [1])

Меўшыяся ў некаторых таварышоў сумленьні адносна значэньня мерапрыемстваў партыі і савецкага ўраду па дапамозе сялянскай беднаце і наконт фактычнага дасягненьня гэтых мерапрыемстваў да беднаты — бязумоўна, патрабуюць дасканальнага вывучэньня і высьвятленьня гэтага пытаньня шляхам абсьледваньня фактычнага становішча на мясцох. Тым больш яшчэ гэта неабходна, што дзякуючы нядбайнасьці ў працы нашага апарату на справе маюцца паасобныя выпадкі грубага пакрыўленьня і парушэньня дырэктыў партыі і ўраду.

Таму зусім зразумелай і правідловай зьяўляецца пастаноўка ў парадак дню працы нашых шэфскіх таварыстваў, як арганізацый ажыцьцяўляючых сувязь рабочае клясы гораду з вёскай—неабходнасьці праверкі ў падшэфных ім сельсаветах фактычнага скарыстаньня беднатою дадзеных ёй ільгот.

Шэфтаварыства пры НКФ БССР, якое шэфствуе над Каменскім і Сямёнавіцкім сельсаветамі Вузьдзенскага раёну Менскай акругі правяло ў сьнежані 1927 г. паказаную вышэй працу.

Двое таварышоў, выехаўшых кожны ў паасобны сельсавет, мелі перад сабой наступныя задачы: высьвятліць, якія мерапрыемствы па дапамозе беднаце праводзяцца ў падшэфных сельсаветах, як арганізавана іх ажыцьцяўленьне, і які ўплыў мелі гэтыя мерапрыемствы на сельскую гаспадарку беднаты.

У парадку прапрацоўкі гэтых пытаньняў давялося карыстацца ў нязначнай меры ранейшымі матар'яламі шэфтаварыства па гэтых сельсаветах і, галоўным чынам, зьвесткамі і матар'яламі, якія атрымоўваліся на месцы ў РВК, РК партыі, сельсаветах, сельгаскрэдыт. таварыстве і пры непасрэдным азнаямленьні з паасобнымі гаспадаркамі ў вёсках. Цэнтрам усяе працы быў сельсавет.

### Агульныя зьвесткі

Падшэфныя сельсаветы па данных абкладаньня сельгаспадаткам выяўляюць сабой з эканамічнага боку наступнае;

| З ь в е с т к і | Сямёнавіцкі сельсавет | | Каменскі сельсавет | |
|---|---|---|---|---|
| | Кольkасьць | % % | Кольkасьць | % % |
| Лік насельніц.—пунктаў | 27 | — | 21 | — |
| „ насельніцтва | 3666 | — | 3260 | — |
| „ гаспадарак | 671 | 100 | 583 | 100 |
| „ зямлі на гасп. | 5,68 | — | 5,83 | — |
| „ гасп. з аблаг. прыбыткам да 250 р. | 287 | 42,7 | 183 | 31,3 |
| „ ад 500 і выш. | 17 | 2,5 | 28 | 4,8 |

[1]) Па матар'ялах шэфтаварыства пры НКФ БССР.

Гэтыя агульныя даныя паказваюць аб наяўнасьці значнай колькасьці бядняцкіх гаспадарак па абодвых сельсаветах пры чым, бядняцкія гаспадаркі па Каменскаму сельсавету складаюць—31,3% ліку ўсіх гаспадарак, а па Сямёнавіцкаму сельсавету—42,7%. Лік заможных гаспадарак па абодвых сельсаветах нязначны, але па Каменскаму сельсавету ён усё-ж такі дасягае лічбы ў 4,8%, у той час, як па Сямёнавіцкаму толькі 2,5%.

Паказаныя вышэй зьвесткі гавораць аб тым, што Сямёнавіцкі с/с. зьяўляецца бядняцка-серадняцкім у той час, як у Каменскім с/с. мы маем параўнаўча большую групу заможных гаспадарак, і значна меншы %% бядняцкіх. Апошні вывад часткова можа быць падмацаваны тым, што па Каменскаму с/с. выкрыта: 5 гаспадарак, якія арандуюць зямлю з іх—2-3 яскрава выражаным эксплёататарскім абліччам), 4 гаспадаркі, якія эксплёатуюць с-гасп. машыны і 2 гаспадаркі—маюць батракоў. Трэба падкрэсьліць, што гэткая-ж, як паказана вышэй, характарыстыка эканамічнага становішча с/саветаў давалася папярэдне ў Райкампартыі і РВК.

Фактычная дапамога беднаце па паасобных відах мае наступны выгляд:

Ільготы беднаце па с-гасп. падатку

| Даныя | Сямёнавіцкі сельсавет | | | | Каменскі сельсавет | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць гасп. | %% | Сума | %% | Колькасьць гасп. | %% | Сума | %% |
| Налічана пад. у 1927-28 г. | 671 | 100 | 8115 | 100 | 583 | 100 | 9117 | 100 |
| Аслабан. па неаблаг. мінім. | 27 | 4,0 | — | — | 22 | 3,8 | — | — |
| Зьнята і зьменш. падатку | | | | | | | | |
| а) па асноўн. скідцы | 124 | 18,4 | 535 | 6,6 | 185 | 31,7 | 676 | 7,3 |
| б) па падатк. скідцы | 98 | 14,6 | 340 | 4,2 | — | — | — | — |
| в) па стыхійн. бедах | 72 | 10,7 | 328 | 4,0 | 266 | 45.6 | 558 | 6,1 |
| г) ільготы перасял. і інш. | — | — | 496 | 6,1 | — | — | 465 | 5.1 |
| Лічылася нядоімкі | — | — | 105 | 1,3 | — | — | 56 | 0.6 |
| Зьнята нядоімак. | — | — | 17 | 0,2 | — | — | 26 | 0.3 |
| Усяго зьнята акл. | — | — | 1816 | 22.0 | — | — | 1726 | 18.8 |
| У тым ліку зьнята беднаце | 249 | 37 | 892 | 10,9 | 207 | 35,5 | 702 | 7,6 |

З пададзенае таблічкі відаць, што ільготы па с/г. падатку ахапілі сабой прыблізна 37% гаспадарак па Сямёнавіцкаму с/с. на суму 10,9% ад агульнай сумы с. г. падатку з нядоімкай і адпаведна па Каменскаму с/с. 35,5% гасп. на суму—47,6%. У падлік паказаных ільгот атрыманых выключна беднатой—ня ўключаны ільготы перасяленцам, расьсяленцам, паасобным гаспадаркам, па індывідуальных заявах, і ільготы па стыхійных бедах.

Між тым, бязумоўна, значная частка з ільготаў апошняга парадку падае таксама і на беднату.

Такім чынам, можна лічыць, што дырэктыва аб 35% аслабаненьні бядняцкіх гаспадарак ад с-гасп. падатку ў асноўным, амаль, што выканана.

Аднак, нельга не адзначыць, што ў той час, як процант ільгатаваных гаспадарак беднаты па Каменскаму с/с.—35,5%, нават перавышае агульны процант ліку бядняцкіх гаспадарак—31,4, па Сямёнавіцкаму сельсавету лік ільгатаваных гаспадарак (37) не дасягае агульнага проценту бядняцкіх гаспадарак па с/с. (42,7).

Апошняе зьявішча паказвае, што ня гледзячы на тое, што ільготы па сельгаспадатку, як правіла, разьмяркоўваліся паміж сапраўднай беднаты, усё-ж адсутнічала належная роўнамернасьць у здавальненьні беднаты ільготамі паміж розных с/саветаў. Гэтае адмоўнае зьявішча гаворыць аб тым, што РВК (і нават сельсавет—як будзе паказана далей) недасканала яшчэ вывучылі свае сельсаветы з сацыяльна-эканамічнага боку.

Ільготы беднаце па страхоўцы

| З ь в е с т к і | Сямёнавіцкі сельсавет | | | | Каменскі сельсавет | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кольк-касьць гасп. | %% | Сума | %% | Кольк-касьць гасп. | %% | Сума | %% |
| Налічана акладу | 671 | 100 | 2939 | 100 | 583 | 100 | 3037 | 100 |
| Зьнята аклад. | — | — | 172 | 5,9 | — | — | 173 | 5,9 |
| У тым ліку аслабонена цалк. | 55 | 8,2 | — | — | 25 | 4,3 | — | — |
| Лічыцца нядоімкі | — | — | 261 | 100 | — | — | 148 | 100 |
| Зьнята нядоімкі | — | — | 175 | 67.0 | — | — | 24 | 16.2 |
| У тым ліку па маніфэсту | — | — | 164 | 62,8 | зьвест. няма | — | — | — |
| Усяго зьнята | — | — | 347 | 10,8 | — | — | 202 | 6.3 |

Адзначаючы нязначнасьць ільготы па страхоўцы, наогул, бо як відаць з таблічкі цалкам аслабоненых ад страхоўкі па Сямёнавіцкаму с/с. 8,2% агульнага ліку гаспадарак пры 10,8% агульна зьнятай сумы страхоўкі з нядоімкай, а адпаведна па Каменскаму с/с. цалкам аслабонена 4,3% пры 6,3% сумы. Трэба канстатаваць, што разьмеркаваньне ільготы па страхоўцы паміж сельсаветаў значна больш раўнамерна, чым па с. гасп. падатку.

## Ільготы беднаце па лесе

| З Ь В Е С Т К І | Сямёнавіцкі с.-с. | | | Каменскі с.-с. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кольк-касьць гасп. | %% | Сума | Кольк-касьць гасп. | %% | Сума |
| Адпушчана дармова | 11 | 1,6 | 200 | 12 | 2,1 | 200 |
| Адпушчана ў крэдыт | 15 | 2.2 | 800 | 28 | 4,8 | 650 |

Акрамя паказанага адпушчана лесу за плату:

| | Сямёнавіцкі сельсавет | Каменскі сельсавет |
|---|---|---|
| 1. На пабудову цёплых хат | 1.000 пнёў | 675 пн. |
| 2. На пабудову халодных хат | 2.211 „ | 1.339 „ |
| 3. Крокваў | 1.161 „ | 850 „ |
| 4. Лат | 275 „ | 251 „ |
| 5. Дроў | 1.000 км. | Зьвестак няма |

Дапамогай лесаматар'ялямі—ахоплена па Сямёнавіцкаму с.-с. 3,8% а па Каменскаму—6,9% гаспадарак. Патрэбна прызнаць, што здавальненьне паказанай дапамогай беднаты досыць роўнамернае, бо меншы процант здаволеных лесаматар'ялямі гаспадарак па Сямёнавіцкаму с-савету ня мае адбітку на суме дапамогі, якая па Сямёнавіцкаму сельсавету значна большая (1.000 р.), чым па Каменскаму (860 р.). Нельга не адзначыць, што паасобным гаспадаркам беднаты адпушчана лесаматар'ялу малая колькасьць, што нямэтазгодна, бо з малога ліку лесаматар'ялаў ня магла быць зроблена сталая пабудова.

## Землянадзяленьне і земляўпарадкаваньне

Вельмі значнымі пры тым грунтоўным мерапрыемствам, па дапамозе беднаце зьяўляецца землянадзяленьне, але апошняе, як вядома, ахапляла ня толькі малазямельныя бядняцкія гаспадаркі, але і зусім безьзямельных—батракоў. Усяго надзелена зямлёю (гл. таблічку).

| ЗЬВЕСТКІ | Сямёнавіцкі сельсавет | | | | Каменскі сельсавет | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кольк. пасёлк. | Дзес. зямлі | Едакоў | %% едакоў | Кольк. пасёлк. | Дзес. зямлі | Едакоў | %% едакоў |
| Землянадзелена | | | 3 666 | 100,0 | | | 3.260 | 100,0 |
| У 1923 годзе | 6 | 492 | 421 | 11,4 | 4 | 480 | 348 | 10,6 |
| У 1926 годзе | 6*) | 305 | 269 | 7,3 | 2 | 126 | (91) | (2,7) |

Як відаць з прыведзеных даных, землянадзяленьне наогул за ўвесь час пасьля Кастрычніка ахапіла досыць значны процант душ—па Сямёнавіцкаму с-с—18,7%, а па Каменскаму, прыблізна, 13,3%. Паказанае землянадзяленьне вытваралася ў 1923 і 1926 г. і мела ўплыў на зьмяншэньне ліку бядняцкіх гаспадарак, галоўным чынам, у мінулым, цяпер-жа землянадзяленьне, амаль што скончана.

Адным з грунтоўных мерапрыемстваў па дапамозе беднаце па паказаных сельсаветах у сучасны момант павінна зьявіцца агульнае земляўпарадкаваньне. Не закранаючы значэньня апошняга для сельскае гаспадаркі наогул трэба адзначыць, што правядзеньне земляўпарадкаваньня дасьць магчымасьць падвысіць колькасьць пахаты-сенажаці ў малазямельных бядняцкіх гаспадарках (шляхам абрэзкі больш зямельных) і ўтвараючы спрыяючыя ўмовы для пераходу (у першую чаргу бядняцкіх гаспадарак) на каляктыўныя формы, апрацоўкі зямлі, як найбольш у гэтым зацікаўленых.

Вакол земляўпарадкаваньня апошнія гады ў паказаных сельсаветах вядзецца барацьба. Бедната, бязумоўна, імкнецца да яго правядзеньня, але супраціўленьне больш заможных пры існуючым законадаўстве (якое зараз зьмяняецца) затрымліваюць ажыцьцяўленьне земляўпарадкаваньня. Сыстэма землякарыстаньня, наогул, у абодвых с-с цераспалосная. Насельныя пункты—вёскі і пасёлкі, ёсьць і хутары; сыстэма вядзеньня сельскае гаспадаркі—трохпольле.

*Каапэраваньне.* На тэрыторыі абодвых с-с маецца адзін спажывецкі каапэратыў з адным аддзяленьнем. Апроч таго, другі каапэратыў маецца яшчэ ў раённым цэнтры на адлегласьці 5-7 вёрст ад сельсаветаў.

*) Зьвесткі паказаны па 5-цёх.

Агульны лік гаспадарак каапэраваных спажывецкай каапэрацыяй па с-с і ў тым ліку беднаты характарызуецца гэтак:

| ЗЬВЕСТКІ | Сямёнавіцкі сельсавет | | Каменскі сельсавет | |
|---|---|---|---|---|
| | Коль-касьць гасп. | %% | Коль-касьць гасп. | %% |
| Усяго каапэравана . . . . . | 414 | 61.7 | 307 | 52,7 |
| У тым ліку за кошт фонду каапэрав. беднаты. | 176 | 42,5 | 55 | 17,9 |

Фонд каапэраваньня беднаты па Вузьдзенскаму і Ракшыцкаму спажывецкіх каапэратывах у 1926-27 г. г. . . 1.540 руб. ці 100%

Скарыстана . . . . . . . . . . . 1.191 руб. ці 77‘3%

Паказаныя проценты каапэраваньня (61,7 і 52.7) нават перавышаюць сярэдні процант каапэраваньня па БССР, аднак, факт няпоўнага скарыстаньня фонду каапэраваньня беднаты на 22,7% сьведчыць усё-ж аб недастатковай увазе каапэраваньню беднаты з боку мясцовых органаў тым больш, што процант ахопу каапэрацыяй беднаты, як відаць з вышэйпаказаных зьвестак, не дасягае фактычнага проценту апошняй с-с. Гэтая думка дапаўняецца яшчэ і тым, што ў практыцы мясцовай каапэрацыі адсутнічаюць тыя ці іншыя ільготы для беднаты, напрыклад, па крэдытаваньню таварамі і інш.

## Дапамога беднаце з боку крэдытнага таварыства

Што датычыцца абслугоўваньня беднаты па сельгаскрэдытнай каапэрацыі дык тут мы сустракаемся з яскравымі парушэньнямі дырэктыў ураду і партыі па гэтаму пытаньню.

Дадаваемая ніжэй таблічка дае толькі агульныя лічбы па працы раённага т-ва:

| ЗЬВЕСТКІ | Сямёнавіцкі с.-с. | | Каменскі с.-с. | |
|---|---|---|---|---|
| | Кольк. гаспад. | %% | Кольк. гаспад. | %% |
| Усяго каапэравана . . . . . . | (150) | 22,3 | 150 | 25,7 |
| У тым ліку за кошт фонду каапэр. беднаты. | Зьвестак няма | | 42 | 7,2 |
| Атрымана пазык з фонду беднаты . . | 5 | 0,7 | 4 | 0,9 |
| | На суму 335 р. | | На суму—290 р. | |

Фонд каапэраваньня беднаты на 1926-27 г. г. 1.500 р.

Скарыстана . . . . . . 1.500 р.

Згодна законапалажэньняў аб парадку скарыстаньня фонду крэдытаваньня вясковай беднаты, апошні павінен выдавацца выключна

беднаце і пры тым без усялякага патрабаваньня паручыцельства ці гарантыі і з сысканьнем зусім нязначных працантаў.

Фактычна-ж практыка крэдытнага т-ва на месцы паказала зусім адваротнае.

1. Ні ў саміх сельсаветах, ні ў мясцовых камітэтах сялянскае ўзаемадапамогі і тым больш наогул сярод насельніцтва ня маецца амаль што ніякіх ведаў аб тым, што ў Вузьдзенскім сельска-гаспадарчым т-ве маецца спэцыяльны фонд для крэдытаваньня вясковае беднаты і аб парадку карыстаньня. Нават гаспадаркі, атрымаўшыя пазыкі з гэтага фонду ня ведаюць аб гэтым.

Пытаньні аб гэтым фондзе за ўвесь час не абгаварваліся ні на сходах беднаты, ні ў іншых сельсавецкіх арганізацыях.

Умовы па атрыманьні пазычак у крэдытным т-ве (як з фонду беднаты, там і наогул), такія цяжкія, што фактычна сапраўднаму бедняку вельмі цяжка дабіцца пазычкі. Галоўныя прычыны, якія выклікаюць шмат нараканьняў з боку мясцовае беднаты, гэта незаконнае патрабаваньне паручыцельства 2-х заможных сялян і вялікія %%. Таксама пазычкі могуць выдавацца і па паручыцельству КСУ, калі апошні мае дастатковы фонд для іх забясьпекі. Аднак пасьля таго, як у Каменскім камітэце ўзаемадапамогі была апісана міліцыяй маемасьць за несваечасовую выплату пазычкі адным бедняком, за якога камітэт паручыўся, апошні ў далейшым амаль-што нікому паручыцельства не дае і гэта „палітыка“ знаходзіць маўклівае падтрыманьне нават з боку раённых органаў. Ніжэй некалькі надта цікавых і галосных фактаў: а) Азаркевіч Мікалай з в. Губіна—бядняк, ня мог доўгі час атрымаць пазычкі, па прычыне адсутнасьці паручыцеляў. Апошнія былі даны яму 2-я мясцовымі сялянамі толькі пасьля таго, як ён ім паставіў выпіўку; б) Таўсты Сямён—з в. Каменка—бядняк падаваў заяву аб выдачы пазыкі на куплю каровы ў суме—60 руб. У сувязі з адсутнасьцю належных паручыцеляў—у пазычцы было адказана: в) Таўсты Дзімітра—з в. Каменка—у сувязі з падшуканьнем паручыцеляў атрымаў пазыку на каня замест летняга часу ўжо ў восень, г. зн. тады, як галоўная патрэба ў ім прайшла; г) Глебка Алесь—прасіў пазычку ў суме 20 руб., на лесаматар'ялы на пабудову хаты. Камітэт узаемадапамогі адказаў у паручыцельстве і з цяжкасьцямі апошнія былі ўзяты ў 2-х больш заможных сялян. Пры атрыманьні пазычкі ўтрымана: 1 р. паявога ўзносу, 50 к. сяброўскага, 3 кап. за блянкі, 5 р. %% за год. Атрымана 13 рублёў, д) Лашук Мацей—з пас. Каменка 5/IV-26 г. атрымаў пазыку на куплю каня ў памеры 100 р. замест прасімай сумы 150 р. Пасьля вылічэньня сяброўскага пая, узносу працантаў і г. д. засталося толькі 80 рублёў. За гэтыя грошы прышлося купіць каня значна горшага—за 75 рублёў, які па сваёй няпрыгоднасьці быў сёлета прададзены за 40 р. У сучасны момант тав. Лашуком атрымана 2-я пазычка ўжо ў суме 150 руб. і за гэтыя грошы куплены добры конь.

Тут-жа наогул, трэба адзначыць, што пры існуючым парадку атрыманьне пазычкі ў Вузьдзенскім крэдытным т-ве зьяўляецца вельмі цяжкай і складанай справай. Да гэтага неабходна быць у т-ве ня больш-менш як разы тры. Трэба падаць 2 заявы пацьверджаныя с.-саветамі, таксама неабходна пацьвердзіць у с.-с. паасобна кожнае паручыцельства і абязанасьць па ліку тэрмінаў плацяжу і г. д.

Усяго за 1926-27 б. г. атрымалі пазычкі з фонду крэдытаваньня беднаты: па Каменскаму с.-савету 4 гаспадаркі і па Сямёнавіцкаму с.-савету 5 гаспадарак.

Эканамічнае становішча паказаных гаспадарак па даных пасялёных сьпісаў сельска-гаспадарчага падатку, зьяўляецца наступным:

| ЭКАНАМІЧНЫЯ ПАКАЗАЦЕЛІ | Сямёнавіцкі с.-с. | | | | Каменскі с.-с. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| Пашні | 6.0 | 5 9 | 3,65 | 8,7 | 1,4 | 4,1 | 4,3 | 2,6 | 4,0 |
| Пасеву | 5,0 | 4,0 | 3,65 | 5,2 | 1,0 | 3,6 | 4,0 | 2.6 | 3,5 |
| Сенажаці | ,5 | 1,0 | 2,65 | 1,6 | 0,4 | 1,4 | 1,0 | 0,4 | 1.0 |
| Кароў | 2 | 1 | — | 2 | 2 | 1 | 2 | 1 | 1 |
| Коняй | 1 | 1 | — | 1 | 1 | 1 | — | — | 1 |
| Дробнае жывёлы | — | — | — | 2 | 1 | 1 | 1 | — | 1 |
| Неземляробчага зароб. | 10 р. | 36 р. | — | — | 36 | — | — | — | 60 р. |
| Агул. сума гад. дах. | 240 | 296 | 183 | 422 | 112 | 200 | 201 | 112 | 257 |
| Едакоў | 4 | 7 | 4 | 5 | 8 | 8 | 6 | 4 | 5 |
| Падатак за 1926-27 г. | 17,0 | 10,0 | 7,0 | 45,0 | 2,5 | 4,4 | 5.2 | 2.6 | 12,2 |
| Скінута падатку | в е | д а ў | н я | м а | | 4,4 | — | 2.6 | — |
| Сума крэдыту | 100 р. | 50 р. | 100 р. | 50 р. | 35 р. | 40 р. | 80 р. | 70 р. | 100 р. |

Пададзеная вышэй таблічка сьведчыць аб тым, што з ліку гаспадарак, атрымаўшых крэдыт з фонду беднаты, амаль-што больш за палову (1, 4, 5, 6, і 8) ня могуць быць аднесены да крайне бядняцкіх груп насельніцтва сельсаветаў.

З паказаных 9 гаспадарак фактычна абсьледавана 3: 7-я, 4-я і 9-я, прычым устаноўлена наступнае:

(7). Варакса Ганна. Агульнае ўражаньне ад гаспадаркі як ад бядняцкае. У сям'і адсутнічаюць працаздольныя мужчыны. Атрыманая пазычка выкарыстана цалком на мэтавае прызначэньне (пабудову новае хаты). Само атрыманьне пазычкі было цяжкім для гаспадаркі, галоўным чынам, з прычыны патрабаваньня 2-х паручыцеляў—заможных сялян. Уся хата каштуе больш чымся 150 р. Пры падачы заявы Варакса фактычна прасіла пазыку ў суме 100 руб., але-ж пасьля вылічэньня %% (5% ад усяе сумы за 5 гадоў) і сяброўскага і паявога ўзносу атрымана толькі 80 руб. Да гэтага часу пазычка яшчэ не пакрывалася. Аб тым, што пазычка атрымана з фонду крэдытаваньня беднаты, а не з агульнага фонду т. Варакса ня ведае.

(9). Даманскі Зэнон. Агульнае ўражаньне ад гаспадаркі—як аб серадняцкай. Пры гаспадарцы маецца сталая кузьня, якая працуе сыстэматычна штодзённа, але-ж пры няпоўнай нагрузцы. Сума 60 р., паказаная як гадавы прыбытак ад кузьні, зьяўляецца, бязумоўна, няпоўнай. Пазычка ў 100 руб. атрыманая на пакупку каня скарыстана па прызначэньню

(4). Ліхадзіеўскі Баніфацый. Як гэта ўжо відаць з табліцы, гаспадарка павінна быць аднесена да вышэйшай групы сераднякоў. Фактычнае азнаямленьне з гаспадаркай падцьвердзіла гэты вынік. Але ж усё-ж як гэта зьявілася магчымым устанавіць у часе атрыманьня пазычкі гаспадарка Ліхадзіеўскага сапраўды знаходзілася ў вельмі цяжкім становішчы, што, зразумела, яшчэ не апраўдвае і ня робіць законным факт выдачы пазычкі з фонду крэдытаваньня вясковае беднаты—не бядняцкай гаспадарцы. Атрыманая пазычка па фонду беднаты ў суме 50 руб і з агульна-банкаўскага крэдыту таксама 50 руб. Ліхадзіеўскім скарыстана на выкуп заарандаванай ім будоўлі, г. з. згодна з мэтавым прызначэньнем на якое браліся грошы.

Такім чынам, з матар'ялу фактычнага азнаямленьня з гаспадаркамі запазычнікаў па фонду беднаты яскрава відаць, што далёка ня ўсе гэтыя гаспадаркі могуць быць аднесены да сапраўдных бядняцкіх груп насельніцтва і атрыманьне імі пазычак з фонду беднаты можна лічыць выпадковым зьявішчам. Між тым з сапраўдных бядняцкіх гаспадарак некаторым крэдыт быў выданы ня з гэтага фонду, а з агульна-банкаўскага.

Так, напрыклад, гаспадарка гр. Сянькевіча жыхара вёскі Сямёнавічы, якая бязумоўна павінна быць аднесена да бядняцкай групы (бясконная, пашні 3,1, сенажаці 0,7, 1 карова) атрымала пазычку ў Вузьдзенскім крэдытным т-ве ў суме 100 руб. на куплю каня з агульна-банкаўскага крэдыту на 1 год і г. д.

Выпадковасьць атрыманьня гэтымі гаспадаркамі пазычак з фонду беднаты сьведчыцца яшчэ і тым фактам, што, як паказаныя вышэй, гаспадаркі гр. Ліхадзіеўскага і Вайцахоўскага адначасова з пазычкай з фонду беднаты атрымалі і агульна-банкаўскі крэдыт. Больш правідлова будзе сказаць, што ім далі крэдыт, а з якіх фондаў аб гэтым ведае толькі сельгаскрэдытнае т-ва.

Таксама характэрным у гэтым напрамку зьяўляецца факт, што з агульнай сумы выданых пазычак з фонду беднаты па Сямёнавіцкаму с/савету больш 70% падае на будоўлі і толькі 30% на куплю коняй, між тым як па агульна-раённых лічбах на будоўлю падае толькі 48% і на коні - 42%. Гэта таксама дае падцьверджаньне ўжо зробленай ацэнцы гаспадарак, атрымаўшых крэдыт з фонду беднаты як далёка не бядняцкіх.

Усе прыведзеныя факты досыць характарызуюць агульны парадак выдачы пазычак і іх скарыстаньня.

Ня лішнім будзе дадаць, як недарэчны прыклад нашых недахопаў, што па атрыманых на месцы даведках крэдытнае т-ва было абсьледвана ў сьнежні 27 году інструктарам Белсельбанку і па справаздачы апошняга райком КП(б)Б канстатаваў агульную ўпарадкаванасьць у скарыстаньні фонду беднаты.

## Дапамога Камітэтаў Сялянскай Узаемадапамогі

У абодвых с/саветах маюцца камітэты сялянскай узаемадапамогі. Лік гаспадарак, аб'яднаных камітэтам даволі значны (Каменскі с/с—88%, Сямёнавіцкі прыблізна 85%). Але-ж па атрыманых на месцы даведках фактычна ўдзельнічаюць у працы камітэту і плацяць сяброўскія ўзносы ня больш 55%. Наяўных грошай па Каменскаму КСУ маецца 335 руб. і па Сямёнавіцкаму—424 руб. Дапамога дадзеная беднаце пазыкамі складаецца з наступнага: Сямёнавіцкі КСУ: грашмі—40 руб., насеньнем—167 пуд., Каменскі КСУ грашмі—8 р., насеньнем—340 пуд. Акрамя таго праз раённы КСУ атрымана бядняцкімі гаспадаркамі ў Сямёнавіцкім с/савеце 3 кані, у Каменскім 5 (па ільготнай цане з вайсковых часьцей).

Наогул праца КСУ ў с/саветах яшчэ разгорнута зусім недастаткова і ня мае таго значэньня для дапамогі беднаце, якое павінна была-б мець.

## Сацыяльна-культурная і інш. дапамога беднаце

Акрамя пералічаных вышэй грунтоўных мерапрыемстваў па дапамозе беднаце маецца яшчэ цэлы шэраг іншых больш дробных паасобных ільготаў, якія датычацца той ці іншай нязначнай часткі бядняцкага насельніцтва. Да гэтага, напрыклад, належыць: выдача пэнсій

калекам вайны (Каменскі с/савет—7 гаспадарак (выдача пэнсіі сем'ям чырвонаармейцаў, прадастаўленьне інтарнату для дзяцей беднякоў у школах (Кам. с/с—5 чалавек) дармовая мэдыцынская дапамога ў больніцах і г. д.

Трэба тут-жа адзначыць, што адзіная раённая больніца ні ў якім разе ня можа здаволіць усіх дапамогай. У сувязі з такой вялікай нагрузкай Вузьдзенская больніца на працягу 3 месяцаў (ліпень—кастрычнік 1927 г.) ня маючы вольных сродкаў па каштарысе, практыкавала на гэты час сыскваньне аплаты за мэдыцынскую дапамогу (лекі), што зразумела не магло ня выклікаць нараканьняў з боку насельніцтва, асабліва яе бядняцкай часткі.

Паказаны факт таксама гаворыць і аб тым, што ў працы мясцовых органаў яшчэ шмат недахопаў, бо толькі так можна тлумачыць паказаныя вышэй зьявішчы.

## Падагуленьне дапамогі беднаце

Падыходзячы да пытаньня аб падагуленьні дапамогі беднаце—трэба падкрэсьліць, што ў сувязі з разнастайнасьцю і няпоўнасьцю маючыхся зьвестак, высьвятліць і адказаць на гэта пытаньне дакладна вельмі цяжка. Усё-ж па прыблізнаму падрахунку прыведзеных вышэй зьвестак мы маем наступныя лічбы:

| Аказана дапамогі | Беззваротная дапамога | Крэдытная дапамога |
|---|---|---|
| Каменскі с/савет . . . . | 1.104 р. | 1.598 р. |
| Сямёнавіцкі с/савет . . . | 1.439 р. | 1.804 р. |

Выходзячы з умоўнага ліку бядняцкіх гаспадарак, паказанага ў першай табліцы, дык будзем мець у сярэднім на адну бядняцкую гаспадарку ў год:

| | Каменскі с/с | Сямёнавіцкі с/с |
|---|---|---|
| Беззваротныя дапамогі . . . | 6 р. 04 к. | 5 р. 00 к. |
| Крэдытам . . . . . | 8 р. 73 к. | 6 р. 03 к. |
| Усяго . . | 14 р. 77 к. | 11 р. 03 к. |

## Ці дайшлі ільготы і дапамога да сапраўднай беднаты

Што тычыцца пытаньня аб правільнасьці разьмеркаваньня ільгот і дапамогі паміж сапраўднай беднатой, дык тут ня маючы для пацьверджаньня канкрэтных лічбаў, усё-ж на падставе агульных матар'ялаў па азнаямленьню з фактычным становішчам на месцы (вывучэньне сьпісаў гаспадарак атрымаўшых ільготы, лік скаргаў, азнаямленьне з паасобнымі гаспадаркамі, гутаркі з насельніцтвам і інш.) можна ўпэўнена канстатаваць, што ў асноўным мерапрыемствы па дапамозе беднаце дасяглі свае мэты і імі скарыстоўваліся.

Аналіз паасобных груп атрымаўшых тую ці іншую ільготу падцьвярджае гэтую агульную думку. Так, напрыклад, з ліку больш 200 гаспадарак, атрымаўшых тую ці іншую ільготу па сельгаспадатку па Каменскаму с-савету больш 90% маюць гадавы прыбытак ня больш як 250 рублёў і г. д.

## Як арганізацыйна праводзілася дапамога беднаце

Як на адным з найбольш важных і асноўных момантаў неабходна застанавіцца на характарыстыцы парадку разьмеркаваньня пералічаных вышэй ільгот і ўдзелу ў гэтым самой беднаты. Бо зусім ясна, што фактычнае палітычнае афармленьне аказанай дапамогі і вытрыманасьць пры гэтым клясавай лініі зьяўляюцца амаль-што найбольш важным момантам у гэтай працы, характарызуючым усю яе каштоўнасьць.

З цэлага шэрагу даных па гэтых пытаньнях, можна ўпэўнена сказаць, што гэтае месца зьяўляецца найбольш слабым у працы па дапамозе беднаце і што тут мы маем яскравае незразуменьне грунтоўных дырэктыў па гэтых пытаньнях.

Як у Сямёнавіцкім, так і у Каменскім с-саветах групы беднаты па пытаньнях разьмеркаваньня ільгот ня скліраліся і наогул бедната ў гэтым арганізована амаль-што ня ўдзельнічала. Разьмеркаваньне вытваралася самім с-саветам, у адным выпадку (у Сямёнавіцкім с-савеце) скідачны фонд па сельгаспадатку быў разьмяркован асабіста старшынёй с-савету. Пытаньне аб аказаньні дапамогі і аб ільготах беднаце недастатково растлумачваліся і абмяркоўваліся на сходах беднаты, пленумах, ці ў штодзённай працы, а некаторыя з іх і зусім не абмяркоўваліся ў выніках чаго і маглі мець месца такія зьявішчы як паказаныя вышэй у справе выдачы пазычак з фонду крэдытаваньня беднаты-крэдытным т-вам і нават такія выпадкі, калі аднаму бедняку селяніну зьнялі падатку на 3 руб. больш чым гэта за ім лічылася.

Наогул, праца сярод беднаты вядзецца мясцовымі органамі недастатковая. Групы беднаты мала дзе з'арганізаваны, а група беднаты пры Каменскім с-савеце складзена на 2/3 з сяброў с-савету (з 12 таварышоў 8 сяброў с-савету.

## Агульныя вывады

Беднаце наогул аказваецца досыць значная дапамога, якая дае магчымасьць шэрагу бядняцкіх гаспадарак станавіцца на ногі (пераходзіць у вышэйшую групу), што падцьвярджаецца, напрыклад, па Сямёнавіцкаму сельсавету памяншэньнем ліку бясконных гаспадарак з 20% да $11^1/_2$%.

Аднак, відавочна, што дапамога, якая аказвалася беднаце да апошняга часу павінна быць значна павялічана і вытварацца ў такіх формах, якія-б давалі больш магчымасьці ня толькі падтрымліваць бедната ў яе сучасным становішчы, але і ўздымаць яе гаспадарку больш шпаркім тэмпам. Патрэбна апроч той дапамогі, якая беднаце аказваецца, разгарнуць грунтоўныя мерапрыемствы па земляўпарадкаваньню, паляпшэньню якасьці сельскай гаспадаркі і ў першую чаргу ўзмацніць калектывізацыю бядняцкіх гаспадарак. Толькі адначасова з ліквідацыяй індывідуальных форм карыстаньня і апрацоўкі зямлі мы цалком ліквідуем беднату.

Вось чаму так рашуча і катэгарычна дадзены партыяй апошнія дырэктывы адносна сельскай гаспадаркі, галоўным чынам, калектывіза-

цыі гаспадарак і ад тэмпу ажыцьцяўленьня гэтых дырэктыў у значнай меры будзе залежыць і тэмп разьвіцьця сельскай гаспадаркі наогул.

Другі вывад, які патрэбна зрабіць гэта тое, што як ужо сказана вышэй дапамога і ільготы адпускаемыя для беднаты ў асноўным дасягаюць свае мэты і за паасобнымі выключэньнямі разьмяркоўваюцца паміж сапраўднай вясковай беднатой.

Апошні надзвычайна важны вывад неабходна зрабіць аб тым, што з боку арганізацыйнага правядзеньня і палітычнага афармленьня аказваемых беднаце дапамог на мясцох мы маем цэлы шэраг недахопаў і нядбайнасьцяй, якія не даюць магчымасьці бядняцкім групам насельніцтва зразумець усю каштоўнасьць атрымліваемае дапамогі. На гэты бок працы па дапамозе беднаце павінна быць зьвернута ў найбліжэйшы час самая сур'ёзная ўвага.

---

**М. Зерницкий**

# На путях осуществления директив XV парт-с‘езда

(*Первые итоги привлечения масс к непосредственному участию в работе Рабкрина*)

„Строя свою работу на основе вовлечения широких рабочих и вообще трудящихся масс в дело улучшения советского аппарата и борьбы с бюрократизмом, *Рабкрин должен быть организатором рабочих и крестьян, проверяющих работу советского аппарата*...

... Проверку выполнения советскими органами директив партии и правительства Рабкрин должен производить *силами рабочих*, выбираемых заводскими собраниями *и лишь возглавляемых и инструктируемых работниками Рабкрина*".

(Из резолюции XV Партс‘езда по докладу ЦКК РКИ)

Практикой работы Рабкрина за последние годы установлена целая система связи органов КК РКИ с массами. Эту связь Рабкрин осуществляет путем привлечения к участию в своей работе производственных и экон. комиссий, партячеек, профорганов, комсомола, делегатских собраний работниц, секций РКИ при Горсоветах, Ревкомиссий, рабселькоровских организаций, освещения деятельности НК РКИ на массовых собраниях, в печати и т. д.

В резолюции XV Партс‘езда, однако, была дана директива об усилении более действенных форм участия массовых организаций в в работе Рабкрина. Перед контрольными органами более остро была поставлена задача привлечения к непосредственному участию во всех процессах обследовательской работы рабочих „лишь возглавляемых и инструктируемых работниками Рабкрина", не ограничиваясь, как это было в прошлом, одним только ознакомлением массовых организаций с результатами обследований (когда они уже заканчивались).

Осветить первые итоги (за истекшее полугодие) осуществления этой директивы органами КК РКИ Белоруссии и является задачей настоящей статьи.

* * *

Прежде всего приведем более показательные примеры привлечения рабочих к непосредственному участию в обследованиях РКИ.

При обследовании льняной промышленности на ф-ке „Двина" (Витебск) фабкомом была выделена группа в 6 старых рабочих, принявшая непосредственное участие в обследовании. Группа эта работала по 2 часа в день, будучи освобождена от работы на это время в цехах.

Рабочими были проработаны вопросы о самозаготовке сырья для промышленности, рациональном использовании сырья и материалов. Мероприятия, выдвинутые по этим вопросам рабочими, оказались весьма жизненными и целиком использованы в качестве обследовательского материала.

Особенно ценными оказались предложения по рационализации самого производственного процесса и улучшения условий труда рабочих в ватерных цехах. Большое скопление пара в этих цехах до крайности затрудняло работу и являлось одной из главных причин частой заболеваемости рабочих (от 50 до 60% всех заболеваний). Рабочими из состава производственной комиссии был впервые внесен проект о переходе на пониженную температуру воды и оттеплении чердачного помещения фабрики. Эта мера должна была устранить пар. Проект оказался вполне реальным и был принят к осуществлению.

При обследовании капитального строительства (Бобруйский Комбинат, Осинстрой, Добрушская писчебумажная фабрика и др.), помимо связи с низовыми профорганизациями и постановки докладов на рабочих и парт. собраниях на предприятиях, Правления Союзов выделяли своих представителей—рабочих для непосредственного участия в обследовательской работе. (Правления союза строителей в Бобруйске, Орше и Витебске. В Орше правление союза строителей выделило для непосредственного участия в обследовании ответственного секретаря союза). Любопытно отметить, что рабочие, интересуясь ходом обследования, приходили к инспекторам РКИ за выяснением вопросов и сообщением известных им фактов, на которые—по их мнению—следовало бы обратить внимание.

В обследовании стекольной промышленности на стеклозаводах „Новка" и „Коминтерн" участие рабочих выразилось в следующем:

На заводе „Новка" после информации о задачах обследования были выделены 3 представителя для содействия в обследовании. Завкомом на заводе было вывешено об'явление о проводимом РКИ обследовании завода с указанием основных его вопросов. Когда предварительное обследование закончилось, было устроено заседание производственной комиссии для доклада о выводах обследования. На этой комиссии присутствовало 25 человек. В прениях высказалось 10 человек. Производственная Комиссия постановила выделить 5 человек для окончательной проработки выводов и предложений по обследованию. На созванном затем производственном совещании был заслушан доклад управляющего заводом и содоклад обследователя и зачитаны выводы и предложения. Присутствовало 72 человека; в прениях высказалось 9 человек.

Обследование завода „Коминтерн" проводилось таким же методом. Обсуждение выводов и предложения было проведено на расширенной производственной комиссии (присутствовало 50 человек) в прениях выступало 12 человек.

Обследование общественного питания является одной из работ, где РКИ нашло непосредственное привлечение рабочих масс к работе;

Обследование рабочих столовых (Минск, завод „Деревообделочник", проводилось специальными комиссиями из рабочих заводов, при коих эти столовые находятся, под руководством Инспектора РКИ. Работа этих столовых обсуждалась также на общих собраниях обедающих, при чем эти собрания проводились во время самих обедов. Интересно отметить, что наряду с материалами самих комиссий и предложений, кои вносились на общих собраниях, поступали письмен-

ные предложения от отдельных рабочих (например, в отношении Ляховской столовой от 7 рабочих).

Для обследования столовых в городе было создано 12 групп, в работе коих принимало участие свыше 40 чел.—депутатов кооперативной секции Горсовета и женщин-делегаток. Ими были обследованы почти все столовые в городе, как кооперативные и другие, так и частные, при чем до приступления к работе все комиссии получили соответствующий инструктаж: результаты обследования обсуждались на специальных совещаниях.

Далее, к обследованию были привлечены коллективы самих работников обследованных столовых, главным образом, в форме обсуждения всех вопросов на производственных совещаниях. Такие совещания происходили не только в тех столовых, в обследовании коих принимала непосредственное участие РКИ, но и в столовых, обследованных комиссиями.

В дальнейшем работа по обследованию подытоживалась на совещании при РКИ (продолжавшаяся 2 вечера), где за одним столом встретились работники ЦРК, отдельных столовых, депутаты Горсовета, делегатки.

Аналогичная работа проводилась в Орше, Гомеле (в последних работа проводилась по плану Наркомата Окружных РКИ), хотя, понятно, в меньших размерах.

Кроме того, в связи с этим обследованием в печати (особенно в „Рабочем“, где по несколько дней вопросы общественного питания занимали целые страницы) было помещено около 50 статей в „Рабочем“ и 20 в других газетах (больше всего в „Полесской Правде“).

Результаты привлечения общественности к этой работе РКИ являются исключительно положительными. В ходе обследования было мобилизовано общественное мнение вокруг вопроса питания, что обеспечит и на дальнейшее время общественный контроль; наиболее полно были выявлены все вопросы, связанные с общественным питанием; самое количество об'ектов было значительно увеличено. Но самое главное это то—что на этой работе учились и работу проводили сами рабочие непосредственно.

Образцом массового проведения проверки аппарата силами рабочих и представителей организаций является обследование трудовой дисциплины в учреждениях г. Минска.

В обследовании приняли участие:

| | |
|---|---|
| рабочих от станка | 18 (из них 7 работниц) |
| жен рабочих от станка и служащих | 6 |
| служащих учреждений | 3 |
| представителей месткомов | 8 |
| партработников | 3 |
| Всего втянуто | 38 чел. |

Из них: членов партии—18; беспартийных—20; женделегаток—11, комсомольцев—3 и членов горсовета—6.

Привлеченные тщательно были проинструктированы на совещании, и участвовали в „налете“ по группам по 2-3 работника. Все привлеченные, в том числе и рабочие от станка и служащие работали по программе обследования в течение всего рабочего дня. Дальнейшая разработка материала была поручена т. т., которые могли быть оторваны от работы (проф., парт. работники).

арганізацыі за лік батрацтва—рост за лік гэтай групы зусім нязначны (за час з 1-VII—27 г. па 1-IV—28 г. прынята батракоў 29 чалавек). Прычынай слабага росту арганізацыі за лік батракоў зьяўляюцца: а) раскіданасьць батракоў па вёсках і б) слабасьць пастаноўкі выхаваўчае і масавае работы сярод іх; аб гэтым яскрава сьведчыць і тое, што з улічаных па акрузе батракоў 928 чал., партыйная праслойка складае сярод іх 2,1%. Адсюль як задача перад партарганізацыямі, асабліва перад вясковымі партыйнымі ячэйкамі ўзмацніць масавую і культурна-выхаваўчую работу сярод батракоў і ўцягненьне іх у партыю.

Як станоўчы бок у росьце арганізацыі трэба адзначыць агульнае павялічэньне ліку беларусаў ва ўсёй арганізацыі (з 52,4% да 52,5%) і асабліва ў складзе рабочай часткі арганізацыі (з 36,7% да 39,5%). За тое, назіраецца вельмі марудны тэмп узросту партарганізацыі за лік палякаў, асабліва сялян.

Значнаму росту арганізацыі і паляпшэньню сацыяльнага складу яе, бязумоўна, садзейнічаў кастрычнікавы заклік на 1-X—27 года (было рабочых у арганізацыі—47,5% на 1-IV—28 г. маецца—53,9%). Наогул кастрычнікавы заклік у арганізацыі прайшоў наступным парадкам:

| Усяго прынята па Кастрычн. закліку | З іх членаў КСМ | Фабрычна-завод. і транспорт. рабоч. | Па стажу работы на фабр. і трансп. | | | | Батракоў | Іншых наёмных рабочых |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Да 3-х гадоў | Ад 3 да 5 | Ад 5 да 10 | Звыш 10 гадоў | | |
| 250 | 100 | 163 | 34 | 38 | 51 | 40 | 28 | 59 |

Кастрычнікавы заклік значна павялічыў партыйную праслойку на цэлым шэрагу прадпрыемстваў, хоць па паасобных вытворчых саюзах партыйная праслойка вельмі стракатая, так напрыклад: калі па саюзу дрэваапрацовачнікаў партпраслойка сярод рабочых складае 21,2%, па саюзе харчаўнікоў—15,7% і скурнікаў—17,1%, дык па саюзах будаўнікоў яна складае 3,3%, камунальнікаў—9% і сельгаспадарчых і лясных рабочых (сярод рабочых саўгаспадарак)—18%,

Па паасобных прадпрыемствах партпраслойка зьмянілася:

| Назва прадпрыемства | Лік рабочых | Партпраслойка ў %% | | |
|---|---|---|---|---|
| | | На 1-X—27 г. | На 1-IV—28г. | % павяліч. |
| Фабрыка „Чырвоны Кастрычнік" | 310 | 21.9 | 23.5 | 1.6 |
| Завод „Пралетары" . . | 161 | 17 | 24.2 | 7,2 |
| „ „Зьвязда" . . | 305 | 10 | 16.3 | 6,3 |
| „ „Труд" . . . | 125 | 21.5 | 35,9 | 14,4 |
| Дэпо ст. Калінкавічы . . | 329 | 7,3 | 12,8 | 5,5 |

Такім чынам з прыведзеных лічбаў відаць, што поруч з значным ростам паасобных прадпрыемстваў за лік кастрычнікавага за-

кліку, некаторыя слаба ўзрасьлі, асабліва гэта тычыцца дэпо станцыі Калінкавічы заходніх чыгунак і заводу „Зьвязда“.

Да недахопаў росту партарганізацыі трэба аднесьці:

а) невыстарчальны рост арганізацыі за лік рабочых да і пасьля кастрычнікавага закліку (за час 1-VII па 1-X—27 г. было прынята рабочых 24 чал. і за час з 1-I па 1-IV—28 г. 25 чал. рабочых). Гэты момант быў асабліва падкрэсьлен пры абсьледаваньні вытворчых партячэек заводу „Пралетары“ і камбінату, дзе была выяўлена слабая пастаноўка масавай працы, слабая апрацоўка беспартыйнага рабочага актыву, слабая праца індывідуалаў і зьменоргаў,

б) пры здавальняючым росьце партыйнай арганізацыі за лік камсамолу ўсё яшчэ маецца наліčча значнае колькасьці рабочых перарасткаў у арганізацыі КСМ.

Бліжэйшымі задачамі партарганізацыі павінна зьяўляцца: узмацненьне масавае работы на прадпрыемствах, большае разгортваньня работы з беспартыйным рабочым актывам, узмацненьне і ўцягваньне ў партыю рабочых і асабліва работніц. Неабходна зрабіць рашучы пералом партячэйкам вясковым і райкомам КПБ у справе большага ўцягваньня батракоў і сельгаспадарчых рабочых у партыю. У гэтым напрамку неабходна зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на ўзмацненьне масавае работы батрачкомаў і рабачкомаў савецкіх гаспадарак. Адначасова не памяншаючы агульнага проценту рабочага асяродку ў арганізацыі—павялічыць рост за лік сялян беднякоў і лепшых серадьнякоў-актывістых. Райкомам і ячэйкам КПБ неабходна ўзмацніць уцягненьне ў партыю жанчын работніц, батрачак, бяднячак і лепшых серадьнячак, галоўным чынам, прайшоўшых цераз дэлегацкія сходы сялян.

Вяртаючыся да кастрычнікавага закліку важна не абмінуць, што значны процант з ліку прынятых у партыю (69%) прайшоў грамадзкую школу, што характарызуецца наступнымі лічбамі:

Грамадзкая работа прынятых у партыю па кастрычнікаваму закліку

| у саветах | | у каапэр. | | у праф-саюзах | | у КСМ | | у дабр. т-вах | | Іншая | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| абран. | неабр. | абр. | неабр. | абр. | неабр. | абр. | неабр. | абр. | неабр. | на-грузка | нагружаных |
| 8 | — | 3 | 1 | 61 | 1 | 39 | 17 | 22 | 11 | 10 | 173 |

Такім чынам, большы процант быў уцягнуты да і ў час кастрычнікавага закліку ў грамадзкую работу і зараз-жа пасьля прыёму ў партыю ячэйкі апроч правядзеньня з імі асобнай работы (асобныя нарады, сходы) значная частка была нагружана рознай грамадзкай і партыйнай работай і амаль што ўсе былі ўцягнуты ў партыйныя школы і палітгурткі.

За гэты час маецца пашырэньне сеткі партыйных ячэек з 81 да 97, пашырэньне, якое ішло, галоўным чынам, за лік вясковых ячэек (павялічэньне на 12) і адначасова павялічылася колькасьць сельпартячэек з лікам камуністых ад 10 да 20 чал. (на 1-VIII—21 яч. на 1-IV—29 ячэек). Як задача, перад арганізацыяй на бліжэйшы пэрыяд пастаўлена—пашырэньне сеткі партячэек за лік арганізацыі іх у савецкіх і каляктыўных гаспадарках.

З. Чухман

# Состояние ячейки трудколлективов (Гомель)

Парт'ячейка трудколлективов об'единяет коммунистов 2-х коллективов „Ларек" и „Общепит" и насчитывает всего 46 чел, из них 5 канд. По партстажу состав ячейки не молодой—50%—с 1918 года по 1921 год.

Работа в ячейке за последний год несколько оживилась. Ячейка подошла ближе к руководству хозяйственной работой и фракциями месткомов.

### Болезни и недостатки в ячейке

Казалось бы, что поскольку состав ячейки по партстажу в основном приличный, болезненных явлений там не должно было иметь места. Но это далеко не так. Мы здесь имеем такое положение, когда болезненные явления уж слишком выпирают наружу.

*В чем они заключаются? Склоки, дрязги, сплетни* хотя в количественном отношении несколько уменьшились в сравнении с прошлым, но все же тип этой болезни в ячейке сохранился. Эта болезнь исходит в основном от части партийцев, которые часто позволяют себе ряд недостойных членов партии поступков и когда им указывается на это, то они не только не считают эти указания правильными и стараются их исправить, а, наоборот, думают, что это, мол, к ним придираются, что члены партии, которые указывают на эти недостатки и ставят эти вопросы в бюро, являются сплетниками, что они подкапываются и т. д.

Факты. Чл. партии (семейный, имеет 2-х детей) получил в прошлом ряд партвзысканий за неэтичные, некоммунистические поступки, за связь с проституткой и т. д. Казалось бы, что хватит, надо было исправиться, но это далеко не так—он продолжает итти по скользкому пути: пару недель тому назад назначает свидание с „дамой". Для того, чтобы быть гарантированным, что она придет, берет в залог *колечко*. Она приходит в назначенное время, идут вместе в ресторан, напивается с ней. Для какой цели? Это секрет (хотя по мнению этого тов. у него были самые чистые, невинные намерения). Связался с домовладельцем хозяином магазина, выпивает часто с ними вместе и т. д.

Беспартийные, что, конечно, вполне правильно, указывают члену партии той же ячейки: „видите, как ваши коммунисты ведут себя". Когда этот вопрос обсуждался на бюро и собрании ячейки, то находятся такие т. т., которые пытаются взять его под свою защиту. По мнению этих т. т. члены бюро являются „сыщиками, они, мол, следят за каждым поворотом товарищей. Один т. высказывает на бюро и общем собрании ячейки такую мысль: „если он не может это „чисто" делать (т. е. так сделать, чтобы никто не заметил! З. Ч.), то душа с

него вон". Вот, мол, я это тоже практикую, но вы меня (это на чл. бюро яч. З. Ч.) никогда не поймаете! Как будто неэтичные поступки можно делать, но надо их делать с толком, „умеючи", а, главным образом, чтобы никто не знал об этом.

*Дрязги, сплетни в ячейке создали обстановку недоверия друг к другу,* нетоварищеские взаимоотношения между собой—чл. партии. То, что для части членов партии этой ячейки является привычным, вполне узаконенным, то для человека, впервые попавшего на собрание ячейки—особенно, когда разбирается вопрос, затрагивающий некоторых т. т.,—является противным Вы можете там слышать, примерно, такие „реплики": подлиза, вреш, демагог и т. д.; часто мешают друг другу говорить.

Это недоверие выражается и в другой форме: бывает, когда придешь поделиться с тов. по тому или другому отрицательному факту, то вместо правильного ответа часто услышишь: это сплетни, неправда. Что это значит? Это значит, что эти сплетни, дрязги так вкоренились в ячейке, что мозги отдельных т. т. работают по определенному направлению: эти сплетни заставляют часто не доверять тем или другим указаниям т т. на отрицательные моменты. Есть случаи, когда отдельные т. т. боятся говорить об этих болезненных моментах: „не зачем мол, мне начинаться с ними, он еще кое что выдумает и на меня", или просто:—нет охоты обижать т. т., сойдет так".

Все это культивирует в ячейке хладнокровное отношение вообще к различным недостаткам в хозяйственной, партийной и профессиональной работе Отсюда и целый ряд других непартийных поступков, систематическая выпивка, неэтичное поведение некоторых партийцев в быту и т. д.

Таким образом получается, что сами эти болезни под разным соусом самоограничивают борьбу с собой.

Можно было, примерно, такую лестницу изобразить: 1) основная опора этой лестницы: дрязги, сплетни; 2) сделал антипартийный поступок? Ничего подобного. Это подкапываются или—это дрязги; 3) указать на отрицательный факт?—Рисковано, не хочется иметь дело, зачем начинаться, потом сам не вылезешь, опасно: скажут, что это сплетни; 4) вообще не следует обижать т. т., по семейному уладим дело; 5) завершается это общим нереагированием на болезни и недостатки.

*Вместо правильного претворения в жизнь решений 15-го с'езда партии: вместо здоровой самокритики, самобичевания болезней ячейки с тем, чтобы их изжить, часть т. т. стараются путем другой, нездоровой критики*—(эта „категория" критики в значительной степени развита в ячейке. З. Ч.) *замазывать, сглаживать и этим самым вгонять болезнь глубже во внутрь.*

### Культмассовая и воспитательная работа слабо поставлена

Большинство членов ячейки были вначале учебного года распределены по школам Существует кружок по проработке решений 15-го с'езда партии. Контроль над посещаемостью апокомиссией не проводился. Вледствие этого частые пропуски. Вообще воспитательная работа в ячейке слабо проводится, несмотря на то, что ячейка по своему культурному и политическому развитию стоит на низком уровне.

Апокомиссия не работает, не руководит проводимой воспитательной работой среди б./п. фракц. месткомов (ларка и общепит) в этом деле также слишком отстали. В коллективе „Ларек" имеется кр. уголок,

где можно было бы работу проводить. Воспитательная работа по практическим вопросам жизни коллектива, как воспитание по лини недостач по магазинам, по линии взаимоотношений работников прилавка с потребителем, совершенно не проводится. Несколько живее работает экономкомиссия, но и тут имеются существенные недостатки. Экономкомиссия и производственные совещания часто не занимаются своими непосредственными функциям: обсуждают несвойственные вопросы, как например, о состоянии ларька, принимают соответствующие постановления: пример (несмотря на включение ларька в плановое снабжени... принять меры через соответствующие организации об улучшении положении ларька и т. д.). Есть случаи, когда экономкомиссия подменяет местком: о той или другой ненормальности по лавке работники часто обращаются не в местком, а в экономкомиссию. Постановления производственных совещаний не утверждаются месткомом.

## Недостатки в хозяйственной работе

Недостачи по магазинам „Ларька“ и буфетам „Общепита“ как будто получили там права гражданства и доходят до внушительной цифры: по „Ларьку“ мы имеем на 1-е октября 27 г. около 3.500 руб. (сюда входит некоторая часть недостач и после октября). По буфетам „Общепита“ около 1.800 руб. В этом деле не отстают и некоторые коммунисты—они идут „в ногу“ с беспартийными рабочими.

Условия работы для работников трудколлективов не совсем хорошие—частая сменяемость работников прилавка, буфетов усугубляет положение с недостачами. Все же это ничуть не смягчает вопроса и вести решительную борьбу против этого необходимо.

В отношении сменяемости замечается недоговоренность между администрацией и биржей труда. Часто бывают курьезы. А ведь договориться можно и необходимо. Нужно, чтобы и биржа труда и союз были ответственны за качество посылаемых работников.

Есть такие случаи, когда зав. магазинами за свой риск и страх отпускали товар (мануфактуру) в кредит своим знакомым и в том числе и сами кредитовались. Это делает член партии и когда при его докладе на бюро ячейки об этом спрашивают, он отрицает подобные факты. Такие явления кредитования имели место и по некоторым буфетам.

Не излишне будет тут указать на такую ненормальность: администрация общепит покупает в „Ларьке“ некоторые продукты (булочн. кондитерския изделия и др.) Несвоевременно производился расчет, ну и что же, есть один „хозяин“—управление трудколлективами, где можно было регулировть вопрос: управление трудколлективами могло заставить администрацию „Ларька“ отпускать нужные продукты. Это далеко не так, вопрос этот не решается так „упрощено“, как думают. Посылаются „ноты“, трещат телефоны—к соглашению не пришли—и разрыв торговых сношений. А кто здесь выиграл? Конечно, частник, так как эти продукты должны были некоторое время закупаться на частном рынке.

В хозяйственной работе „Общепита“ имеется ряд крупных недостатков. Пример: существует столовая „Общепита“, она дифицитна. Казалось бы что надо больше заглядывать сюда, стараться уменьшать расходы, и т. д. этого нет. Есть обратное: безхозяйственность. Вот, что рассказывает партиец на партдне: всего варят около 30 обедов в день; остается половина, подогревают в следующий день, и т. д В итоге выбрасывают на улицу, как негодное к пище. Закупка продуктов в

качественном отношении часто скверная. Обо всем этом администрация „Общепита“ не знала. Так она заявила на партдне. Партячейка также ничего об этом не знала и не приняла соответствующих мер, несмотря на то, что там работали члены партии. За первый квартал текущего года общепит имеет дефицит около 4000 руб. В отношении снижения административных и накладных расходов результатов нет. Имеется увеличение расходов по отношению к обороту, приблизительно проц. на 40. Накидки по буфетам, особенно там, где продаются спиртные напитки, доходяг на некоторые продукты до 300 проц. И вот представьте себе: буфеты в рабочих районах,—а они являются наиболее доходными, как об этом заявляла сама администрация—какую пользу они дают? Содействуют увеличению пьянства в рабочих районах, побольше выкалачивать рубли у рабочих (накидки). Ну, а какая польза в этом деле? Буфеты дают работу некоторому количеству безработных. На какой стороне перевес—трудно сказать. Если к этому учесть громадные недостачи по буфетам, а эти недостачи могут быть даже при хорошей постановке контроля (надо заметить, что таковой далеко не хорошо поставлен), ибо торговля продуктами находится в буфетах, не поддаются точному учету, то можно сказать, что эти буфеты приносят больше отрицательного чем полезного. По последним сведениям, некоторые буфеты административным отделом закрыты. Необходимо, чтобы соответствующиее организации заинтересовались этим делом и вывели отсюда соответствующие выводы.

## Выводы

Бюро райкома партиии дало ячейке ряд директив для изжития всех недостатков в ее работе, особенно заострено внимание на болезни внутри ячейки. Ячейке сказано: *решительно бороться против болезни внутри вплоть до постановки вопроса об исключении из партии. Всю работу проделывать коллективно всей ячейке, больше коллективности в работе бюро, вместо нездоровой критики развернуть здоровую самокритику.*

Коллектив „Общепит“ не связан по своей работе с коллективом „Ларек“, по профсоюзной линии они состоят в различных союзах: первы союз Нарпит, второй—союз Совторгслужащих. Это затрудняло работу и руководство этими коллективами. Коллективу „Общепит“ бюро ячейки мало уделяло внимания, вследствие чего там работа еще слабее поставлена. Бюро райкома решило открепить этот коллектив от ячейки „Ларька“. Ячейке дана директива, несмотря на то, что она противилась этому, о переводе своей работы на еврейский, язык так как обсолютное большинство в ячейке евреи (1 русск.), которые выражают свои мысли лучше на еврейском языке.

*Обледование внесло свежую струю в работу ячейки. Надо полагать, что эта струя поможет ячейке исправить все недостатки и выздороветь окончательно.*

---

М. Шапіра

# Масавая работа, як яна ёсьць

*(Н. Барысаў)*

Барысаўскі гарком КП(б)Б правёў праверку становішча масавай работы і ступень выкананьня дырэктыў па гэтым пытаньні сакавіковага Пленуму ЦК КПБ ад 1927 г. Праверка гэтая праводзілася з шырокім прыцягненьнем партактыву. Пры ўсіх ячэйках былі складзены спэцыяльныя камісіі па праверцы, а ў больш буйных ячэйках і каляктывах па некалькі камісій, пры чым кожная камісія правярала якуюнебудзь галіну масавай работы. Вынікі камісій зацьвярджаліся на бюро ячэек. Да некаторых больш тыповых прадпрыемстваў прымацоўваліся прадстаўнікі гаркому для помачы ў гэтай рабоце і для больш глыбокай праверкі. Усе гэтыя матэрыялы далі вынікі, і матэрыял, атрыманы, ад ячэек, у большасьці выпадкаў досыць глыбока і аб'ектыўна малюе становішча масавае работы. Праўда, меліся выпадкі прадстаўленьня вельмі слабага, з пункту погляду якасьці, матар'ялу, дзе замест канкрэтных даных аб працы гаворыцца аб тым, што праца „наладжваецца“, спосабы „прыймаюцца“, „наогул і цалкам“ і г. д. Але-ж гэта рэдкія выключэньні. Увесь матэрыял быў абагулен у дакладзе пастаўленым на абгаварэньне пленуму гаркому. Вялікая зацікаўленасьць і актыўнасьць пленуму пры абгаварэньні гэтага пытаньня, кажуць аб тым, што пытаньні масавае работы зьяўляюцца жывымі і цікавымі ў практыцы кожнае партыйнае ячэйкі.

Як-жа з масаваю работаю на справе?

### Масавая работа парт'ячэек

а) Адчыненыя сходы ячэек.

Адным з асноўных відаў масавай работы парт'ячэек, які зьвязвае ячэйку з беспартыйнымі масамі рабочых гэта адчыненыя сходы ячэек. Калі ўзяць суадносіны паміж адчыненымі і зачыненымі сходамі ячэек, дык у сярэднім па горадзе суадносіны больш-менш нармальныя: з 249 сходаў праведзеных усімі 18 ячэйкамі гор. Барысава, адчыненых сходаў было 134 г. зн. 54%. Гэта з мая 1927 г. па студзень 1928 г. г. зн. за пэрыяд летні і васеньні, уключаючы перадзьездаўскую дыскусію, якая павялічыла лік зачыненых сходаў ячэйкі. Але-ж па паасобных ячэйках маюцца значныя разьбежкі ад гэтых сярэдніх досыць нармальных суадносін, напр. яч. будаўнікоў правяла за вышэйпаказаны час 5 зачыненых сходаў і 12 адчыненых, яч. гарадзкога камбінату 5 зачыненых і 10 адчыненых сходаў, а ячэйка зав. ім. Леніна 12 зачыненых і 7 адчыненых сходаў, бязумоўна, гэта патрабуе, каб некаторыя ячэйкі павялічылі лік сваіх адчыненых сходаў. Таксама маюцца выпадкі калі абвяшчаюцца адчыненыя сходы, прыходзяць рабочыя, слухаюць уважна, разглядзелі адно пытаньне, другое, раптам сакратар ячэйкі

ўстае і абвяшчае: „зараз будуць разглядацца некаторыя закрытыя пытаньні, беспартыйных просім пакінуць памяшканьне“.

Усе ўстаюць, азіраюцца; некалькі беспартыйных на вачох усяго сходу пачынаюць праціскацца да выхаду, сюд-туд чуюцца сьмяшкі, выкрыкі „а ну пошевеливайся“.

Беспартыйны рабочы, раз вышаўшы гэтакім спосабам з партсходу, другі раз наўрад ці пойдзе на яго. Праўда, гэткія выпадкі ў асноўным выжыты, але-ж яны былі за даны пэрыяд.

Наведваньне беспартыйнымі рабочымі партсходаў нявысокае. На ўсіх 134 адчыненых сходах адмечана беспартыйных 1048 чал., альбо 9-10 чал. у сярэднім на сход. Магчыма, што частка беспартыйных ня ўлічана, што можа павысіць гэтую сярэднюю лічбу да 12-15 чалавек. Асноўным недахопам гэтай справы—зусім недастатковая ўвага гэтым беспартыйным з боку парт‘ячэек. Напрыклад, калі гарком зацікавіўся—ці склікаецца сталы кадр беспартыйных, наведваючых партсходы і колькі чалавек налічвае гэты кадр, выявілася што многія ячэйкі гэтага зусім ня ведаюць, а асноўныя рабочыя ячэйкі налічылі гэты кадр па ўсіх прадпрыемствах у 60 чал., тым часам як кастрычнікавы заклік даў 260 заяў аб прыёме ў партыю.

Выходзіць, што падаўшыя заявы альбо зусім не наведвалі партсходы, альбо наведвалі іх рэдка і нерэгулярна.

Апроч недахопаў вучоту працы тут і недастатковая падрыхтоўка адчыненых сходаў, а ў большасьці выпадкаў адсутнічаньне гэтае падрыхтоўкі зусім. Аб сходзе партыйцы звычайна паведамляюцца за 2-3 гадзіны да сходу—дзе ўжо тут падрыхтоўцы беспартыйных да гэтых сходаў.

Паміж іншым падбор пытаньняў у парадак дню ў большасьці выпадкаў добры і пытаньні разглядаюцца цікавыя для партыйных і беспартыйных рабочых.

Удзел беспартыйных на самым сходзе, актыўнасьць іх большаю часткаю заключаецца ў задаваньні пытаньняў дакладчыкам, выступленьняў у спрэчках, а тым больш унясеньнем прапаноў—вельмі рэдкае зьявішча.

б) Індывідуальная работа партыйцаў сярод беспартыйных.

„Індывідуальная работа кожнага камуністага разглядаецца як асноўнае партыйнае заданьне“. Гэта дырэктыва сакавіковага пленуму не атрымала пэўнага адбіцьця ў практычнай рабоце амаль усіх ячэек гор. Барысава. Надта слаба з кіраўніцтвам ячэек на гэтай рабоце. Напрыклад, яч. ф-кі „Чырвоная Бярэзіна“ ў сваіх выніках піша: „індывідуальная сувязь і работа камуністых сярод беспартыйных слабая, адпаведны пункт сакавіковага Пленуму ЦК слаба прывіўся ў парткалектыву, некаторыя камуністыя гэтую работу нерэгулярна праводзяць, ды-ж і тэй вучоту няма“. Ячэйка заводу ім. „Камінтэрну“ піша, што „індывідуальная работа праводзіцца некаторымі партыйцамі па іх асабовай ініцыятыве, але ніякай арганізацыі ў гэтай рабоце пакуль няма. Спэцыяльна высунутых для гэтае работы таварышоў таксама няма“. Ячэйка з заводу ім. „Домбаль“—„у цяперашні час гэта работа не вядзецца“. Прыведзеныя вытрымкі з вынікаў буйнейшых парткалектываў і прадпрыемстваў Барысава (Бярэзіна—1000 рабочых, „Домбаль“—800 і г. д.) вельмі яскрава малюе становішча гэтае работы. У астатніх ячэйках ня лепш; некаторыя ў сваіх выніках зусім не ўпамінаюць пра гэтае пытаньне, лічачы яго відаць малаважным.

в) Групавая агітацыя.

Групавая агітацыя праводзіцца ў шэрагу прадпрыемстваў („Бярэзіна“, завод ім. „Камінтэрн“, ф-ка „Рабочы“, зав. імя „Домбаля“ і др.),

але маецца шэраг прадпрыемстваў, дзе гэтая работа зусім не праводзіцца і не пачыналася („Прафінтэрн“, зав. імя „Р. Люксэмбург“, будаўнікі і іншыя). Там, дзе яна праводзіцца, праходзіць без належнай увагі з боку ячэек; тое-ж самае можна сказаць адносна кіраўніцтва гэтаю справаю з боку ячэек. Толькі 2 парткалектывы (зав. імя „Камінтэрну і „Чырвоная Бярэзіна“) давалі арганізацыйную дапамогу групавым агітатарам у выглядзе кароткіх канспэктаў-гутарак. На зав. ім. Камінтэрну праводзяцца арганізаваныя ячэйкаю „палудзеньнікі“ г. зн. чыткі газэт і гутаркі па прачытаным. У астатніх ячэйках палудзенны перапынак зусім не скарыстоўваецца для масавай работы і для групавых гутарак. Але нават там, дзе гэта работа арганізавана, яна вельмі мала зачэпвае мясцовыя пытаньні і абхопвае толькі „грядущие“ кампаніі і то далёка ня ўсе. На больш буйных прадпрыемствах (зав. ім. Домбаля і „Чырвоная Бярэзіна“) маюцца гурткі групавых агітатараў, ахопваючых 30 чал.; рэгулярна работа пачалася нядаўна і некаторую дапамогу ў практычнай рабоце, яны пачалі аказваць толькі апошнімі днямі.

г) Беспартыйны актыў і работа па яго выхаваньню.

Беспартыйны актыў з рабочых ахоплівае досыць шырокі пласт рабочых. Па падліку ячэек яго налічваецца 641 чал. Яшчэ да гэтага часу ня высьветлена пытаньне аб тым, каго лічыць беспартыйным актывам. Некаторыя ячэйкі лічаць беспартыйным актывам усіх зборшчыкаў сяброўскіх узносаў, усіх дэлегатак Жанаддзелу (нават тых, якія з моманту абраньня ў дэлегаткі за 4 месяцы ні разу не наведалі сходу). Вучоту актыву па выконваемай рабоце і па актыўнасьці няма. Напрыклад, ячэйка заводу ім. Домбаля ў сваіх выніках піша: „Беспартыйнага актыву на заводзе 90 чал.; з іх працуюць актыўна чал. 30, астатнія ніякай работы не вядуць“. Некаторыя ячэйкі лічаць беспартыйны актыў нейкай неазначанай катэгорыяй. Напрыклад, ячэйка зав. ім. Леніна піша: „Беспартыйнага актыву налічваецца 15—20(?) чалавек“.

Адгэтуль зразумелы прычыны слабасьці выхаваўчае працы сярод беспартыйнага актыву, адсутнасьць дакладнага вучоту, маючы ў некаторых выпадках штучна раздутыя „сьпісы“ гэтага актыву; ячэйкі проста адмахнуліся ад задачы сыстэматычнае выхаваўчае работы сярод беспартыйнага актыву.

Пленум у якасьці практычных мерапрыемстваў па гэтаму пытаньню рэкамэндаваў: для сыстэматычнае выхаваўчае працы (і для набліжэньня да сябе), ячэйкам узяць больш вузкі круг сапраўднага актыву, неадмаўляючыся, зразумела, ад працы па падвышэньню актыўнасьці ўсіх рабочых. Сама выхаваўчая праца павінна ісьці шляхам: пэрсанальнага запрашэньня актывістых на адчыненыя партсходы праз індывідуалаў; праз уцягненьне актывістых у партсетку і пэрыядычныя нарады беспартыйнага актыву, як па агульных пытаньнях, гэтак і па паасобных галінах работы. Трэба адзначыць, што першы від работы адсутнічаў зусім, што датычыцца ўцягваньня беспартыйнага актыву ў партасьветную сетку, дык у гэтай справе нейкая работа ёсьць; ва ўсе школы палітграматы ўцягнута 128 чал. беспартыйных актывістых. Нарада беспартыйнага актыву праводзілася, напрыклад, на заводзе імя Камінтэрну ў сувязі з выплыўшымі непаразуменьнямі аб парадку кіраўніцтва ячэйкаю грамадзкім жыцьцём; была склікана нарада, дзе абгаварваўся даклад „партыя як авангард і кіраўнік рабочае клясы“. Абгаварэньне было досыць жывое і актыў адклікаўся, што гэта нарада растлумачыла ім шмат незразумелых да гэтага часу пытаньняў.

Жваваму абгаварэньню гэтага пытаньня шмат пасобіла тое, што даклад быў пабудаваны на прыкладах свайго прадпрыемства.

## Масавая праца прафарганізацый

а) Агульныя і дэлегацкія сходы рабочых.

Калі ўзяць колькасьць, дык дырэктывы Пленуму ЦК выкананы досыць здавальняюча. Прафсаюзныя і другія агульныя і дэлегацкія сходы рабочых склікаюцца адзін раз на месяц, а то і часьцей.

Як толькі пачынаеш больш уважліва прыглядацца да таго як праходзяць, падрыхтоўваюцца і якія даюць вынікі сходы рабочых, дык даводзіцца адзначыць, што хоць прайшоў амаль год ад дня абгаварэньня гэтага пытаньня на Пленуме ЦК, але-ж істотных зьмен у сувязі з дырэктывамі Пленуму няма.

Папершае, наведваньне застаецца нізкім, асабліва для агульных сходаў. Характэрна прызнаньне аднаго прафпрацаўніка: „калі трэба адчыняць сход, я стаю з аднаго боку варот, а старшыня фабкому з другога і накіроўваем выходзячых рабочых на сход, інакш нічога ня будзе—разыйдуцца“. Гэта на адным з буйнейшых прадпрыемстваў. Наогул наведваньне агульных сходаў хістаецца ад 30% да 65%.

Дзе-ж асноўны „корань зла“?

Па агульнаму прызнаньню Пленуму гэты недахоп аўтарытэтнасьці рабочых сходаў, выкліканы тым, што ўсюды адсутнічае сыстэматычная праверка выкананьня вынасімых пастаноў, і адгэтуль абыякавыя адносіны рабочага—„гавары не гавары, наведвай альбо не наведвай—усё роўна вынікаў ня будзе“. Напрыклад, ячэйка будаўнікоў у сваіх выніках піша: „пастановы часта носяць агульны характар, ня ўлічваюцца асаблівасьці і пастановы не правяраюцца з пункту погляду іх выкананьня. Значная частка пастаноў забыта камітэтам“.

Ячэйка ф-кі „Чырвоная Бярэзіна“ паведамляе: „праверка выкананьня выносімых пастаноў недастаткова і паведамленьне рабочых аб выкананьні даўнейшых пастаноў слаба праводзіцца“. Завод імя Домбаля—„інфармацыя рабочых аб выкананьні наказаў і пастаноў пастаўлена кепска. Сыстэмы заўсёдышняга інфармаваньня няма, а ёсьць бяссыстэмныя прыватныя размовы аб тым, што тая ці іншая пастанова выканана“.

Гэтакі-ж прыблізна малюнак наглядаецца і на іншых прадпрыемствах. Ці можна пасьля гэтага дзівіцца з нізкага процанту наведваньня рабочых сходаў і малое зацікаўленасьці да іх з боку рабочых.

Некалькі вышэй наведваньня дэлегацкіх сходаў, але-ж тут бяда другога парадку—дэлегаты нідзе ня робяць справаздачы перад сваімі выбаршчыкамі, рабочыя, мала інфармуюцца аб пастановах дэлегацкіх сходаў, ня кажучы ўжо аб іх выкананьні.

Зразумела, што высокі процант наведваньня дэлегацкіх сходаў (ад 75 да 95%) вельмі мала цешыць, бо пры такой пастаноўцы справаздачнасьці дэлегатаў іх сходы фактычна зьмяняюцца ў штучна-фармальны агульны сход рабочых.

### Вытворчыя нарады і вытворчыя камісіі

Аб уцягненьні рабочых у вытворчыя камісіі сьведчаць наступныя даныя па 12 прадпрыемствах гораду. Усяго маецца ў гэтых камісіях 118 чал. з іх 105 мужчын і 13 жанчын. З агульнага ліку—камуністых 46 чал., камсамольцаў 12 і беспартыйных 60 чал.

Склад вытворчых нарад прасачыць цяжка, таму, што ён надта цякучы. Маецца шэраг прадпрыемстваў, дзе ўдзел камуністых і камсамольцаў у вытворчых нарадах вельмі слабы. Асабліва слабы ўдзел у вытворчых нарадах жанчын работніц, што тлумачыцца адсутнасьцю работы ячэек па ўцягненьню жанчын.

За апошні час значны рух наглядаецца ў камсамоле па падвышэньню ўдзелу камсамольцаў у вытворчым жыцьці. Напрыклад, ячэйка КСМ зав. імя Домбаля праводзіць конкурс на лепшага вытворца з моладзі, пры чым гэты конкурс выклікаў жывую зацікаўленасьць з боку рабочай моладзі заводу.

Процант выкананьня пастаноў вытворчых нарад і камісій досыць здавальняючы У некаторых прадпрыемствах 75-90 і нават 95%, але-ж маюцца факты такога напрамку, напрыклад, на ф-ке „Чырвоная Бярэзіна", дзе процант выкананьня пастаноў вытворчых нарад і камісій 53.

Адна акалічнасьць маецца ў гэтай справе трывожнага характару— гэта стан удзелу рабочых у вытворчым жыцьці на будаўнічых работах. Маюцца неаднаразовыя ўказаньні вышэйшых парторганаў аб зьніжэньні сабекошту будаўнічых работ, а паміж іншым і прафсаюзныя, і гаспадарчыя органы ня толькі недастаткова прыцягваюць рабочых да гэтае справы, а ў шэрагу выпадкаў адпіхаюць рабочага.

Вось як характарызуе ячэйка будаўнікоў становішча гэтае справы: „На некаторых буйных пабудовах, як мост праз Бярэзіну, тэхпэрсанал не заўсёды ідзе насустрач рабочым у справе ўнікненьня вытворчых дэфэктаў, а часта нават ігнаруе іх". Ці можна пры такім становішчы сур'ёзна ставіць пытаньне аб зьніжэньні сабекошту вытворчасьці?

І тут, як у справе аб агульных і дэлегацкіх сходах рабочых, асноўны недахоп!—адсутнасьць альбо слабая сыстэматычная праверка пастаноў і пажаданьняў рабочых з пункту погляду іх вучоту і праверкі правядзеньня ў жыцьцё. Напрыклад, ячэйка завода ім. Домбаля піша: „вучоту прапаноў і іх рэалізацыі ня было, пры праверцы вышла, што 75% прапаноў рабочых праведзена ў жыцьцё" Гэта палажэньне характэрна для большасьці ячэек. Зразумела, што адсутнасьць праверкі выкананьня пастаноў у шэрагу выпадкаў зводзіць на нішто добрыя пажаданьні рабочых, паніжае іх зацікаўленасьць да вытворчых нарад наогул.

## Рабкораўскі рух і насьценгазэта

Рабкораўскі рух у Барысаве расьце і разгортваецца досыць пасьпяхова. Выпускаецца 18 насьценгазэт, рэгулярна працуе 12 гурткоў рабкораў—ахапляюць 212 чал. Фактычна лік рабкораў большы, бо пры 6-ці насьценгазэтах гурткоў няма. Як агульнае зьявішча ўзаемаадносіны рабкораў з партячэйкамі нармальныя. Толькі пасьля абгаварэньня пытаньня аб масавай рабоце на пленуме гаркому выяўлен адзін факт ненармальных узаемаадносін бюро парткалектыву („Чырвоная Бярэзіна" з рэдкалегіяй насьценгазэты, аб чым своечасова пісалася ў газэце „Рабочий"). Хоць гэты факт у ўмовах Барысава і адзіны, аднак на ім варта застанавіцца.

Справа ў кароткіх рысах такая: у Кастрычніку 1927 г. на ф-цы „Чырвоная Бярэзіна" на сходзе пераабіраецца рэдкалегія насьценгазэты. Праходзяць усе таварышы намечаныя на бюро парткалектыву—5 камуністых. За ўвесь час іх працы да 10 кастрычніка пытаньні рэдкалегіі на бюро калектыву ня ставяцца. Работу рэдкалегіі выконваюць большаю часткаю камсамольцы, маладыя кандыдаты партыі; абраны ў рэдкалегію член партыі з 1919 году з кожным тыднем адыходзіць і сваю працу амаль спыняе. Гурток рабкораў пазбаўлены моцнага (і наогул усялякага) парткіраўніцтва, варыцца ва ўласным саку. Актыўным супрацоўнікам насьценгазэты працуе „правадыр" апазыцыі камсамольскага калектыву (выключаны з камсамолу) Незаконаў. Зьяўляюцца размовы

і аб прасьледваньні рабкораў, пры чым пад прасьледваньнем прыймаецца нядопуск на работу спазьніўшага на 45 хвілін пасьля гудка рабкора, замена рабкора, які адмовіўся ад работы і аблаяў заг. цэхам вулічнаю лаянкаю, і т. п. факты. Тым ня менш газэта сама па сабе выходзіць рэгулярна і ня кепска. Жывы, цікавы матар'ял. Добры знадворны выгляд. Газэта добра чытаецца.

Пасьля таго, як у газэце зьяўляюцца заметкі і карыкатуры бічуючыя адказных працаўнікоў (дырэктара, старшыню фабкома і некаторых паасобных камуністых) 10 лютага на паседжаньні бюро калякгыву ставіцца пытаньне: „аб карыкатурах на адказных працаўнікоў" (заўважым, не аб рабоце і напрамку, але аб карыкатурах,) пры чым бюро канстатуе: што ўсе заметкі і карыкатуры, за выключэньнем аднае грунтуюцца на сапраўных фактах, як быццам ня так ужо кепска, але-ж бюро дае рэдактару газэты добрую славесную тропку, а ў пастанове запісваецца: „у зьвязку з тым, што падобныя карыкатуры па сутнасьці нічога не даюць (хіба М. Ш.), а толькі падрываецца аўтарытэт работнікаў, прапанаваць рэдактару ў будучым усе заметкі на адказных працаўнікоў загадзя ўзгадняць з бюро парткалякгыву да рэдкалегіі. „Акрамя гэтага выносіцца пастанова прымацаваць" для кіраўніцтва члена бюро парткалякгыву (гэта да 5 камуністых).

Высунуты „для кіраўніцтва" прыступае да працы. Зьявіўшыся на пярэдадні выпуску насьценгазэты, зьбірае ўвесь матар'ял і пайшоў; зьвярнуўшыся праз гадзіну зварочвае са словамі: „сакратар парткалякгыву дазволіў, можаце пускаць".

Назаўтра выходзіць газэта; на відным мейсцы карыкатура: „наш цэнзар" з надпісам: „Бюро парткалякгыву высунула т. Разэнблюма для праверкі ўсіх заметак у нашай газэце". На наступным паседжаньні бюро калякгыву пытаньне ўжо разглядаецца аб рэдактару пры чым бюро пасьля шырокіх спрэчак пастанаўляе „вынесьці суровы выгавар з занясеньнем у асабовую картку за высьмейваньне бюро калякгыву і за невыкананьне пастановы аб узгадненьні заметак на адказных працаўнікоў".

Гэтае пытаньне ставіцца на абгаварэньне гаркому, спэцыяльная камісія вывучае ўсю гэтую справу і бюро гаркому пастанаўляе: „адмяніць пункт пастановы бюро аб узгадненьні заметак і выдзяленьні члена Бюро, адзначаючы грубое нарушэньне партдысцыпліны з боку рэдактара, які замест апэляцыі да парторганаў на няправільную, па думцы, пастанову бюро калякгыву, бічуе гэтую пастанову праз насьценгазэту, чаму Бюро паставіла яму на від.

Гэтая гісторыя надта паказальна з пункту гледжаньня пастаноўкі правільнага кіраўніцтва насьценгазэтай. Недахопы кіраўніцтва могуць прывесьці да сур'ёзных вынікаў і дужа падарваць работу.

Трэба сказаць, што гэты выпадак зьяўляецца адзіным на працягу ўсяе практыкі работы гаркому КПБ.

### Дабраахвотныя арганізацыі

Асноўныя дабраахвотныя арганізацыі (МОПР, Осо-Авіяхім, ОЗЭТ) растуць і разгортваюць сваю працу. Колькасны рост усіх дабраахвотных таварыстваў выказваецца ў наступных лічбах (за 9 месяцаў). Лік членаў з 7308 да 8030, лік ячэек з 80 да 117, лік гурткоў з 16 да 27 і г. д. асабліва трэба адзначыць разготваньне Асо-Авіяхіму, МОПР'у, ОЗЭТ.

Асо-Авіяхім вырас з 3000 да 3500 чал., з 13 гурткоў да 22, пры чым большасьць гурткоў працуе нармальна Гэта, напэўна не азначае

што ўсё добра, маецца значная колькасьць „папяровых“ членаў, некаторыя ячэйкі не праяўляюць ніякай дзейнасьці.

Малюнак росту можна наглядаць і ў МОПРаўскай арганізацыі, але-ж тут лік фармальных членаў яшчэ больш.

Хутка і досыць добра расьце і разгортвае працу ОЗЭТ: з 50 ч. членаў у кастрычніку гэтае таварыства зараз налічвае 362 чал. прычым члены ОЗЭТ праяўляюць значную актыўнасьць.

Слабым мейсцам у дабрахвотных арганізацыях гэта шэфтаварыства. Хоць большасьць ячэек шэфтаварыства працуе, выяжджае ў вёску, але-ж сыстэматычную працу вядуць толькі 2 ячэйкі, астатнія працуюць з налёту, кампанейскім спосабам.

Як агульнае зьявішча, недастатковая адказнасьць камуністаў кіраўнікоў ячэек дабраахвотных таварystваў іх каля 90%. Там, дзе парт'ячэйкі ўмелі гэтую адказнасьць патрабаваць, праца разгортваецца нармальна, у астатніх мейсцах маюцца выпадкі заціраньня паасобных ячэек.

## Кіно, тэатр, радыё

Гэтая галіна масавае работы хоць і не ўвайшла ў распрацаваны матар'ял да пленуму гаркому, але-ж па даручэньні пленуму, падпалі спэцыяльнаму разгляду бюро, пасьля папярэдняга абсьледаваньня. Забясьпячэньне фільмамі кіно праходзіць праз Белдзяржкіно. Толькі 50% карцін можа быць прызнана прыблізна нядрэннымі, астатнія, замежныя „баявікі“, альбо нават некаторыя і савецкія—вельмі сумленнай якасьці („Рейс Мистера Ллойда“, „Поцелуй Мэри“ і т. п.).

Што датычыцца прыбліжэньня кіно да рабочых і чырвонаармейцаў маюцца досыць вялікія посьпехі. Кіно „Люкс“ у Нова-Барысаве распаўсюджвае сярод рабочых на прадпрыемствах ільготныя білеты па 15 кап. прычым рабочы, атрымаўшы білет, можа ў працягу месяцу ў любы дзень і на любую карціну скарыстаць гэты білет. Чырвонаармейцы прапускаюцца дармова з такім разьлікам каб кожны чырвонаармеец, раз у 7—10 дзён наведаў кіно.

Некалькі дзіўную лінію адносна кіно „Люкс“, які наведваюць амаль выключна рабочыя і чырвонаармейцы, вядзе Белдзяржкіно, спасылаючыся на тое, што гэтае кіно дае некаторы заробак, які ідзе на выдаткі цэнтральнага рабочага клюбу. Белдзяржкіно лічыць гэтае кіно „камэрцыйным“ экранам і дае па 30 р. у дзень за пракат карцін, а калі скардзіліся на благі падбор фільмаў адказвае: „гэта не камэрцыйны экран, што-ж вы патрабуеце, мы даём тое, што атрымоўваюць іншыя камэрцыйныя кіно“.

Гарсавет, папаўняючы мяйсцовы бюджэт, на тэй-жа падставе сыскваe падаткі і выходзіць, што клюб атрымлівае на дзяржбюджэце 140 р. у месяц, а павінен аддаць падаткаў 150 р. Разгортвай масавую работу як хочаш.

З тэатрам Барысаў пакрыўджан. Ня гледзячы на блізкасьць і добрыя зносіны з Менскам (4 пас. цягнікі на дзень) ні беларускі, ні яўрэйскі тэатры, ні трупа Галубка сюды ня едуць. І вось маецца горад, не апошні рабочы цэнтр на Беларусі, які здавальняецца „рознымі аб'едкамі“ вандроўнікаў, фокуснікаў, апэрэтак і сваіх драмгурткоў, прычым апошнія ня маюць належнага рэпэртуару, асабліва беларускага напр.: для гурткоў „сіняе блузы“ ніхто яшчэ не займаў вольнага часу каб напісаць рэпэртуар, хоць бы адну, дзьве п'есы. Сапраўды ня шкодзіла-б пісьменьнікам розных груповак, замест палемікі аб напрамках, скласьці што небудзь жывое для гурткоў сінеблузьнікаў на прадпрыемствах.

Становішча радыё досыць жаласнае. Часта псуецца. Адсутнічае кваліфікаванае тэхнічнае абслугоўваньне. Няма плянавага дэманстраваньня. Таварыства „Сяброў радыё“ толькі, толькі пачала арганізоўвацца. Вынік—вялікія сродкі патрачаны без карысьці. „Громкамаўчацель“, гэтая клічка апошні год ш ільна замацавалася за радыёўстаноўкамі.

## Клюбная справа

Пры буйных прадпрыемствах—клюбаў няма, іх замяняюць чырвоныя куткі, харчэўні, але-ж замяніць, напэўна, ня могуць і прыходзіцца завадзкім арганізацыям разьвязаць неразьвязаную задачу як на плошчы 3—4-х квадратных сажэняў разгортваць культпрацу для 850—1000 чал. рабочых. Адгэтуль малы абхоп клюбна-масаваю работаю. Адгэтуль значнае п'янства, праяўленьні хуліганства, няма чым і куды адцягнуць рабочага ад п'янства.

Напэўна пускаюцца на ўсялякія хітрыкі, наймаюць пакоі ў прыватных хатах, скарыстоўваюць клюбы сяброўскіх вайсковых частак, нагружаюць пакоі фабкомаў, ячэек, але-ж усё гэта напэўна становішча не выратоўвае. Намечаная пабудова клюбу хімікаў можа некалькі аблегчыць палажэньне. Таксама палягчаецца справа ўлетку: што-небудзь можна арганізаваць пад адчыненым небам.

Маюцца два цэнтральных рабочых клюбы, адзін у горадзе, другі ў Нова-Барысаве, абслужыць яны могуць 1/6 частку Барысаўскіх рабочых. На справе-ж гэтыя клюбы хварэюць хваробаю ўсіх міжсаюзных клюбаў і з вялікай цяжкасьцю разгортваюць працу.

Асноўны недахоп клюбнай працы—слабасьць работы па беларусізацыі. Яшчэ да гэтага часу рабочы праз клюбы ня можа ў дастатковай і зацікаўленай форме прыцягнуцца да беларускае мастацкае літаратуры, да беларускае культуры.

Праўда, гаркомам дадзены цэлы шэраг указаньняў, дырэктыў, але-ж іх выкананьне ўпіраецца ў цэлы шэраг цяжкасьцяў, асноўнае—адсутнасьць на мясцох дастатковага кадру кіруючых культурных сіл. Патрабуецца гомач з Менску.

## Рост культурных запытаньняў

У заключэньне, неабходна адзначыць рост культурных запытаньняў рабочае масы. Добрая лекцыя зьбірае „поўныя зборы“; была размова аб арганізацыі нядзельнага рабочага унівэрсытэту, праводзіўся запіс на прадстаўленыя заводу імя Домбаль 15 мейсц, запісалася 80 ч. і каб запіс прадоўжыўся, запісалася-б шмат больш, але з гэтага нічога ня вышла. Гэта, як і цэлы шэраг другіх момантаў, гаворыць аб узросьце культурных запатрабаваньняў. Культурная рэвалюцыя стукаецца ў дзьверы!

## Вучот настрояў рабочых

Добрым мэтадам вучоту настрояў рабочых гэта ўвядзеньне на большасьці прадпрыемстваў спыткаў запытаньняў і адказаў. Пры своечасовых і талковых адказах, гэтая форма работы дае вельмі добрыя вынікі. На падставе гэтага можна будаваць пляны масавае работы, можна ўлічыць, што трэба растлумачыць, на што трэба націснуць у даны момант.

## Неабходна шырэй асьвятляць вопыт масавае работы

З часу абгаварэньня пытаньня аб масавай рабоце на Пленуме ЦК КПБ прайшоў год. Жыцьцё паказвае, што пастановы Пленуму жыцьцёвы, правільны. Пытаньне зараз стаіць не аб выданьні новых дырэктыў, а аб рэалізацыі маючыхся. Якім спосабам яны праводзяцца ў жыцьцё, якія мэтады пры гэтым ужываюцца—усе гэтыя пытаньні трэба шырэй асьвятляць. Праверка выкананьня пастаноў Пленуму дадуць магчымасьць іх лепш праводзіць у жыцьцё.

---

# У ЦК КП(б)Б

## Пастановы ЦК КП(б)Б аб беларускай літаратурнай, мастацкай і тэатральнай крытыцы

1. На падставе агульнага ўздыму народнай гаспадаркі і культуры БССР назіраецца шпаркі рост беларускай мастацкай літаратуры і мастацтва наогул (тэатр, музыка, кіно), а таксама значны рост літаратуры і мастацтва другіх нацыянальнасьцяў (яўрэяў, палякаў), таму літаратура і мастацтва пачынае адыгрываць больш значную роль у грамадзкім жыцьці працоўных мас БССР і ў працы па іх культурнаму выхаваньню.

Класава-выхаваўчая роля мастацтва і мастацкай літаратуры усё яшчэ зьяўляецца недастаткова вялікай і невыстарчальнай для таго тэмпу культурнага росту, які зараз патрэбен краіне пралетарскай дыктатуры ў інтарэсах пасьпяховага сацыялістычнага будаўніцтва. Гэтая клясава-выхаваўчая роля літаратуры і мастацтва будзе павялічвацца больш шпаркім тэмпам пры ўмовах, калі ў літаратуры і мастацтве будуць узрастаць яе сугучнасьць эпосе пралетарскай дыктатуры, калі яна будзе больш выразна адлюстроўваць нашу эпоху, эпоху дыктатуры пролетарыяту, нашу барацьбу за сацыялістычнае грамадзтва, гэроіку рэвалюцыі, працэс стварэньня сацыялістычнага грамадзтва і новага чалавека ў клясавай барацьбе і ў будаўніцтве, калі літаратурная і мастацкая творчасьць будзе прасякнута сацыялістычнай сьвядомасьцю і марксысцкім сьветапоглядам. Садзейнічаць гэтаму зьяўляецца першачарговай задачай кожнага камуніста, кожнага рэвалюцыянэра, асабліва працуючых у галіне літаратуры і мастацтва.

2. Шпаркі рост беларускага мастацтва і літаратуры стаў магчымым толькі ў выніку пабеды кастрычнікавай рэвалюцыі, утварэньня дыктатуры пралетарыяту і поўнага ліквідаваньня нацыянальнага прыгнечаньня народаў. Далейшае павялічэньне росту літаратуры і мастацтва народаў БССР магчыма толькі пры далейшых посьпехах сацыялістычнага будаўніцтва. Лёс літаратуры і мастацтва народаў БССР цесна зьвязаны з лёсам сацыялістычнага будаўніцтва і пралетарскай рэвалюцыяй. Сучасныя дасягненьні беларускай мастацкай літаратуры вызначаюцца ў утварэньні кадраў пісьменьнікаў, творчасьць якіх сугучна нашай эпосе, у набліжэньні да сучаснасьці старых пісьменьнікаў, у наяўнасьці каштоўных як па зьместу, так і па форме літаратурных твораў, у буйнейшых дасягненьнях у літаратурнай форме, у выяўленьні новага пісьменьніцкага маладняка з рабочых і сялян, у павялічэньні тыражу літаратурных твораў, у павялічэньні кадра чытачоў з пралетарыяту, сялянства, рабоча-сялянскай моладзі.

Але ў той самы час, калі ўзрост беларускай прамысловасьці, культурны ўздым вёскі і павялічэньне культурнасьці, арганізаванасьці пралетарыяту і ролі сялянскай беднаты, спрыяюча дзейнічаюць на рэвалюцыйнае разьвіцьцё мастацтва і літаратуры,—у той самы час, на другім канцы, у сувязі з павялічэньнем ролі кулака ў апошнія гады, узростам гарадзкой дробнай буржуазіі, а таксама і з прычыны невыстарчальнай працы па выхоўваньню пісьменьніцкага маладняка, сярод паасобных пісьменьнікаў пачаліся хістаньні, адзначылася з боку некаторых пісьменьнікаў набліжэньне да гэтых пластоў насельніцтва. Гэта выявілася у паяўленьні паасобных твораў, чужых сучаснасьці, а падчас варожых дыктатуры пралетарыяту, пралетарскаму сьветапогляду і працоўным масам. Нашай задачай у галіне мастацкай літаратуры зьяўляецца ўсямерна садзейнічаць разьвіцьцю творчасьці пісьменьнікаў, якія становяцца ці ўжо сталі на глебу пралетарскай клясавай барацьбы, набліжаць да пролетарыяту тых, хто хістаецца, асабліва з літаратурнага маладняку і весьці рашучую барацьбу з праяўленьнямі ў літарутуры нова-буржуазных і кулацкіх імкненьняў, упадніцтва і г. д.

3. Марксысцкая крытыка павінна адыгрываць вялізарную ролю ў справе выхоўваньня пісьменьнікаў паглыбленьня іх марксысцкага сьветапогляду, дапамагаючы ім стаць у творчасьці на шлях пралетарскай літаратуры. Марксыцкая крытыка павінна весьці няўхільную барацьбу з клясава-варожымі пралетарыяту і сялянскай беднаце плынямі ў літаратуры, з упадніцтвам, і арганізоўваць чытача і глядача вакол рэвалюцыйнай літаратуры і мастацтва, растлумачваючы як сацыяльна-грамадзкі, так і фармальна-мастацкі сэнс літаратурных і мастацкіх твораў.

Аднак жа сучасны стан беларускай марксысцкай крытыкі ў галіне літаратуры і мастацтва зьяўляецца нездавальняючым. На шляху стварэньня марксысцкай крытыкі маецца шэраг перашкод, паміж якімі асноўнымі зьяўляюцца:

а) амаль што поўная адсутнасьць марксысцкіх крытыкаў у шэрагу старэйшага пакаленьня беларускіх пісьменьнікаў.

б) невыстарчальнасьць выкладаньня гісторыі і сацыялёгіі мастацтва ў вышэйшых навучальных установах для падрыхтоўкі сталых літаратуразнаўцаў і амаль што поўная адсутнасьць дасьледчай працы марксыстых у галіне беларускай літаратуры.

в) недастатковае прыцягненьне да літаратурнай і мастацкай крытыкі найбольш кваліфікаваных у гэтых галінах камуністых і невыстарчальны культурны ўзровень і недастатковыя марксысцкая, а падчас і літаратурна-мастацкая падрыхтаванасьць маладых марксыстых, працуючых у галіне літаратурнай і мастацкай крытыкі.

Таму беларуская літаратурная і мастацкая крытыка не адыгрывае ў сучасны момант той ролі, якую яна павінна і магла-бы адыгрываць як у адносінах да літаратуры і мастацтва, таксама і ў справе арганізацыі шырокіх пластоў працоўных вакол літаратуры і мастацтва.

4. Пры невыстарчальным разьвіцьці беларускай марксысцкай крытыкі часам ацэнка буйнейшых літаратурных і мастацкіх зьявішч пераходзіць у рукі не марксыстых, не разумеючых сучаснай эпохі і тых сацыяльных зьявішч, якімі выклікана тая ці іншая плынь у літаратуры. Ідэалістычна-эстэтычны падыход да літаратурных і мастацкіх твораў, які часта яшчэ мае мейсца ў беларускай крытыцы, ня можа садзейнічаць рэвалюцыйнаму разьвіцьцю беларускай літаратуры і накіроўвае яе на ілжывы шлях адрыву ад сучаснасьці і сацыялістычных задач краіны. Эклектызм, які часам выдаецца за марксызм, таксама вельмі дрэнна адбіваецца на літаратуры. Усё гэта, узятае разам, часам садзейнічае нацыяналістычным тэндэнцыям—і „групавому" падыходу (беспадстаўнае кваліфікаваньне паасобных пісьменьнікаў, як надта блізкіх пралетарскай літаратуры, ці чужых нам, на падставе вырваных радкоў кантэксту паасобнага твору пісьменьніка, беспадстаўнае кваліфікаваньне ці дэкваліфікаваньне мастацкіх дасягненьняў таго ці іншага пісьменьніка і г. д.). Усім гэтым зьявішчам павінна быць абвешчана рашучая барацьба.

5. Канстатуючы значнае разьвіцьцё нашых нацыянальных тэатраў як з боку палепшаньня рэпэртуару, так і з боку мастацкіх дасягненьняў, а таксама посьпехі Белдзяржкіно, Бюро ЦК КПБ адзначае, што ў адносінах да іх наша тэатральная і кіно крытыка, як у газэтах, так і ў часопісах толькі ў нязначнай меры выканала сваю задачу.

Гэта адмоўна адбіваецца, як на росьце гэтых галін мастацтва, так і на выхаваньні тэатральнага і кіно-глядача. Значную ролю ў тэатральнай і кіно крытыцы павінна адыгрываць масавая рабочая крытыка, як у насьценгазэтах, так і на асобных сходах па абгаварэньню новых мастацкіх твораў (тэатральных і кіно-пастановак), пры грамадзкіх праглядах, на сходах глядачоў, у рабочых клюбах і г. д.); амаль што адсутнічае праца рабкораў і селькораў у гэтай галіне.

6. У мэтах разьвіцьця марксысцкай літаратурнай і мастацкай крытыкі, садзейнічаючай разьвіцьцю савецкай літаратуры і мастацтва, Бюро ЦК КПБ прапануе:

а) Наркамасьветы, АПА і Аддзелу Друку стварыць умовы, спрыяючыя падняцьцю культурнага ўзроўня, палепшаньню марксысцкага і літаратурна-мастацкага выхаваньня маладых пісьменьнікаў і крытыкаў. У прыватнасьці лічыць мэтазгодным у бліжэйшы час арганізацыю Дому Пісьменьнікаў для ўтварэньня ўмоў адпаведнай выхаваўчай літаратурнай працы.

б) Даручыць рэдакцыям газэт і часопісаў палепшыць аддзелы літаратурнай і мастацкай крытыкі, прыцягваючы да гэтай працы побач з спэцыялістымі-пісьменьнікамі і крытыкамі, камуністых, працуючых на культурнай рабоце ці маючых імкненьне да літаратурных і мастацкіх спраў,

в) Наркамасьветы больш рашуча прыступіць да выкананьня пастановы ЦК партыі па ўтварэньню нацыянальнага па форме і пралетарскага па зьместу тэатральнага і кінорэпэртуару.

г) лічыць неабходным утварэньне рабочай тэатральнай і кіно-крытыкі праз прыцягненьне рабочага кіно і тэатральнага глядача і рабкораў да абгаварэньня тэатральных і кіно-пастановак, як у прэсе, так і на паасобных нарадах пры рабочых клюбах і пры грамадзкіх праглядах.

7. Маючы на ўвазе, што ў БССР сялянскія пісьменьнікі і ў будучым будуць займаць значнае мейсца ў беларускай літаратуры, беларуская літаратурная крытыка павінна памагаць ім зжываць іх антыпралетарскія ўхілы дзеля таго, каб іх больш зьвязаць з задачамі пралетарскай дыктатуры і імкненьнямі пралетарыяту і сялянскай беднаты. Сялянская літаратура, як асобная мастацкая плынь мае ўсе даныя для таго, каб існаваць у пралетарскай дзяржаве. Таму, задачай марксысцкай крытыкі зьяўляецца не барацьба супроць сялянскіх плыняў, а садзейнічаньне такому разьвіцьцю сялянскай літаратуры, каб яна была прасякнута большай сьвядомасьцю неабходнасьці моцнага саюзу рабочае клясы і сялянства і энтузыазмам эпохі соцыялістычнага будаўніцтва.

8. Даручыць Аддзелу друку зрабіць асобны даклад аб становішчы яўрэйскай і польскай літаратуры і крытыкі.

## Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б аб вылучэньні работніц і сялянак на кіраўнічую работу ад 26 мая 28 г.

У дадатак да дырэктываў ЦК КП(б)Б ад 3/II-28 г. аб рашучым вылучэньні работніц і сялянак на кіраўнічую работу ў саветы, прафсаюзы, каапэрацыю і на прадпрыемствах— Бюро ЦК КП(б)Б прапануе:

1. Гаспадарчым, профэсыянальным і партыйным арганізацыям больш рашуча вылучаць работніц на адміністрацыйна-гаспадарчую работу і ставіць задачай на бліжэйшае паўгодзьдзе вылучэньне з работніц памоцнікаў дырэктароў на фабрыках, дзе пераважаюць работніцы, загадчыкамі цэхаў, аддзяленьняў; там дзе пераважвае жаночая праца (упаковачнае аддзяленьне дражджавых заводаў, с'ёмальнае і ўпаковачнае аддзяленьне запалкавых фабрык, бяльлевае аддзяленьне швэйных фабрык, анучныя і сартыровачныя паперных, чоска і ватэра тэкстыльных, матальнае аддзяленьне ткацкай фабрыкі).

Прафэсыянальным арганізацыям узмацніць вылучэньне работніц на сталую кіраўнічую работу ў Акраддзяленьня Саюзаў, адначасова працягваючы вылучэньне ФЗМК, ЦП Саюзаў і ЦСПСБ.

2. Перад арганізуемымі ЦВК курсамі грамадчыц паставіць задачу падрыхтоўкі работніц і сялянак да вылучэньня на кіраўнічую работу у с/с, гарсаветах, РВК, АВК, і Наркаматах, а дзеля гэтага курсы ўкамплектаваць работніцамі, батрачкамі і сялянкамі, намечанымі да вылучэньня на вызначаную работу, Акругкомам КП(б)Б зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу на адбор кандыдатур і намячэньне мейсца іх вылучэньня.

3. У арганізуемыя акруговыя жывёлагадоўчыя саюзы вылучаць па аднэй жанчыне дзеля сталай працы. Фракцыі Белсельсаюзу сумесна з Аддзелам работніц падрыхтаваць адпаведныя кандыдатуры.

Для падрыхтоўкі каапэрацыйных работнікаў лічыць неабходным на арганізуемыя курсы па падрыхтоўцы актыву па асобным сыстэмам і відам каапэрацыі ўцягваць ня менш 20% работніц і сялянак. Па сканчэньні курсаў больш актыўных з іх скарыстаць на кіраўнічай рабоце.

Для падрыхтоўкі каапэратыўных работнікаў з жанчын у гарадзкой і вясковай сетцы, больш шырока практыкаваць інстытут практыканства работніц і сялянак пры ЦРК і саюзах.

4. Пры надыходзячых перавыбарах партарганізацый лічыць неабходным павялічыць вылучэньне камуністак на сталую выбарчую партработу ў ячэйках, РК і АК.

Павялічыць таксама вылучэньне дзяўчат камсамолак на сталую кіраўнічую камсамольскую работу, ячэек, Райкомаў і АК.

5. Даручыць Наркамюсту маючыхся на курсах жанчын скарыстаць на розных галінах сталай судовай працы.

6. Акругкомам і фракцыям адпаведных арганізацый зьвярнуць увагу на далейшае прасоўваньне актыўна працуючых работніц і сялянак з нізавой работы на больш адказную кіраўнічую работу.

7. Прапанаваць Акругкомам і фракцыям адпаведных арганізацый увесьці ў практыку нагляданьне за работай вылучэнак, дапамагаючы ім у практычнай рабоце.

АК практыкаваць скліканьне пэрыядычных нарад вылучэнак для абмену вопытам работы і кіраўнікоў для высьвятленьня пасьпяховасьці вылучэнак у рабоце і зьніжэньня існуючых недахопаў у гэтай рабоце.

8. Усімі мерамі садзейнічаць малапісьменным вылучэнцам у ліквідацыі імі свае тэхнічнай няпісьменнасьці і малапісьменнасьці, садзейнічаць іх вучобе, дапамагаючы ім перамагаць цяжкасьці вучобы. Ячэйкі павінны зьвярнуць больш увагі на палітычнае выхаваньне вылучэнак.

9. Маючы на ўвазе некаторае вылучэньне жанчын на адміністрацыйную, гаспадарчую работу на транспарце, лічыць неабходным правадзіць гэтае вылучэньне больш узмоцненым тэмпам і зьвярнуць асаблівую ўвагу на вылучэньне на наступныя работы: у якасьці дзяжурных па станцыі, агентамі па службе эксплёатацыі, памоцнікамі начальнікаў станцыі і г. д. Фракцыі Саюзу прапрацаваць пытаньне аб практычным ажыцьцяўленьні гэтага рашэньня і аб мерапрыемствах па падрыхтоўцы работніц для вылучэньня.

## Рэзалюцыя Сакратарыяту ЦК КП(б)Б аб масавай паліт-асьветнай працы на вёсцы ад 21 мая 28 г.

I. Сакратарыят ЦК КП(б)Б канстатуе:

а) нездавальняючае становішча палітасьветпрацы на вёсцы і слабае кіраўніцтва гэтай справай у першую чаргу з боку палітасьвет. органаў.

б) адставаньне палітасьветнай працы ад тэмпу гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, у здавальненьні ўзросшых патрэбнасьцяў мас; адставаньне на паасобных вучастках палітасьветпрацы (каапэратыўная прапаганда, агранамічная прапаганда); нізкую якасьць палітасьветпрацы (кампанейшчына, шаблён, застойнасьць форм і мэтадаў работы) недас-

татковае выяўленьне клясавага характару ва ўсёй палітасьветпрацы, неналаджанасьць адзінага плянавага кіраўніцтва ў справе культурнага абслугоўваньня мас рознымі арганізацыямі, якія вядуць масавую палітасьветпрацу на вёсцы.

в) невыстарчальная палітасьветпраца ў мэтах выхоўваньня актыву з беднаты і батрацтва вакол чарговых задач партыі і савецкай улады (каапэраваньне сельскае гаспадаркі, калектывізацыя і г. д.).

г) слабы абхоп і ўцягненьне ў практычную палітасьветную працу дарослых сялян асабліва жанчын і нацменшасьцяй.

II. У далейшым Сакратарыят ЦК КП(б)Б прапануе:

1. Прыняць меры да больш рашучага разгортваньня і якаснага паляпшэньня палітасьветнай работы навокал наступных асноўных задач партыі: а) растлумачэньне пытаньняў клясавай барацьбы, б) уцягненьне мас у сацыялістычную перабудову вёскі і в) разгортваньне савецкай дэмакратыі, зьвяртаючы асаблівую ўвагу на арганізацыю масавае самакрытыкі.

2. Пытаньні калектывізацыі і культурнай рэвалюцыі на вёсцы палітасьвет установам паставіць у цэнтры свае працы. Наркамасьветы за летні пэрыяд перабудаваць праграмы сел.-гаспадарчых і каапэрацыйных гурткоў, у праграмах палітасьветтэхнікумаў і на курсах хатнікаў вызначыць гэтаму пытаньню адпаведнае мейсца. Разам з Белдзяржвыдавецтвам, Наркамземам і сел.-гаспадарчай каапэрацыяй выдаць і тым забясьпечыць наяўнасьць у гуртках і бібліятэках да восені бягучага году масавай папулярнай літаратуры аб калектывізацыі сельскае гаспадаркі і культурным будаўніцтве беларускае вёскі. Асабліва распрацаваць пытаньне аб палітасьветнай працы сярод калектыўных гаспадарак.

3. Работу сярод беднаты і батрацтва праводзіць сыстэматычна. узяўшы рашучы напрамак на ўцягненьне іх у Саветы, хаты-чытальні, нардамы, ва ўсе гурткі, асабліва палітычныя і агра-каапэрацыйныя. У месячны тэрмін распрацаваць мэтадычны лісток аб працы сярод беднаты і батрацтва і забясьпечыць палітасьветустановы адпаведнай літаратурай. На курсах хатнікаў увесьці спэцыяльны цыкль аб гэтай працы.

4. Аграпрапаганду і каапэрыцыйную прапаганду НКА ўвязаць з задачымі партыі па калектывізацыі сельскае гаспадаркі і будаваць яе на падставе асаблівасьцяй і дасягненьняў кожнага раёну, сяла. Хатам-чытальням наладзіць экскурсіі сялян у ўзорныя калектыўныя гаспадаркі; у штодзённай працы забясьпечыць агітацыю і прапаганду нагляднымі матар'яламі аб карыснасьці калектыўных форм гаспадаркі параўнаўча з дробнымі індывідуальнымі сельскімі гаспадаркамі (дыяграмы, плякаты ва ўсебеларускім і раённым маштабе).

5. Антырэлігійную прапаганду, якая цяпер праводзіцца ад выпадка к выпадку, і ў сувязі, галоўным чынам, з рэлігійнымі сьвятамі, перавесьці на рэйкі сыстэматычнай работы ў гуртках, увязаўшы яе з работай сельскагаспадарчых і прыродазнаўчых гурткоў і таварыстваў „Бязбожнік" і ажывіўшы разам з гэтым работу антырэлігійных гурткоў вывучэньнем імі рэлігійных абшчын і сэкт у сваём раёне. НКА забясьпечыць гурткі і бібліатэкі мэтадычнай і даведачнай літаратурай і кнігамі на беларускай мове.

6. У сувязі з задачамі аб сацыялістычнай перабудове с. гаспадаркі і перавыхаваньні самых чалавечых мас, зьвярнуць увагу на барацьбу за новы быт, супроць п'янства, хуліганства і г. д., уцягваючы насельніцтва ў гурткі санітарыі, гігіены, антыалкагольныя, прыцягваючы да гэтай працы інтэлігэнцыю (урачоў, настаўнікаў, аграномаў) і ячэйкі дабраахвотных таварыстaў, скарыстоўваючы савецкія бытавыя кіно-карціны і распаўсюджваючы праз вясковыя бібліатэкі мастацкую і навукова-папулярную літаратуру. Зьвярнуць увагу на растлумачэньне бытавых пытаньняў і фактаў у нашай бягучай прэсе і асабліва насьценных газэтах. Даручыць НКА ўключыць бытавыя пытаньні ў выхаваўчую працу школ і дзіцячых дамоў. Арганізаваць грамадзкую думку вакол зьместу працы школ, дамоў (школьныя саветы, сходы бацькоў, вучняў і г. д.).

7. У сувязі з задачамі абароны краіны і сацыялістычнага будаўніцтва БССР палепшыць масавую вайсковую прапаганду палітасьветустаноў, увязаўшы гэту работу з ваеннымі арганізацыямі „ТДА—Авіахімам" і таварыствам „Чырвонага Крыжу". Павялічыць склад гурткоў за лік сялянства. Паставіць сабе задачу поўнага ўцягненьня ў гурткі дэмабілізаваных чырвонаармейцаў і начскладу. У дакладах, гутарках, у мэтадраспрацоўках і інш. матар'ялах забясьпечыць клясавае выхаваньне кадраў. Прадугледзіць мінімум выданьня неабходнай для работы масавай літаратуры і літаратуры для актыву на беларускай мове і забесьпячэньня ёю гурткоў і бібліатэк з восені бягучага году.

8. Улічваючы вялікае значэньне для масавай работы кіно, радыё, тэатру ў большай меры ўвязаць гэту работу з практычнай палітасьветнай працай на мясцох. Перагледзець і папоўніць вясковы кінофонд ідэалёгічна вытрыманымі фільмамі адбіваючымі гаспадарчае і культурнае будаўніцтва, дабіўшыся ад Белдзяржкіно хутчэйшага выпуску фільм адпаведнага характару на беларускім матар'яле і асабліва арганізацыі беларускай кінохронікі. Забясьпечыць кіно-перасоўнікаў кароткімі тэзісамі для растлумачэньня карцін.

9. Адзначаючы слабую радыёфікацыю палітасьветустаноў і бязьдзейнасьць значнай часткі радыёўстановак, Наркампашцелю і Наркамасьветы наладзіць пастаноўку рамонту радыёўстановак; на будучы гаспадарчы год прадугледзіць павялічэньне водпуску сродкаў на радыёфікацыю палітасьветустаноў, пры чым дзяржаўныя сродкі павінны ісьці на дапамогу грамадзкай ініцыятыве на мясцох. Наладзіць тэхнічнае кіраўніцтва і інструктаж

гурткоў радыё-любіцеляў. Распрацаваць для савета, хат-чытальняў і гуртка мэтадычныя паказаньні па скарыстоўваньню радыё для масавай палітасьветнай працы.

10. Адзначаючы зусім слабую пастаноўку мастацкай работы палітасьветустаноў, нехватку п'ес, асабліва на беларускай мове для драматычных гурткоў у вёсцы і нездавальняемасьць іх зьместу (хаўтура, ідэалёгічная нявытрыманасьць) адсутнасьць мэтадычных паказаньняў, слабае разьвіцьцё іншых формаў мастацкай работы (гурткі харавыя, музычныя) і адсутнасьць кіраўнікоў гурткоў. Наркамасьветы распрацаваць мерапрыемствы падрыхтоўкі кіраўнікоў гурткоў, скарыстоўваючы для гэтага сілы гарадзкіх тэатраў, мастацкіх і музычных школ. Зрабіць выданьне мэтадычных матар'ялаў, павялічыць лік вясковых п'ес на беларускай мове.

11. Работа сярод дарослых жанчын у працы палітасьветустаноў яшчэ не займае належнага мейсца. Гурткі дамаводзтва, ільнаводзтва, сельска-гаспадарчыя і інш. знаходзяцца бяз уплыву палітасьветустаноў. Дні сялянак па хатах-чытальнях ня ўсюды праводзяцца; жанчыны-актывісткі ў працу хат-чытален амаль што не ўцягнуты; сувязь саветаў хат-чытальняў з жаночымі дэлегацкімі сходамі наладжана слаба. Часопіс „Работніца і Сялянка" распаўсюджваецца, галоўным чынам, не палітасьветустановамі. Прыняць рад мер да зьнішчэньня паказаных недахопаў.

12. Узмацніць палітасьветработу ў мясцовасьцях з нацыянальным насельніцтвам (палякі, латышы, літоўцы) праводзячы рашучую барацьбу з буржуазнымі нацыяналістычнымі і рэлігійнымі перажыткамі і ўвязваючы гэту работу з мерапрыемствамі палітычнага і эканамічнага парадку: сел.-гасп. падатак, каляктывізацыя сел.-гасп. і г. д.

13. У далейшым зьвяртаць больш увагі на працу з палітасьвет. актывам. Перад правядзеньнем розных мерапрыемстваў, склікаць нарады актыву, на якіх ставіць пляны правядзеньня гэтых мерапрыемстваў і абгаварваць вынікі работы. Пэрыодычна склікаць пры савеце хат-чытальняў кіраўнікоў чырвоных куткоў і актыву для інструктажа і мэтадычнага кіраўніцтва.

14. Улічваючы шпаркі рост чырвоных куткоў і чытальных пунктаў, знаходзячыхся на сродках саміх сялян, пры адставаньні росту хат-чытальняў, якія зьяўляюцца для іх кіруючымі цэнтрамі работы, паставіць задачай пашырэньня сеткі хат-чытальняў, знаходзячыхся на дзяржаўным бюджэце, згодна пяцігадоваму пляну ня менш 2-х хат-чытальняў у год на кожную акругу.

15. У сувязі з новымі задачамі партыі пераглядзець і ўдасканаліць функцыі палітасьветорганаў: палітыка-асьветныя камітэты абярнуць, галоўным чынам, у ворганы плянуючыя і каардынуючыя работу паасобных арганізацый, якія вядуць масавую палітасьветную працу на вёсцы, лепш арганізаваць работу апорных пунктаў: хат-чытальняў, чырвоных куткоў, бібліатэк, лікпунктаў; лепш скарыстоўваць практыкантаў саўпартшкол і ВНУ.

16. Наркамасьветы і Акрвыканкомам прадугледзіць у 28-29 гаспадарчым годзе палепшаньне матар'яльнага становішча і абслугоўваньня хат-чытален. У лістападзе 1928 г. даць даведку ЦК, што будзе зроблена ў гэтай галіне.

17. Дабіцца пералому ў радох вясковай партарганізацыі да правядзен ня масавай палітасьветработы, як часткі партыйнай работы. Рашучым чынам адмовіцца ад частай зьмены палітасьветпрацаўнікоў, а таксама ад масавай іх мабілізацыі на доўгі час для правядзеньня палітычных кампаній, бяз вучоту выкананьня імі асноўнай іх працы. На сходах парт'ячэек ставіць пытаньні палітасьветпрацы. На пасяджэньнях раённых камітэтаў партыі сыстэматычна заслухоўваць справаздачы райпалітпрасьветкомаў аб іх рабоце. Зьвярнуць увагу Акругкомаў і райкомаў партыі на адпаведны падбор кадраў нізавой палітасьветсеці.

## Рэзалюцыя Сакратарыяту ЦК КП(б)Б аб масавай вайсковай агітацыі і прапагандзе ад 28 мая 1928 г.

У выніку шырока разгорнутай за мінулы год масавай вайсковай агітацыі і прапаганды (асабліва ў дні правядзеньня „тыдню абароны", 10-годзьдзя Кастрычнікавае рэвалюцыі і гадавіны Чырвонай Арміі) маецца значны колькасны рост членаў ТДА-Авіяхіма (з 87000 чал. да 140.000 чал.) разьвіцьцё самых рознастойных форм вайсковай агітацыі і прапаганды.

Разам з гэтым Сакратарыят ЦК КП(б)Б. адзначае шэраг наступных асноўных недахопаў:

а) Невыстарчальная канцэнтрацыя арганізацыі і кіраўніцтва вакол ТДА-Авіяхіма і недастатковая ўвязка масавай вайсковай агітацыі і прапаганды з задачамі гаспадарчага і культурнага будаўніцтва на падставе рашэньня XV-га зьезду УсеКП (б) і XI зьезду КП (б) Б: невыстарчальна чоткае выяўленьне клясавых момантаў у масавай агітацыі і прапагандзе на вёсцы; недастатковая работа з актывам;

б) Слабая ўвязка з ваенведам вайсковай падрыхтоўкі працоўных праводзімай грамадзкімі арганізацыямі (вучэбныя пляны, праграмы, падрыхтоўка тылу да будучае вайны);

в) Недастатковае скарыстоўваньне сеткі клюбаў, хат-чытален і дапрызыўных пунктаў;

г) Слабая якасьць агітацыі і прапаганды і недастатковасьць сыстэмы ў рабоце.

У далейшым Сакратарыят ЦК КП(б)Б прапануе:

1. Фракцыі ЦС ТДА-Авіяхіма ўзмацніць і сыстэматызыраваць працу па ўцягненьню ў рады таварыства новых членаў, з рабочых, і бедняцка-серадняцкага сялянства, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на ўцягненьне батракоў і работніц, сялянак і жанок рабочых.

Побач з гэтым шырэй разгарнуць і паглыбіць якасьць вайсковай агітацыі і прапаганды. Формы мэтады і праграмы будаваць на падставе вучоту асаблівасьцяй работы сярод паасобных катэгорый членаў і тыпавых ячэек (начсклад запаса, дэмабілізаваныя чырвонаармейцы, рабоча-сялянская моладзь, школьнікі і г. д.), ячэйкі вайсковыя, сялянскія, транспартныя, завадзкія, саўгаскія, савецкія, вузаўскія і г. д.

2. Вайсковую работу ТДА-Авіяхіма значна больш, чымся дагэтуль увязаць з гаспадарчым будаўніцтвам краіны, асабліва па лініі прыстасаваньня хэміі ў сельскай гаспадарцы (мінэральныя ўгнаеньні, барацьба з шкоднікамі) і на фабрыках і завадах (шкляныя, запалкавыя, піваварныя і інш.), якія маюць справу з хэміяй у вытворчых працэсах, шырока арганізаваць растлумачэньне рабочым і сялянам, пры практычным ужываньні хэміі ў вытворчасьці, значэньня хэміі ў мірны і ваенны час, скарыстоўваючы для гэтай мэты навуковыя і тэхнічныя сілы.

3. К пачатку асеньня-зімовага пэрыяду скласьці агульны плян вайсковай учобы членаў таварыства, падрыхтоўкі працоўных БССР да ваенна-хэмічнай абароны, па рабоце сярод дапрызыўнікаў і тэрыторыяльнікаў па ваенізацыі радыё-аматараў, спорту і інш. і ўвязаць плян з Рэўваенсаветам Бел В. А. і адпаведнымі грамадзкімі арганізацыямі, а таксама паставіць перад Ваенведам пытаньне аб поўным скарыстоўваньні вясковымі ячэйкамі ТДА-Авіяхіма дапрызыўных пунктаў.

Цэнтральнаму Савету ТДА-Авіяхіма заўжыць захады да ўзмацваньня ячэек ТДА-Авіяхіма на гэтых пунктах.

4. Пры распрацоўцы плянаў работы і практычным дапасаваньні іх да жыцьця, шырэй скарыстоўваць рознастайныя формы і мэтады работы (паходы, манэўры, экскурсіі, пагулянкі, агітпавозкі і сані, кіно-перасоўкі спаборніцтвы, конкурсы, папулярныя лекцыі і даклады на агульных сходах і па радыё і інш.).

5. Фракцыям ЦС ТДА-Авіяхіма ЦСПСБ і Наркамасьветы к пачатку надыходзячага гаспадарчага году распрацаваць мерапрыемствы па арганізацыі ТДА-Авіяхіму куткоў ва ўсіх клюбах, нардамох і хатах-чытальнях, надаючы ім характар масавых мэтадычных цэнтраў вайсковай агітацыі і прапаганды.

ЦС ТДА-Авіяхіма распрацаваць табелі гэтых куткоў і парадак іх працы.

6. Наркамасьветы, Белдзяржвыдавецтву, фракцыям ЦС ТДА-Авіяхіма і ЦСПСБ прыступіць да плянавага і сыстэматычнага папаўненьня ўсіх бібліятэк вайсковай літаратурай і да выданьня новай літаратуры галоўным чынам на беларускай і нацменаўскай мове.

ЦС ТДА-Авіяхіма прыняць меры да забясьпячэньня ячэек адпаведнымі папулярнымі падручнікамі.

7. Наркамасьветы распрацаваць пытаньне да надыходзячага навучальнага году аб увядзеньні вайсковых дысцыплін у тэхнікумах, рабфаках, сямёхгодках, школах сялянскай моладзі, прафтэхшколах і фабзавучах, Гомельскай савпартшколе, у Магілеўскім паліт-асьвет. тэхнікуме.

8. Фракцыі ЦС ТДА-Авіяхіма распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па ўцягненьні ў практычную працу ўсяго актыву таварыства, яго выхаваньне, кваліфікацыя па паасобных галінах і відах працы, па вучоту і вылучэньню актыву, зьвярнуў асаблівую ўвагу на поўнае скарыстоўваньне, галоўным чынам, на кіруючай гурткавой працы, начскладу запаса, у тым ліку і малодшага і дэмабілізаваных чырвонаармейцаў. Практыкаваць пэрыядычныя і інструкцыйныя нарады па паасобных галінах работы, арганізоўваць курсы і сэмінарыі. Значна ўзмацніць жывое кіраўніцтва местамі, асабліва ячэйкамі, скарыстоўваючы ва ўсіх акругах БССР маючыся вопыт па арганізацыі і рабоце інструктарскіх і прапагандысцкіх груп.

З мэтай большай зацікаўленасьці і далейшага росту актыву ў рабоце з ім зьвяртаць больш увагі пытаньням тэорыі, увязваючы іх з задачамі абароны краіны.

9. У вайсковых ячэйках праводзіць работу па выпрацоўцы арганізатараў работы ТДА-Авіяхіма з дэмабілізуючыхся чырвонаармейцаў, якіх забясьпечыць адпаведнай літаратурай і прыладамі.

10. Зьвярнуць увагу Акругкомаў КПБ на неабходнасьць сыстэматычнай праверкі выкананьня дырэктыў партыі па вайсковай агітацыі і прапагандзе нізавымі партарганізацыямі і адпаведнымі фракцыямі КП(б)Б (асабліва ў вёсцы), шляхам абсьледаваньня і пастаноўкі справаздачных дакладаў.

11. Рэдакцыям газэт і рабселькораўскім арганізацыям больш поўна адбіваць у друку (пэрыядычныя агляды) работу ўсіх арганізацый ТДА-Авіяхіма на падставе поўнага скарыстоўваньня рабселькораўскіх заметак і вывучэньня работы мейсц, у адпаведнасьці з задачамі абароны, самакрытыкі, культурнага і гаспадарчага будаўніцтва краіны.

12. Фракцыі ЦС ТДА-Авіяхіма ў месячны тэрмін распрацаваць мерапрыемствы па адшуканьне сродкаў і ўзмацненьню матар'яльнай базы ячэйкі ТДА-Авіяхіма. Лічыць мэтазгодным правядзеньні лётарэі Бел. ТДА-Авіяхіма. Лічыць неабходным правядзеньне міжсаюзнага конкурсу ў мэтах выяўленьня ўдзельнічаньня паасобных профсаюзаў у рабоце ТДА-Авіяхіма.

# ПАРТЫЙНАЯ ХРОНІКА

## У ЦК КП(б)Б

### Па акругах і раёнах

#### Аб працы кандыдацкіх груп

Менскі акругком па дакладу аб працы кандыдацкіх груп адзначыў, што існаваньне кандыдацкіх груп сябе апраўдала. З боку РК замала зьвернута ўвагі на кіраўніцтва і дапамогу ў працы кандыдацкіх груп, на перавод з кандыдатаў у члены партыі

Адсутнічае сталы вучот у дынаміцы пераходу кандыдацкіх груп у ячэйкі, а таксама і вучот працы кандыдацкіх груп.

Райкомам прапанована ў бліжэйшы тэрмін правесьці абсьледаваньне працы кандыдацкіх груп з мэтай больш лепшага вывучэньня іх працы і палепшаньня яе.

Пры папярэдніх перавыбарах бюро ячэек РК зьвярнуць увагу на перавод часткі кандыдацкіх груп у партыйныя ячэйкі, шляхам прымацаваньня да іх членаў партыі ад местачковых ячэек.

Зьвярнуць больш увагі на ўцягненьне іх у практычную партыйную працу.

#### Праца вясковых ячэек КП(б)Б

Ветрынскі райком адзначыў, што ў парт'ячэйках адчуваецца зрух да абгаварэньня і часткова практычнага вырашэньня пытаньняў гаспадарчага будаўніцтва. У апошні час узрастае актыўнасьць партыйнай масы. Маюцца дасягненьні ў узросьце вылучэнцаў на кіруючую працу. Узрасла зацікаўленасьць партыйнага актыву і часткі радавых членаў партыі да пытаньняў калектывізацыі і каапэраваньня насельніцтва. У асноўным маецца ўзрост аўтарытэту партыйных ячэек у гушчы сялянства, асабліва сярод беднаты. Наладзілася больш сыстэматычнае кіраўніцтва культасьветустановамі праз: агляд іх працы, пэрыядычныя нарады і вуснае інструктаваньне. Павялічылася жывое кіраўніцтва парт'ячэек з боку РК і дапамога ім у правядзеньні асноўных кампаній з прыцягненьнем райпартактыву. Як адмоўныя бакі працы райкомам адзначана: слабае кіраўніцтва з боку парт'ячэек работай сярод жанчын, заслабое парткіраўніцтва ячэйкамі камсамолу, у прыватнасьці па рабоце піанэр-арганізацый, недастатковай якасьці інструктаваньня работы ячэек, асабліва ў галіне практычнай дапамогі на мясцох. Слабая культурна-масавая праца партарганізацый, асабліва па лініі дабраахвотных таварыстваў, хат-чытален і чырвоных куткоў. На далейшае прыняты шэраг мерапрыемстваў па паглыбленьню працы ячэек і зьліквідаваньню недахопаў.

#### Вынікі партвучобы

У падведзеных ітогах па партадукацыі па Бягомльскаму раёну райкомам адзначана: здавальняючая актыўнасьць заняткаў, здавальняючая якасьць прапагандыстых, увязка партвучобы з некаторымі палітычнымі кампаніямі. Пытаньні партзьездаў у асноўным прапрацаваны. Палітычны ўзровень партыйнай арганізацыі ў значнай меры ўзрос за лік партыйнай дыскусіі, за лік практычнага ўдзелу ў правадзімых кампаніях і толькі часткова за лік партвучобы. Райкомам адзначана,

што ў выніку перагружанасьці партыйцаў бягучай кампанейскай работай — уся партвучоба праходзілася без належнай рэгулярнасьці. Выязная кансультацыя работала зусім слаба. Раённы партактыў, з прычыны яго перагружанасьці, ня быў ахоплены сыстэмай партвучобы. На лета для замацаваньня атрыманых ведаў пры ячэйках КП(б)Б будуць складзены гурткі бягучай палітыкі.

### Вынікі працы дэлегацкіх сходаў

Бягомльскі райком падвёў вынікі зімовай працы дэлегацкіх сходаў. У існуючых па раёну 6 сходах налічваецца 180 чал. Перад пачаткам заняткаў пры райкоме былі праведзены трохдзённыя курсы кіраўнікоў дэлегацкіх сходаў. Сярэдняе наведваньне дэлегаткамі сходаў—90—95%. Пастановы па практычных пытаньнях выносяцца на ўсіх дэлегацкіх сходах і паступова самімі дэлегаткамі праводзяцца ў жыцьцё. Практычная праца дэлегатак зводзіцца к дапамозе каапэраваньня насельніцтва і ў прыватнасьці выяўленьня і каапэраваньня беднаты. Добра працуючыя сходы карыстаюцца аўтарытэтам сярод насельніцтва. Павялічыўся колькасны склад жанчын, як упаўнаважаных каапэрацыі і ўпаўнаважаных СКСУ. Райком ухваліў, каб у вяснова-летні пэрыяд працу сходаў не паслабляць; яна павінна, галоўным чынам, выражацца ў рашэньні пытаньня практычнага гаспадарчага зьместу, праверцы і ажыцьцяўленьні пастаноў сходаў.

## У ЦКК КП(б)Б

## Аб удзеле членаў ЦКК—рабочых ад варштату і сялян ад сахі ў агульнай працы ЦКК—РСІ

З агульнага ліку 41 членаў ЦКК і 15 кандыдатаў (усяго 56-ці) скліканьня XI Усебеларускага Партзьезду—рабочых ад варштату—20 (сюды ўваходзяць 5 тав., якія знаходзяцца на нізавой парт. і праф. працы) і сялян ад сахі—3. Сувязь іх з Прэзыдыумам ЦКК ажыцьцяўляецца наступным шляхам:

1 член ЦКК—рабочы ад варштату- зьяўляецца членам Прэзыдыуму ЦКК; 1—членам Парткалегіі ЦКК; 5 членаў ЦКК прымацованы для ўдзелу ў працы Бюро Скаргаў НКРСІ; акрамя гэтага працуючыя ў Менску члены ЦКК—рабочыя ад варштату прыцягваюцца да працы Парттроек ЦКК і адчыненых пасяджэньняў Парттроек на прадпрыемствах па разгляду партспраў—па чарзе. Таксама члены ЦКК прыцягваліся па паасобных абсьледваньнях партыйнага і РСІ-сцкага характару, якія праводзліся на мясцох. Акрамя гэтага члены ЦКК, працуючыя на мясцох выконваюць розную парт.-праф. і грамадзкую нагрузку ў нізавых арганізацыях на прадпрыемствах і іншых арганізацыях.

У пасяджэньні ЦКК ад 30/V было адзначана, што сувязь членаў ЦКК пакуль што зьяўляецца слабай. Таму прыняты гэткія прапановы.

У якасьці сувязі з Прэзыдыумам ЦКК і форм удзельнічаньня членаў ЦКК у агульнай працы ЦКК неабходна, акрамя ўдзелу ў пасяджэньнях Пленумаў ЦКК і азнаямленьня з пісьмовымі матар'яламі ЦКК (пратаколамі і інш.) у далейшым практыкаваць гэткія формы:

1. Пэрыядычную пасылку лістоў аб пытаньнях, якія хвалююць рабочых свайго прадпрыемства (як вытворчага характару, так і рабочага быту) і таксама іншых пытаньняў, патрабуючых рэагаваньня з боку ЦКК. У лістох трэба таксама асьвятляць свой удзел у вытворчых камісіях і нарадах і іншых пася-

джэньнях, куды запрашаўся, як член ЦКК, аб выступленьнях з дакладамі ад ЦКК на розных рабочых і парт. сходах, аб выступленьнях у друку і насьценных газэтах з артыкуламі і заметкамі і інш. пытаньнях, якія член ЦКК лічыць неабходным высунуць перад ЦКК.

2. Удзел у пасяджэньнях Выяздных Парттроек ЦКК па разгляду партспраў.

3. Удзел у працы АКК і пасяджэньнях Бюро Скаргаў. АКК РСІ з рабочымі заседацелямі—пры разглядзе вельмі важных скаргаў.

4. Прыцягненьне членаў ЦКК да ўдзелу ў абсьледваньнях, праводзімых ЦКК РСІ на мясцох, і ў абгаварэньні вынікаў і прапаноў па сканчэньню абсьледваньняў.

5. Дачу Прэзыдыуму ЦКК пасобных даручэньняў па вывучэньню некаторых пытаньняў, заяў, што паступаюць у ЦКК-РСІ і патрабуючых высьвятленьня ў парадку жывога азнаямленьня праз прадстаўніка (члена ЦКК).

6. Выступленьні з дакладамі па пытаньнях працы ЦКК на партыйных, рабочых ці сялянскіх і іншых масавых сходах.

Арг. Групе ЦКК даручана праз кожныя 3 месяцы падагульваць працу членаў ЦКК на мясцох, паведамляючы аб ёй Прэзыдыуму, а таксама асьвятляць гэтыя вынікі ў чарговых справаздачах ЦКК КП(б)Б.

Акрамя гэтага Прэзыдыум пастанавіў на спэцыяльнай нарадзе членаў ЦКК—рабочых ад варштату і сялян ад сахі (у час склікаНьня чарговага пленуму ЦКК) асобна абгаварыць пытаньне аб больш шчыльнай сувязі членаў і кандыдатаў ЦКК з Прэзыдыумам і ўдзеле іх у агульнай працы ЦКК.

### Справа камсамольцаў Белмясгандлю

По справе аб неправільным зьняцьці з работы ў Белмясгандлю членаў ЛКСМБ Берштэйна і Брыля— ЦКК вынесена наступная пастанова:

1. Константаваць, што расьсьледваньнем справы аб зьняцьці з работы ў Белмясгандлю членаў ЛКСМБ Берштэйна і Брыля ўстаноўлена поўная неабгрунтаванасьць абвінавачаньня іх у разлагаючай склочнай рабоце, падрыве аўтарытэту парт'ячэйкі і блёкіраваньні з беспартыйнымі супроць ячэйкі.

Адзначаючы, што гэтыя няправільныя адносіны да членаў камсамолу ўпяршыню ўзьніклі ў ячэйцы ў сувязі з падачай імі выкрываючай заявы ў НКРСІ, і што ня глядзячы на асуджэньне гэтай адносіны ячэйкі з боку ЦКК КП(б)Б у мінулым годзе гл. паст. ад 18/IV—27 г. у рабоце ячэйкі па ранейшаму мелі мейсца зьявішчы „домашней спетости“, нецярпімыя адносіны да крытыкі, прасьледваньне камсамольцаў, і жаданьне вытлумачыць нездаровую атмосферу ўстановы выдуманай віной камсамольцаў.

ЦКК рашуча асудзіла гэтую няправільную лінію ў рабоце ячэйкі, якая супярэчыць дырэктывам партыі аб разьвіцьці і ўсялякім заахвочваньні самакрытыкі.

2. З прычыны таго, што сакратар Бюро ячэйкі т. Шчарбіна і член Бюро ячэйкі т. Верын ува ўсёй гэтай справе праявілі сябе з адмоўнага боку лічыць неабходным пры чарговых перавыбарах Бюро ячэйкі настойна рэкамэндаваць ячэйцы адвесьці іх са складу Бюро ячэйкі.

3. Паказаць ячэйцы на неабходнасьць устанаўленьня сапраўднага кіраваньня грамадзкасьцю ў установе на падставе дзелавой, хоць і рэзкай, крытыкі недахопаў і выкрыцьця апошніх у штодзённай дзейнасьці з прыцягненьнем членаў камсамолу і актыўных беспартыйных рабочых і служачых.

4. Адзначыць, што з боку Кастрычнікавага РК КП (б) Бел. у гэтай справе было недапусьцімае лёгкавер'е ў адносіне абвінавачваньняў супроць камсамольцаў, не пацьверджаных ніякімі фактамі. Паказаць РК на неабходнасьць больш

уважлівых адносін да ўсіх выпадкаў, дзе будзе мець мейсца барацьба з актыўным праяўленьнем крытыкі недахопаў апарату, або работы парт'ячэйкі, што XV-м партзьездам высоўваецца, як адна з асноўных задач.

5. Зьвярнуць увагу Менскага АК КП(б)Бел., што ня гледзячы на цьвёрдую і катэгарычную дырэктыву XV-га партзьезду аб бязьлітаснай барацьбе з прасьледваньнем крытыкі,—у партячэйцы БМГ, як раз пасьля зьезду мела мейсца скажэньне гэтай дырэктывы, выкрытае ЦКК насупроць думак камісіі райкому, стаўшай на шлях падцьверджаньня няправільнай лініі ячэйкі.

6. Зьвярнуць увагу КК ЦК ЛКСМБ на тое, што рашэньне канфліктнай камісіі Камсамола Кастр. раёну па справе камсамольцаў былі прыняты без абы якой праверкі абвінавачваньняў, у сувязі з даным рашэньнем прапанаваць гэтыя рашэньні пераглядзець.

7. Рашэньне парт'ячэйкі і райкому аб зьняцьні камсамольцаў Берштэйна і Брыля адмяніць.

Акрамя гэтага пастаноўлена зрабіць даклад на сходзе ячэйкі Белмясгандлю аб рашэньнях ПК ЦКК па гэтай справе, а таксама асьвятліць даную пастанову ў друку.

### Аб вывучэньні самазабойстваў сярод партыйцаў і камсамольцаў

ЦКК у маі месяцы разаслала ліст усім АКК КП(б) Бел. з даручэньнем прыступіць да вывучэньня пытаньня аб самазабойствах сябраў і кандыдатаў партыі і камсамольцаў у КП(б)Бел. і ЛКСМБ за 1927 г. і I-ы квартал 1928 г.

У лісьце паказваецца, што маючыя выпадкі самазабойстваў і замахаў на самазабойствы членаў партыі і камсамольцаў, а таксама, у асобных выпадках, і самазабойствы членаў сем'яў камуністых, пры азнаямленьні з імі паказваюць, што на гэтае хваравітае зьявішча ў партыі—ячэйкі і райкомы партыі звароч-ваюць замалую ўвагу, кожны паасобны выпадак самазабойства вывучаецца ня поўна, а падчас нават бывае, што ўсё расьсьледваньне зводзіцца да абвінавачваньня самазабойцы ў нявытрыманасьці, слабахарактарнасьці і г. д. Асноўная-ж частка расьсьледваньня, якая ўскрывае прычыны штурхнуўшыя на шлях самазабойства, застаюцца нявысьвятленымі.

Нямала ёсьць выпадкаў самазабойства на глебе склокаў, падседжваньня, бюракратычнага, бяздушнага падыходу да таварышоў. Досыць яскрава гаворыць факт самазабойства камсамольца Гомельскай арганізацыі т. Аронава, які працуючы ў ЦРК, украў плітку шакаладу, Бюро-ж камсамольскай ячэйкі падышло да яго фармальна,—як да закаранелага злодзея, выключыла без прымяненьня выхаваўчых мер і такі чорствы падыход штурхнуў хлапчука 16 год на самазабойства.

Ёсьць іншы шэраг фактаў, паказваючых адсутнасьць чуласьці з боку партарганізацыі да членаў партыі ў іх цяжкія хвіліны.

У большасьці выпадкаў самазабойствы здараюцца на глебе сямейных неладоў і тут ёсьць выпадкі самазабойства таксама і жанок партыйцаў.

Для вывучэньня гэтага пытаньня, якому ЦКК КП (б) Бел. прыдае вялікае значэньне, усе паказаныя вышэй моманты павінны быць улічаны. Вывучэньне гэтага пытаньня праводзіцца сумесна з КК ЛКСМБ і скончыцца да 15/VI г. г. ЦКК прапанавала ў далейшым па кожным паасобным выпадку самазабойства ўтвараць расьсьледаваньне і матар'ял прадстаўляць у ПК ЦКК КП (б) Б.

### Аб нарушэньні нацпалітыкі ў адносінах беларусізацыі

У заметцы, зьмешчанай газ. „Зьвязда“ № 82 „Вялікадзяржаўныя бюрократы“, было паказана, што Аргаддзел Дарпрафсожа Паўночна-Зах. чыгункі афіцыйна выступіў супроць беларусізацыі работы праф-

органаў на Дноўскім вучастку па абслугоўваньню мясцкомам гэтага вучастку ў межах БССР. ЦКК пастанавіла паведаміць фракцыі Чыгунаўнікаў і Паўночна-Зах. Абласную КК УсеКП (б) для узьдзейнічаньня і суадпаведнага рэагаваньня. ЦкК КП (б) Бел. з свайго боку лічыць няправільным выступленьне Аргаддзелу Дар-прафсожу, які не адпавядае дырэктывам партыі ў галіне нацпалітыкі і пастанавіла аб гэтым рашэньні абавясьціць у друку.

### Аб ненармальных зьявішчах у Белдзяржкіно

По вытваранаму расьсьледаваньню ненармальных зьявішч у Белдзяржкіно—на падставе заметкі „Таямніцы Белдзяржкіно", зьмешчанай у газ. „Чырвоная Зьмена" № 37 ад 4/IV г. г. ЦКК пастанавіла:

Лічыць, што факты адносна кіно-будак і прапускоў, паказаных у заметцы ў асноўным падцьвердзілася і, што з боку партячэйкі прымаліся некаторыя, адносна гэтых зьявішч меры яшчэ да зьмяшчэньня заметкі ў друку.

Адносна-ж абвінавачваньняў Белдзяржкіно ў безгаспадарчасьці лічыць пытаньне нягрунтоўным, як гэта выяўлена папярэднім абсьледваньнем НКРСІ.

Кіраўніку Белдзяржкіно прапанована: а) безадкладна прыняць меры па ўстанаўленьню сталай сыстэмы вучоту, выдачы і кантролю прапускоў для выкананьня пастаноў Калегіі НК РСІ Бел. (да 21/1-28 г.), б) прыняць суровыя адміністрацыйныя меры спагнаньня да загадчыка Эксплёатацыйным Аддзелам за злоўжываньні дарэмнымі прапускамі і пратэкцыянізм, в) у мэтах падняцьця працдысцыпліны перакінуць у сярэдзіне БДК шэраг працаўнікоў кіно-тэатру, а ў далейшым узмацніць кіно тэатры партыйцамі і камсамольцамі.

Прыняць да ведама, што па пастановах ячэйкі БДК за брыдкія і недапушчальныя паступкі кандыдат партыі Райцес і камсамольцы: Гэлер, Красік і Левін прыцягнуты да адказнасьці.

Даручыць партячэйцы кіно-тэатральных працаўнікоў прасачыць за правядзеньнем гэтых мерапрыёмстваў, паказаўшы Бюро партячэйкі на памылковасьць пастановы Бюро ад 5/IV г. г., у якой прынята няверная пастанова наконт патрабаваньня прыцягненьня да адказнасьці працаўнікоў рэдакцыі „Чырвоная Зьмена" за зьмешчаны ёю фэльетон „Таямніцы Белдзяржіно".

Побач з гэтым адначасова зьвернута ўвага рэдакцыі газ. „Чырвоная Зьмена" на тое, што форма выкладаньня артыкулу не суадпавядае ў поўнай ступені меркаваньням дзелавой крытыкі.

# БІБЛІЯГРАФІЯ

## Кніжка аб Польшчы

### В. Друнин „Польша, Россия и СССР“, гістарычныя нарысы з прадмовай Ф. Кона. ГИЗ 1928

Тав. В. Друнін, які мае бязумоўную заслугу прысваеньня расейскае мове некалькі прац аб Польшчы, выдаў сваю новую кніжку пад назвай „Польша, Россия и СССР“.

Што сярод чытачоў нашае дзяржавы расьце зацікаўленьне да нашага найбуйнейшага суседа—Польшчы відно хоць-бы са ўзрастаючага запатрабаваньня на друкаваныя працы аб Польшчы і выданьня на працягу апошніх некалькі год шэрагу кніжак аб ёй. Тэма Польшча—Расея была ў некаторых з іх парушана, але толькі павярхоўна—дзеля гэтага вельмі своечасовым зьяўляецца абмаўленьне ў паважнейшай працы гэтае тэмы, якой прысьвечана кніжка т. Друніна.

Праца т. Друніна ахапляе пэрыяд ад X-га века да найноўшых амаль часоў (да перавароту Пілсудзкага ў Польшчы). Нажаль, аднак-жа, аўтар у сваёй працы ня выпукліў, ня высунуў на першы плян таго, што мае асаблівае значэньне і спэцыяльна цікавіць нашага чытача, гэта знача ваенны і паваенны пэрыяд. Вельмі шырока ў параўнаньні з іншымі матар'яламі, на грунце апрацоўкі шмат матар'ялаў, аўтар піша аб пэрыядзе пястоўскай Польшчы, у той час, калі „вызволёнай Польшчы“ ён аддае толькі палову таго месца, якое вызначыў пястоўскай Польшчы. Гэта такая дыспрапорцыя, якая сама праз сябе значна прыніжае вартасьць абгаварваемай працы, бо найважнейшае значэньне для нашых працоўных мас мае апошні пэрыяд. У вельмі малым стопню апраўдвае аўтара ўказаньне на тое, што гэта „гістарычныя нарысы“.

Пры гэтым трэба падкрэсьліць, што аўтар, ня гледзячы на свае найлепшыя імкненьні,—ня здолеў даць марксысцкага агляду гісторыі Польшчы. Уся гістарычная частка кніжкі носіць характар компіляцыі, апрацаванай чалавекам слаба азнаёмленым з гісторыяй Польшчы і таму даўшага шмат памылак, гістарычных „нясьцісласьцяй“. Але ня толькі частка, якая належыць да мінулай польскай гісторыі, грашыць такімі памылкамі. Тое-ж тычыцца і бліжэйшага пэрыяду: узьнікненьня работніцкага руху ў Польшчы. Напрыклад, аўтар ані слова не ўспамінае аб расколе ў ППС, ані аб тактыцы „лявіцы“ ППС, ні аб сялянскім руху ў 1905 г. і г. д. і г. д.

Аднак-жа ня гэта зьяўляецца найвялікшым недахопам кніжкі. Галоўная яе памылка ў іншым. Аўтар закончыў, як мы ўжо гаварылі, сваю працу пераваротам Пілсудзкага. Якую-ж ацэнку перавароту ён дае? Цалком памылковую ацэнку тагочаснага (май 1926 г.) кіраўніцтва камуністычнай партыі Польшчы, ацэнку, якую яно сама потым зьліквідавала. Уся цытата, якой аўтар канчае сваю працу гаворыць аб тым, што „Пілсудзкі вядзе фактычна да грамадзкай капітуляцыі перад фашызмам“ і наогул разглядвае пераварот Пілсудзкага не як фашыстоўскі пераварот, але як „асуджаны на бясьсільнасьць у адносінах да фашызму“. А тав. Друнін ад сябе піша іншымі словамі, дадаючы, што „КПП адказала на падзеі арганізуючы мітынг“, на якім пасол Сахацкі „выступіў з заклікам стварэньня адзінага работніцкага фронту“. Аўтар ані водным словам не паказвае на тое, што ЦК КП Польшчы заклікаў тады да адзінага фронту для падтрыманьня Пілсудзкага—гэта значыць, што тагочасная тактыка нашае братняе партыі была поўнасьцю памылковай, што яна ў далейшым сама і прызнала. Пасьля правядзеньня вялізарнай дыскусіі па пытаньнях аб характары перавароту Пілсудзкага, пасьля прызнаньня фашыстоўскага характару майскага перавароту ў Польшчы ўсімі—аўтар з разбройваючай наіўнасьцю выпушчае на кніжны рынак СССР кніжку, у якой ён папракае Пілсудзкага за ня досыць энэргічную барацьбу . . . з фашызмам!

Кніжка была выдадзена ў пачатку 1928 г. Друкаваньне ў пралетарскай дзяржаве вышэйпаказаных думак аб перавароце Пілсудзкага ў 1926 г. зьяўляецца па меншай меры дзіўным, друкаваньне іх у 1928 г. бяз слова крытыкі зьяўляецца проста недапушчальным.

Калі мы нават вылучым іншыя памылкі, недахопы і няяснасьці гэтай кніжкі—выданьне іх хоць-бы толькі па прычыне ўказаных „выясьненьняў“ сутнасьці майскага перавароту зьяўляецца паважнай памылкай. Мы гаворым „іншыя памылкі“—бо іх вельмі многа. З палітычных памылак мы пакажам толькі на дзьве. Першая—калі аўтар гаворыць аб прычыне выхаду ППС з коаліцыйнага ўраду Скшынскага - дык ён выясьняе гэты крок тым, што ППС'аўскія правадыры

не жадалі браць на сябе адказнасьці „за рэпрэсыі да рабочых у дзень 1-га мая“. Гэта, зразумела, зусім неправідлова, таксама як неправідлова сьцьвярджэньне, што савецкая армія ў 1920 г. „чула сябе на занятых ёю абшарах абкружанай са ўсіх бакоў ворожасьцю і здрадай“. „Са ўсіх бакоў“— аўтар відаць ня ведае аб тым, што гарадзкі і вясковы пралетарыят амаль паўсюды падтрымоўваў Чырвоную армію—падтрымоўваў савецкую ўладу. Пакажам яшчэ на такія „кур'ёзы“, як перанясеньне тав. Друніным гораду Вялічкі з-пад Кракава на... Карпаты (старонка 196), або проста дзіўнае сьцьвярджэньне, што ў Польшчы з лясоў „засталіся толькі мізэрныя ўспаміны“ (25% вывазу Польшчы складаецца з лесу; трэба дадаць, што зразумела небясьпека зьнішчэньня лясоў у Польшчы пры сучаснай гаспадарцы вельмі вялікая).

Аўтара кніжкі можа часткова апраўдаць няведаньне польскіх суадносін. За тое незразумелым для нас зьяўляецца адсутнасьць хоць-бы аднаго слова крытыкі і выясьненьня нячуванае памылкі ў ацэнцы фашыстоўскага перавароту ў прадмове, напісанай т. Конам. Гэтая памылка добра знаёма т. Кону, які сваю прадмову пісаў пасьля пастановў Камуністычнага Інтэрнацыяналу па гэтаму пытаньню, пасьля IV-га Зьезду КПП у канцы 1927 г. Аднэй толькі недакладнай знаёмасьцю з абгаварваемай працай можна-б тлумачыць прамаўчаньне гэтае памылкі т. Конам. Але незразумела, чаму аднак-жа прадмова рэкомэндуе кніжку тав. Друніна марксысцкаю? Не зразумела таксама дзеля чаго кніжка, уводзячая ў памылку чытача, зацямняючая зразуменьне таго, што адбываецца ў сучасны момант у Польшчы, была горача рэкомэндована ў канцы 1927 г.?

Але і ў самой прадмове мы спатыкаем вельмі спрэчныя, мякка выказваючыся, палажэньні, як напрыклад, што „Пілсудзкі імкнецца ўсімі спосабамі дэзарганізаваць усе раней існаваўшыя партыі і арганізаваць сваю „надклясавую“ партыю. Гэта папхнула ППС на шлях апазыцыі“. Тутака не падкрэсьлена тое, што зьяўляецца найважнейшым, што праваднікамі фашызму, яго апораю зьяўляюцца „ўсе раней існаваўшыя партыі“, пры чым зусім ня „гэта“ выклікала псэўда-апазыцыю ў ППС, а неабходнасьць лічыцца з настроямі радыкалізуючыхся працоўных мас.

Зразумела, ня трэба думаць, што кніжка т. Друніна ня мае вельмі вартасных месц. Натуральна, гэта ня так. У кніжцы сабрана шмат каштоўнага гістарычнага матар'ялу, шмат момантаў прадстаўляе сапраўдную каштоўнасьць. Мы, аднак-жа, думаем, што памылкі пераважаюць і дзеля гэтага мы ў першую чаргу затрымаліся на іх. Яны робяць кніжку шкоднаю.

*Ян*

---

Ад рэдакцыі. У № 5 пад рэцэнзіяй на А. Смоліч „Організацыя сялянскай гаспадаркі ў цэнтральных раёнах Беларусі“—выпаў подпіс N.




Адказны рэдактар *В. Кнорын*

Члены рэдколегіі { *А. Сянкевіч*, *Абрамчук* }

# ЗЬМЕСТ


Стар.

**В. Кнорын**. Аб самакрытыцы, ініцыятыве мас і савецкіх бюрократах . . . 3

**У. Ігнатоўскі**. Да пастаноўкі пытаньня аб паўстаньні 1863 году . . . . 7

**Не профессор**. Об одном профессорском документе . . . . . . 18

**А. Дубіна.** Роля сельска-гаспадарчага крэдыту ў сельскай гаспадарцы і нашы задачы 30

**Л. Левін. і З. Федарынчык**. Аб дапамозе беднаце . . . . . . 37

**М. Зерницкий**. На путях осуществления директив XV парт'сезда . . . 48

**Ж. З**. К вопросу о советской демократии . . . . . . 56

**П. Пасюкевіч**. Праца насьценных газэт на прадпрыемствах . . . . 61

## НАША ТРЫБУНА

**С. Гельтман.** К вопросу о нацыоналбольшевизме . . . . . . 65

**Е. Ривлин**. О задачах комвуза . . . . . . . . . . 91

**Янка Мялешка**. Не пісаньне, а жывое інструктаваньне . . . . 97

## НА МЯСЦОХ

**Б. Шпітальнік**. Партыйная арганізацыя на Мазыршчыне . . . . 99

**З. Чухман.** Состояние ячейки трудколлективов (Гомель) . . . . 102

**М. Шапіра**. Масавая работа, як яна ёсьць . . . . . . 106

## У ЦК КП(б)Б

Пастановы ЦК КП(б)Б аб беларускай літаратурнай, мастацкай і тэатральнай крытыцы 115

Пастановы Бюро ЦК КП(б)Б аб вылучэньні работніц і сялянак на кіраўнічую работу 117

Рэзалюцыя сакратарыяту ЦК КП(б)Б аб масавай палітасьветнай працы на вёсцы 117

Рэзалюцыя Сакратарыяту ЦК КП(б)Б аб масавай вайскавай агітацыі і прапагандзе 120

## ПАРТЫЙНАЯ ХРОНІКА

У ЦК КП(б)Б . . . . . . . . . . . 121

У ЦКК КП(б)Б . . . . . . . . . . . 122

## БІБЛІЯГРАФІЯ

Кніжка аб Польшчы . . . . . . . . . . 126

